# Помнікі беларускага пісьменства 18-га стагоддзя











**Помнікі беларускага пісьменства 18-га стагоддзя**

аўтарскае выданне
Менск, 2021

Уклалі: Алёхна Дайліда, Галіна Ціванова, Марына Свістунова

Дзякуем за помач падчас укладання зборніка:

Дзянісу Лісейчыкаву за ўзычаныя матэрыялы і парады

Антону Францішку Брылю за ўзычаныя матэрыялы і парады

Дыяне Петрыкевіч за ўзычаную помач

Аляксандру Петрушэню за ўзычаную помач

Дзмітрыю Казакевічу за ўзычаную помач

грамадзе аддзела міжбібліятэчнага абанемента Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і асабіста Людзміле Курылінай

грамадзе Інстытута мовазнаўства Цэнтра даследванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і асабіста Эльвіры Ярмоленка

грамадзе Інстытута літаратуразнаўства Цэнтра даследванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і асабіста Вадзіму Кораню

грамадзе Украінскага Нацыянальнага музея ў Львове імя А. Шаптыцкага і асабіста Ігару Кажану і Ганне Наўроцкай

грамадзе Бібліятэкі Акадэміі навук Летувы імя Урублеўскіх і асабіста Эрыцы Кулешэне

грамадзе Дзяржаўнага гістарычнага архіву Летувы і асабіста Руце Шымуле

грамадзе Курніцкае бібліятэкі Польскае акадэміі навук і асабіста Аляксандры Лёсік-Сідорскай і Крыштафу Ратаю

грамадзе Польскага Нацыянальнага музея ў Кракаве і асабіста Дароце Атвіноўскай і Агаце Ральскай

грамадзе Бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта і асабіста Ганне Віркус і Лукашу Ратайчаку

## Змест:

## Прадмова

Васямнаццатае стагоддзе дагэтуль застаецца ў беларускай гістарыяграфіі адным з самых цёмных, недаследаваных – “забытым стагоддзем”, як яго назваў адмысловец па гэтым перыядзе Андрэй Мацук[1]. У айчынным моваznаўстве доўгі час пераважаў погляд, што “ў XVIII ст. зусім спынілася ўжыванне беларускай мовы ў пісьменнасці”[2], “XVIII ст. выглядае амаль цалкам запусцелым”[3]. Хаця былі і погляды, што “XVIII ст. – гэта не “белая пляма” ў развіцці беларускай пісьменнасці, як часам мяркуюць на падставе абмежаванай колькасці дайшоўшых да нас пісьмовых помнікаў”[4]; “беларуская мова (...) працягвала развівацца не толькі ў вуснай, але і ў пісьмовай разнавіднасцях”[5].

Нястача гістарычных крыніц, прагалы ў палітычнай гісторыі краю дагэтуль дазваляюць існаваць уяўленням аб быццам “знікненні беларускай кніжнасці” або “поўным культурным заняпадзе” нашага народу ў гэтым перыядзе. Між тым, рэдка агучваюць той факт, што само становішча надзвычайнай рэдкасці беларускіх пісьмовых крыніц 18-га стагоддзя ёсць вынікам расійскае акупацыі, вынікам тых вогнішчаў з стосаў кніг, якія гарэлі на нашых землях у канцы 18-га і ўсю першую палову 19-га стагоддзя. Расійская акупацыя была знітавана з жорсткім перафарматаваннем літвінаў-беларусаў у “сялянскі народ”, у якога па вызначэнні не можа быць багатае кніжнасці. Пасля брутальнага знішчэння і выкрадання тысяч нашых кніг і пісьмовых помнікаў (пераважна нядаўняга перыяду – то бо 18-га стагоддзя) расійскай прапагандзе было лёгка перайсці да міфа аб “прыгнечаным бездзяржаўным народзе”, які ў 18-ым стагоддзі быццам не меў ніводнае кнігі ва ўласнай мове (міф, які існуе дагэтуль).

Асобна трэба спыніцца на тэме быццам “забароны беларускае мовы ў 1696 г.”, якая актыўна мусіравалася расійска-савецкаю прапагандаю ў 19–20 ст. дый дагэтуль папулярна сярод даследнікаў адпаведнага напрамку. Мова пра пастанову канфедэрацыйнага сойму з 29 жніўня 1696 г. аб ураўнаванні (“каэквацыі”) правоў шляхты ВКЛ і Польшчы, адзін з пунктаў якое загадваў ужываць ва ўрадавых установах ВКЛ польскую мову[6]. Гэты пункт тычыўся толькі справаводства вялікакняскае канцылярыі і судовых установаў і не пашыраўся на справаводства іншых установаў[7].

А. Грыцкевіч адзначыў: “Замена афіцыйнай беларускай мовы на польскую ў Вялікім Княстве Літоўскім адбылася ў 1696 годзе, але абставіны гэтай замены былі не такія, як гэта падавалася ў расейскай дарэвалюцыйнай ды савецкай беларускай гістарычнай літаратуры. Ніхто тады беларускую мову не забараняў, як гэта часта падавалася ў падручніках і падаецца нават цяпер у артыкулах. (...) Гэты пункт пастановы [сойму 1696 г.] азначаў, што беларуская мова не забаранялася (у тэксце няма такой забароны), усе афіцыйныя акты на

беларускай мове захоўвалі сваю сілу, аднак яна страціла статус дзяржаўнай мовы. А гэта ўжо вяло да яе заняпаду. У XVIII стагоддзі на тэрыторыі Беларусі і Летувы ў афіцыйных установах (і перш за ўсё ў розных судах, ад павятовага да Галоўнага трыбуналу Вялікага Княства Літоўскага) усе суддзі павінны былі ведаць нароўні з польскай і беларускую мову. (...) Шанавалася беларуская мова таксама сярод вуніяцкага духавенства, пашыралася ў школах пры вуніяцкіх манастырах і цэрквах, выкарыстоўвалася часткова ў набажэнстве і казаннях”[8].

Агляд прыточаных у дадзеным зборніку матэрыялаў чыста зняпраўджвае расійскую прапагандысцкую ідэю аб быццам “забароне беларускае мовы ў 1696 г.”. Гэтую ідэю адпрэчвае ўжо факт друку ў 1700 г. у Супраслі новае рэдакцыі базылянскага катэхізіса і факт выдання ў 1722 г. у Супраслі новага разлеглага тлумачальнага катэхізіса “простым языком”. Такой жа народнаю ў аснове моваю былі выдадзены супрасльскія катэхізісы 1759 і 1788 гг. У канцы 18-га стагоддзя быў друкаваны (лацінкаю) яшчэ адзін уніяцкі катэхізіс у народнай мове[9]. Перадрукоўваліся старыя кнігі: гэтак, у 1735 г. у Горадні быў друкаваны “Венец Хрыстов” А. Радзівілаўскага, у 1743 г. у Супраслі Астрожская Біблія[10]. Вядома, што між 1771 і 1792 г. было друкавана нямала “кантычак” (спеўнікаў) у народнай мове[11]. Чыста зняпраўджваюць ідэю аб “забароне” народнае мовы ў справаводстве прыточаныя ў дадзеным зборніку справавыя дакументы 1729, 1735 гг., метрычныя запісы 1717–1718, 1741–1744, 1759–1761 гг., цэхавы статут 1763 г., апублікаваныя Н. Мажэйкай і А. Ігнатовічам урыўкі з справавых дакументаў 1774–1783 і 1791–1797 гг.[12]. Вядома, што адозвы Т. Касцюшкі ў 1794 г. друкаваліся па-беларуску[13].

Як просты люд, так і шляхта Вялікага Княства Літоўскага захоўвалі свядомасць свайго нацыянальнага адрознення і адрознення сваёй мовы ад польскай. Напрыклад, у 1776 г. Бартко Ходзька, служка нясвіжскага двара Радзівілаў, у Любліне выхваляўся перад палякамі адрознасцю Літвы ад Польшчы і казаў, што не разумее “караняжаўскай” мовы[14]. У 1791 г. віленскі земскі суддзя Тадэвуш Корсак прамаўляў на Чатырохгадовым сойме з “літоўскім акцэнтам”, які ўражваў палякаў[15]. Ва ўкраінскіх п’есах 1737[16], 1746, 1771 гг., у якіх прадстаўнікі розных народаў гавораць кожны сваёй мовай, персанаж Літвін размаўляе гутарковаю беларускаю моваю. Прамаўляць казані ды навучаць люд у “народнай мове” (vernacula lingua) загадвалі сіноды Віленскага біскупства 1717 і 1744 гг.[17] ды ліст каталіцкага архібіскупа Магілёўскага Станіслава Богуш-Сестранцэвіча з 1794 г.[18]

Такім парадкам, нават на грунце нямногіх вядомых сёння матэрыялаў (а ў замежных архівах застаецца вялізная лічба такіх неапублікаваных матэрыялаў) можна ўчыніць ясную выснову, што ў 1696 г. у ВКЛ адбылася не “забарона” беларускае мовы, а адно абмежаванне яе ўжытку: афіцыйнаю моваю вялікакняскае канцылярыі і судоў сталася

польская, у той час як “руская” (кніжная беларуская) мова працягвала ў значнай меры быць моваю справаводства ніжэйшых устаноў, моваю кніг і адукацыі. “У гэтай мове і пасля пастановы сойму 1696 г. складалі разнастайныя дакументы: прыходна-расходныя кнігі, духоўныя тэстаменты, продажныя і закладныя акты, сведчанні аб шлюбе, нараджэнні і смерці, дакументы аб падзеле маёмасці, прыватныя лісты і г.д. З XVIII ст. захавалася вялікая лічба справавых запісаў у беларускай мове”[19].

Нават павярхоўны агляд ацалелых пісьмовых помнікаў сведчыць аб шырокім існаванні кнігі і наогул пісьмовых тэкстаў у народнай мове ў Вялікім Княстве Літоўскім (Беларусі) 18-га стагоддзя. Гэта былі самыя разнастайныя паводле жанраў пісьмовыя творы: у дадзеным зборніку прадстаўлены катэхізісы і іншыя рэлігійныя творы, запісы з метрычных кніг, магістрацкія, цэхавыя і іншыя акты, свецкія вершы і песні, рэлігійныя канты, драматургічныя творы. Вядомы назовы кніг (не ўсе гэтыя кнігі яшчэ адшуканы), выдадзеных на працягу ўсяго 18-га стагоддзя друкарнямі Супраслеўскага і Жыровіцкага манастыроў, у Горадні, Вільні, Магілёве, Полацку[20]. Не даследаваны абсяг ужывання ў 18-ым стагоддзі беларускае лацінкі, хаця нават рэдкія крыніцы паказваюць, што ён быў вельмі шырокім. Па-ранейшаму застаецца недаследаванаю з беларускага нацыянальнага гледзішча дзейнасць Літоўскае Адукацыйнае камісіі 1773–1793 гг.

Дадзены зборнік ёсць спробаю агульнага агляду беларускіх пісьмовых помнікаў 18-га стагоддзя. У ім пададзены некаторыя вядомыя сёння пісьмовыя помнікі, створаныя ў беларускай або змяшанай беларуска-царкоўнаславянскай мове ў розных мясцовасцях Вялікага Княства Літоўскага. Далейшае даследаванне нашае літаратуры і пісьмовае спадчыны, безумоўна, вярне нашаму народу яго кніжнасць ва ўсім яе багацці.

Пададзеныя ў гэтым зборніку тэксты апублікаваны не для ўласна навуковых мэт, а для агульнага знаёмства з іх лексікай і фразеалогіяй, таму падчас публікацыі тэкстаў мы ўжывалі прынцыпы найбольшага спрашчэння спачатнага пісьма і перадавання яго сродкамі сённяшняе беларускае графікі. У шэрагу выпадкаў (пры неадназначнасці чытання некаторых графем) падаем напісанне згодна з сённяшняй фанетычнай нормай.

1. А. Мацук. Забытае стагоддзе // Arche. 2011, № 6 (105). с. 5-7.
2. У. Анічэнка. Некаторыя пытанні развіцця беларускай мовы ў XVIII стагоддзі // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. 1961, № 4. с. 119.
3. М. Свістунова. Да праблемы пераемнасці беларускай літаратурнай мовы: лацінаграфічныя тэксты XVIII стагоддзя // Acta Albaruthenica. t. 20. Warszawa, 2020. с. 242-243.

4. Л. Шакун. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы: Вуч. дапам. для філал. факульт. выш. навуч. устаноў. Мінск: Універсітэцкае, 1984. с. 168.
5. У. Анічэнка. Некаторыя пытанні развіцця беларускай мовы..., с. 120.
6. Volumina legum. T. 5. Petersburg, 1860. s. 418.
7. Д. Лісейчыкаў. "Руская" мова метрычных кніг уніяцкіх цэркваў Вялікага Княства Літоўскага ў XVII–XVIII стагоддзях // Беларускі гістарычны часопіс. 2017, № 6. с. 14.
8. А. Грыцкевіч. Заняпад беларускай мовы ў беларуска-літоўскім гаспадарстве ў XVIII стагоддзі // Аняменне. З кронікі знішчэння беларускай мовы. Вільня, 2000. с. 18-19.
9. А. Станкевіч. Родная мова ў сьвятынях. // Спадчына, 1992, №1. с. 63.
10. В. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. с. 617, 618; Г. Сасна. Супрасльская друкарня і яе выданні. // Беларускі каляндар, 1981 г. Беласток, 1981. с. 196.
11. В. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі, с. 633.
12. Н. Можейко, А. Игнатенко. Древнерусский язык. Минск, 1978. с. 91-93.
13. А. Мальдзіс. І ажываюць спадчыны старонкі. Мінск, 1994. с. 99-100.
14. H. Rzewuski. Pamiątki starego szlachcica litewskiego. T. I. Warszawa, 1900. s. 120.
15. Юргайціс, Р. Парламенцкая дзейнасць паслоў з віленскага сойміка ў сойме Рэчы Паспалітай у 1717–1793 гг. // Arche. 2011, № 6 (105). с. 109.
16. Н. Петров. О словесных науках и литературных занятиях в Киевской академии от начала ея до преобразования в 1819 году. // Труды Киевской духовной академии. 1866, т. 4, ноябрь. с. 384.
17. Козловский, И. Судьбы русского языка в Литве и на Жмуди. // Вестник Западной России. 1869, т. IV. кн. 12, отд. II, с. 49.
18. А. Станкевіч. Родная мова ў сьвятынях, с. 63.
19. Н. Можейко, А. Игнатенко. Древнерусский язык, с. 91.
20. гл. напрыклад: В. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі, с. 613-633; Г. Сасна. Супрасльская друкарня і яе выданні, с. 193-205; А. Мальдзіс. Кнігадрукаванне Беларусі ў XVIII стагоддзі. // Книга, библиотечное дело и библиография в Белоруссии. Минск, 1974. с. 137-150; М. Богданович. Білоруське відродженнє. Відень, 1916. с. 9; А. Пяткевіч. Маршруты кніжнага слова. Варшава, 2002. с. 30-31.

# 1. З катэхізіса базылянскага ордэна, 1700 г.

(Дорожинскій Д. Матеріялы до исторіі житя и смерти св. священномученика Іосафата Кунцевича, архіепископа Полоцкого. Львов, 1911)

Катэхізіс Іасафата Кунцэвіча быў перароблены ў 1685 г. Язэпам Пяткевічам, сакратаром базылянскага ордэна, старшынёй быценскім. Гэтая версія катэхізіса была друкавана ў Супраслю ў 1700 г.

Падаем урыўкі з катэхізіса.

**КАТЕХІЗМ**
от слугі Божого Іосафата сочетанный

Вопрос: Што ест быті хрестіяніном.

Ответ: Ест быті крешчоным во імя Отца і Сына і Светого Духа, верыті і вызнаваті закон Ісус Хрыстов.

Вопрос: Што мает уметі тот, хто вызнавает закон Ісус Хрыстов.

Ответ: Тые чотыры речы: на прод вызнане веры; второе, молітіся Богу; третее, што чыніті і чого се стеречы, жебы се подобал Богу; четвертое, яко набываті ласкі божое албо помнажатісе в ней. Хто то умеет чыніті, ест істінным хрестіяніном і будет збавленым.

Вопрос: Яко се могут научыті лацно того.

Ответ: Научытісе мают на прод Сімволу албо Складу веры; второе, Молітвы господней, то ест Отче наш; третее, десеті заповедь божых; четвертое, о семі Тайнах Церковных.

Вопрос: Который ест Сімвол, албо склад веры?

Ответ: Верую во едіного Бога Отца вседержытеля, творца неба і землі. Второе, і во Ісуса Хрыста, Сына божыя, Господа нашего. Третее, зачfinsheгося от Духа Светаго, рожденна от Девы Марыя. Четвертое, страдавшого і погребенна. Пятое, сошедшаго во ад і воскресшаго із мертвых. Шестое, возшедшаго на небеса, седешча одесную Бога Отца вседержытеля. Семое, оттуду пакі грядушчаго судіті жывым і мертвым. Осмое, верую і в Духа Светого. Девятое, светую Церков соборную, Светых обшченіе. Десятое, оставленіе грехов. Одінадцатое, плоті воскресеніе. Дванадцатое, жызнь вечную. Амін.

То ест Сімвол Апостолскій, к тому ест і Нікійскій, которого пры службе божой і в правіле церковном зажываем.

Вопрос: Што се замыкает в том в том Сімволе.

Ответ: Дванадцат члонков веры хрестіанское, одін мовіт о Отцы, шесть о Сыне, пять о Духу Светом.

Вопрос: Што значыт словко “верую”?

Ответ: Значыт, іж я моцно держу і за реч певную маю все то, што ест в тых дванадцаті члонках, для того, іж научыл апостолов сам Бог, апостолове зась научылі церков, а церков научыла нас. А іж неподобна реч, жебы Бог мел кламаті, для того тые речы за певнейшые маю, ніж оные, которые очыма віжу і рукамі се дотыкаю.

Вопрос: Што значыт словце “отца”.

Ответ: Значыт, же он ест правдівым прырожоным отцем єдінородного Сына своего, ест отцем нашым, але през ласку, не прырожоным.

Вопрос: Што ест Церков Вселенская?

Ответ: Ест все собраніе верных под одною Головою невідімым Хрыстом а відімым Наместніком Хрыстовым.

Вопрос: А хто ж ест Наместніком Хрыстовым?

Ответ: Наступнік верховного апостола Петра, албовем одному Петру светому поручыл Хрыстос паству вселенскую, а не іншым апостолом, і для того тая власть зоставает толко пры наступніку Петровым, а не пры наступніках іншых апостолов, бо бы тым способом пастыров вселенскіх было дванадцат, чого жаден до тых часов не мовіл.

Вопрос: А о пастырех зас Восточных што розуметі маем.

Ответ: Суть епіскопамі, але еслі в єдіності з наступніком Петровым не будут, пастырамі не суть, спасені быті не могут так оні самі, яко і тые, которые за німі ідут.

Вопрос: В чом належыт тая едность?

Ответ: В том, жебы Вера одна была, хотя обрадкі церковные і набоженство іншое ест: в церквах нашых рускіх інакшое, у рымлян інакшое, Таін Светых, на прыклад Тела і Крові Хрыстовы, ужываем іначей мы, ніж рымляне, мы под двема особамі, а оні под одною, мы в кіслом хлебе, а оні в пресном, а предсе о тых тайнах еднаково верым, же не ест простый хлеб, ані простое віно, яко учат іноверцы, але же ест правдівым телом і кровію его, так іж теж в наймнейшой одробіне роздроблен[о]й ест целый Хрыстос, так веруем мы, так веруют рымляне.

Вопрос: Яко се деет грехов отпушчене?

Ответ: Деет ся през заслугу Господа нашего Ісус Хрыста і властію его, которую он дал апостолом, апостолове епіскопом, епіскопове іереом на розгрешеніе тых, которые се споведают.

Вопрос: А без споведі могут отпушчаті грехі?

Ответ: Могут, кгды будет сукрушеніе і хуть споведатісе.

Вопрос: Яко ж будет із мертвых Воскресеніе?

Ответ: В день судный із мертвых востанут всі людіе, умерлые добрые – слічные на душы і теле увелбеные, злые протівным обычаем – мерзеные і шкарадные.

Вопрос: Што ест жывот вечный.

Ответ: Ест хвала Царствія небесного, то ест відеті Бога і веселіті ся з нім навекі, маючы все доброе, без всякого зла, і там будут добрые, а злые пойдут во огонь до аду преісподняго на вечные мукі.

Вопрос: Чему Бога зовем Отцем, мовечы Отче наш?

Ответ: Жебысмо прыпомінаючы мілость незмерную, которою нас Бог мілует, для того з болшым безпеченством і уфностью просілі у него того всего, што нам потребно ест, яко детем у отца.

Вопрос: Чому ж мовім Отче наш, а не Отче мой?

Ответ: Же он ест отцем всіх людей, і мы есмо братія собе, і сыны так добротлівого отца.

Вопрос: Где ест Бог?

Ответ: Увезде, то ест на небесех і на землі, і на кождом местцу.

Вопрос: Чому ж мовім “іже есі на небесех”?

Ответ: Іж там дом наш векуістый, там светые відят ліце божое, і там се болш указует велічество божое.

Вопрос: Чы много замыкается в той молітве Господней?

Ответ: Сем речый, о которые просімо. Первая, жебысе розмнажала хвала божая, а замыкает ся в тых словех “да светіт се імя твое”.

Вопрос: А во второй прозбе о што просім?

Ответ: О благословенство наше найвышшое і о добро нашое, то ест жебы Бог над намі, тут на землі през ласку светую, а потом в небе през хвалу, царствовал, тую прозбу выражаем тымі словы “да прыйдет царствіе твое”.

Вопрос: Еслі не Бог кролеваті над намі, хто ж кролеваті будет?

Ответ: Непрыятелі душные, то ест свет, діявол і тело.

Вопрос: А в другіх зас прозбах што просім?

Ответ: В третей прозбе просімо, абысмо чынілі волю божыю так тут на землі, яко там в небе чынят ангелі і выбраные божые.

Вопрос: В четвертой прозбе о што просім?

Ответ: Абы нас опатрыл хлебом і выжывенем так телесным, яко і духовным, которое ест Тело і Кров его светая, также ласкі его сполне з іншымі дары Духа Светого.

Вопрос: А в пятой о што?

Ответ: Абы нам отпустіл грехі нашы і выступкі нашы, яко мы отпушчаем бліжнім нашым, бо се Господь бог будет з намі так обходіть, яко се і мы обходім з бліжнімі нашымі.

Вопрос: А в шостой о што?

Ответ: Абы нам не допустіл впасті в покусы, але жебы нам дал моц, абысмо іх моглі звытяжыті, а не грешыті.

Вопрос: А в семой о што?

Ответ: Абы он нас выбавіл от всего злого так душного, яко і телесного, от шатана непрыятеля нашого.

Вопрос: Которое ест найболшое злое зо всего злого?

Ответ: Грех.

Вопрос: Што ест горшего і шпетнейшого: грех чылі діявол?

Ответ: Грех без похібы, бо се діявол шкарадным не для чого іншого одно през грех зостал.

Вопрос: Яко часто тое молітвы ужываті?

Ответ: Што найчастей і найболей, рано уставаючы і ідучы спаті в вечор.

Вопрос: Где ест Пресвятая Богородіца?

Ответ: В небе.

Вопрос: А тая што в церкві?

Ответ: То ест образ тое, што ест в небе, абысмо на нее вспоміналі. А іж то ест образ ее, чынім ему честь прыстойную ку хвале той Пречыстой Деве.

Вопрос: Которая ест третея част повінності хрестіянское?

Ответ: Десеть заповедей божыіх, в которых замыкает ся то, што маем чыніті і чого се стеречы.

Вопрос: Мов же десеть заповедей божых.

Ответ: Першая. Аз есм Господь Бог твой, да не будут тобе бозі інные разве мене. Вторая. Не прыймі імені Господа Бога твоего всуе. Третея. Помні день Суботный светіті его. Четвертая. Чті отца твоего і матерь твою. Пятое. Не убій. Шостое. Не любодей. Семое. Не украді. Осмое. Не послушествуй на друга твоего свідітелства ложна. Девятое. Не пожадай

жоны іскренего твоего. Десятое. Не пожадай дому бліжнего твоего, ні села его, ні раба его, ні рабыні, ні вола его, ні осла его, ні всего скота его, вся еліка бліжнего твоего суть.

Вопрос: Колі Бог тую десеть заповедей уставіл?

Ответ: Первей в Законе Старом. Потом Хрыстос в Новом потверділ.

Вопрос: Яко ж заховуем вторую заповедь?

Ответ: Хвалечы господа Бога і дякуючы ему языком нашым і просечы од него потреб нашых.

Вопрос: Хто грешыт протівко сей заповеді?

Ответ: на прод тые которые блюжнят імя божое і светых его, так і тые которые прысегают где не ест реч правдівая і потребная. Потом і тые которые не держат шлюбов обецаных, і іншые которые не чынят повінності і учтівості імені божому.

Вопрос: Чому мовіш “где не ест реч правдівая, справедлівая і потребная”?

Ответ: Іж прысега мает быті о реч правдівую которая бы не была фалшывая, і о которой бы первей ведал, і о реч справедлівую, которая бы была позволенная, о реч правную которая бы важыла што, бо іначей не будет без греха. І надто потреба учтівості ку тому през кого прысегают.

Вопрос: Ведаеш же якое лекарство жебы ніколі зле не прысегаті.

Ответ: Ведаю: ніколі не прысегаті.

Вопрос: А яко ж мовіті хотечы кому прыречы што.

Ответ: Так ест, або не так ест, правдіве, заісте, албовем то не ест прысега, але еслі што болш прыдасі то уже не добре.

Вопрос: Яко ж заховуем третюю заповедь которая кажет света светіті.

Ответ: Показуючы зверхнімі учынкамі веру і мілость, которую на сердцу маем.

Вопрос: В чом же ее указоваті.

Ответ: Не робечы того дня, забавляючысе набоженством церковным, а меновіте слуханем Службы божое, з набоженством і с пілностю стараючысе абы іншые нам порученые слухалі Службы божое.

Вопрос: Што болш чыніті?

Ответ: Мел бы се тот день стравіті на речах которые належат ку Службе божой, яко на молітве в чытаню кніг божых і слуханю іх, в справованю учынков мілосердных.

Вопрос: Яко ж заховуем четвертое прыказане в тшченю отца і маткі.

Ответ: Маем іх слухаті і меті в учтівості, і служыті ім, і вспомагаті іх.

Вопрос: А еслі бы отец твой росказал мовіті якую неправду албо якій грех учыніті, чы должен есі его слухаті?

Ответ: Не должен естем его слухаті в речах протів Богу, але толко в речах позволеных і учтівых.

Вопрос: Як розмаітые отцеве найдуют ся?

Ответ: Чворакіе. На прод отцове прырожоные, которые нас зроділі, также і дедове. Вторые отцове духовные яко сут іереове, преложоные духовные і научытелі. Третіе королеве, старостове і преложоные свецкіе. Четвертые старые люді для старості іх, а тых всіх вінны есмо меті в учтівості кождого водлуг стану іх.

Вопрос: Што мают чыніті добрые отцове з сынамі своімі?

Ответ: Мают іх учыті і справоваті, ані назбыт караючы, ані назбыт роспушчаючы, але того і ового водлуг розуму ужываючы.

Вопрос: Яко се мают слугі албо подданые заховаті ку паном своім?

Ответ: Яко сын отцу своему будучы ему послушным і чынечы ему почтівость яко Господу нашему Ісус Хрысту.

Вопрос: А панове яко се мают заховаті протівко слугам?

Ответ: Так яко отцове протівко сыном, яко братія о Хрысте.

Вопрос: Которая ест шостая заповедь?

Ответ: Не любодей.

Вопрос: Яко се заховать маем около того прыказаня?

Ответ: Тым способом: стеречысе вшелякое спросності телесное і неучтівості, не толко в учынках, але і в слове і на мыслі, яко Господь Бог в десятой заповеді заказует.

Вопрос: Якого лекарства зажываті маем ку захованю тое заповеді?

Ответ: Ест не малое але тое пять межы іншымі. Первое жебы мерным в еденю і в пітю. Второе стеречы ся злого товарыства. Третее, не чытаті кніг вшетечных, не мовіті злого ані спеваті песні неучтівых ані іх слухаті іле быті может. Четвертое, часто споведатісе і прычешчатісе. Пятое просіті господа Бога о чыстость пречыстое девы Марыі, жебы нам ее у Хрыста Бога одержала.

Вопрос: Которая ест семая заповедь?

Ответ: Не украді.

Вопрос: Што се в той заповеді замыкает?

Ответ: Жебысмо не бралі, ані держалі нічого чужого, ані кгвалтом, ані здрадою, ані помочю, ані радою, ані жадною прычыною прыводечы до шкоды другого.

Вопрос: Якож заховуем осмую заповедь?

Ответ: Не мовечы фалшу протів бліжнему, не шемречы, не обмавляючы, не открываючы грехов потаемных, хіба бы для улеченя іх тому, кому належыт, албо для іншого доброго конца, не посужаючы бліжнего, не мовечы неправды. Але рачей мовечы о каждом добре так, яко бысь хотел, жебы о тобе іншые добре мовілі.

Вопрос: Яко заховуем девятую заповедь?

Ответ: Не жадаючы чужое жоны ані жадное іншое неучтівості, а для того ест потребно стеречы очый і іншых смыслов, вароватісе для устереженя сердца, утекатісе до молітвы для звытязства покус.

Вопрос: Яко заховуем десятое прыказане?

Ответ: Не жадаючы маетності ані жадное речы бліжнего неслушным обычаем, ані ему зайзречы добра его.

Вопрос: Может лі се в короткості замкнуті, што се поведело в десеті заповедех божых?

Ответ: Может в двух заповедех о любві: Возлюбішы Господа Бога над все, а бліжнего яко сам себе для господа Бога. В тых короткіх словах весь Закон Божый замыкает ся і все, што колвек ест в Пісме Светом.

Вопрос: Еслі суть іншые заповеді Церковные?

Ответ: Суть. А лічым іх пять. Первая света от церкві уставленные светіті, то ест Службы божые в тые дні слухаті. Вторая, постіті в дні певные в которые церков прыказала заховаті і покармов заказаных в тые дні не зажываті, а меновіте чотыры посты през рок. Третея, споведатісе грехов своіх пред іереом маючым власть от старшых своіх на то. Четвертая, Тело і кров Хрыстову прынамней раз в рок а звлашча в Велікдень прыняті. Пятая, десятіны справедліве выдаваті.

Вопрос: Чому Церков ужывает розмаітых обрадков і церемоній?

Ответ: Напрод для болшее учтівості і прытомності хвалы божое. Вторая для взрушенія людей ку набоженству, абы през речы позверховные вырозумелі внутрніе. Третея іж маем от господа Бога душу і тело, для того маем Ему оным служыті, чым і душу і тело до набоженства повабіті можем, і такіе суть обрадкі церковные.

Вопрос: Суть же якіе іншые дела добрые, которые не суть выражоные в десеті заповедех божыіх.

Ответ: Суть, сем учынков мілосердных, одны водлуг духа, другіе водлуг тела.

Вопрос: Которые сут учынкі мілосердные телесные?

Ответ: Алчушчого накорміті, вторая жаждушчого напоіті, третея нагого прыодеті, четвертая вязня откупіті, пятая недужного наведіті, шостая странного в дом прыняті, семая умерлого поховаті.

Вопрос: Которые суть учынкі мілосердные водлуг духа.

Ответ: Первая грешного от греха отводіті. Вторая неумеетного научыті. Третяя вонтплівому добре порадіті. Четвертая за бліжнего Богу молітіся. Пятая смутного потешыті. Шостая крывду скромне зносіті. Семая образу отпустіті.

Вопрос: Чы много ест фундаменталных Цнот?

Ответ: Чотыры. Первая Ростропность, вторая Мужность, третея Справедлівость, четвертая Мерность.

Вопрос: Чы много ест даров Духа Светого.

Ответ: Сем. Первая мудрость. Вторая вырозумене. Третея порада. Четвертая умеестность. Пятая мужность. Шостая побожность. Семая боязнь божая.

Вопрос: Суть якіе грехі, о которых нет зменкі в десеті Заповедех Божых.

Ответ: Суть сем головных. Первая пыха, вторая лакомство, третея нечыстость. Четвертая гнев. Пятое зайздрость. Шостое обжарство. Семое ленівство.

Вопрос: Чому іх зовут головнымі?

Ответ: Іж суть прычынамі і головою іншых грехов, а посполіте суть смертелнымі, хотя подчас могут быті повшехнымі.

Вопрос: Чы много ест грехов протів Духові Светому?

Ответ: Шесть. Збытное уфане яко бысь могл быті збавлен без заслуг. Второе, роспач о мілосердью божым. Третея протівітіся познаной правде. Четвертая зайздрость духовного добра, которое нашы бліжные мают от господа Бога. Пятое затварделость греха. Шостое умреті без покуты.

Вопрос: Што ест Грех?

Ответ: Ест то, чого хто пожадает, албо мовіт, албо чыніт протів волі божое і законові его.

Вопрос: Што злого чыніт грех смертелный?

Ответ: Чыніт іж человек тратіт ласку божую і Бога, хвалу небесную собе обецаную, а чыніт его вінным вечныя мукі.

Вопрос: Чому его зовем смертелным?

Ответ: Іж забівает душу і чыніт, же она тратіт жывот свой, то ест ласку божыю.

Вопрос: А грех повшедный што чыніт?

Ответ: Не тратіт ласкі божое, ані заслугует пекла, але чыніт человека озяблого в молітве і службе божой і заслугует каране дочасное, і готует дорогу до греха смертелного.

Вопрос: Тайна покаянія ку чому помагает?

Ответ: Абы Господь Бог отпустіл нам грехі нашы, которыхмо ся допустілі.

Вопрос: Яко се мает наготоваті, хто хочет споведатісе?

Ответ: Мает учыніті тые речы. Первое, з пілностю прыпомінаті грехі, которые учыніл. Второе, жаловаті за оные сокрушенным сердцем і меті умысл уже болш не ворочатісе ко грешеню. Третее, споведатісе всіх грехов своіх зупелне і покуту выполніті, которую споведнік назначыт.

Вопрос: Што за способ доброго прыготованя до ісповеді светое?

Ответ: Кождого дня ідучы спать раховатісе з сумненем своім, а кождого поранку всего себе Господу Богу поручаті, абы человек тым нелацней согрешыл.

Вопрос: Яко се рахуеш з сумненем своім?

Ответ: Напрод дякую Господу Богу за всі добродейства, которые маю от него. Потом розмышляю грехі, дня оного от мене пополненые, жалуючы за ніх і маючы моцное предсевзяте полепшытісе і споведатісе іх. Третея, прошу Господа Бога, абы мі оные простіл, і чыню твердое постановленіе уже болш не грешыті.

Вопрос: А по рану штось звыкл чыніті?

Ответ: Дякую Господу Богу, же мене рачыл стеречы оное ночы, і за іншые добродейства. Оферую ему ко светой службе его душу і тело мое

і все то, што маю чыніті. Постановляю з собою по сіле моей і по благодаті от Господа Бога мне даной стеречысе от всякого греха. Надто отправую і іншые мое набоженства так устне, яко і сердечне так мыслію, яко і словы моімі.

Вопрос: Яко се маем прыготоваті ку годному прынятю пречыстых таін Тела і Крові Хрыстовы.

Ответ: Маем прыступіті з велікоею покорою яко найподлейшый подданый до велікого цара, з набоженством яко створене до творцы, высповедашысе пред тым і не маючы на сумненю жадного греха смертелного.

Вопрос: Ку чему служыт тайна остатнего Помазаня, которую маслосвешченіем называем.

Ответ: Ку прынятю Ласкі Духа Светого, ку очышченю душы от остатков греховых, ку потверженю душы і помноженю надей благ вечных і доданя сілы, абы се могла спротівіті трудностям і покусом, хоробы і діаволу.

Вопрос: Ку чому ешче болш?

Ответ: Ку отрыманью здоров'я телесного, еслі то будет з волею божою і збавленем нашым.

Вопрос: А тайна Малженства ку чому служыт?

Ответ: Абы муж і жона прынялі благодать божыю ку ісполненію жытія і выхованя деток ку чті і ку хвале божой, ку розмноженью людей хрыстіянскіх абы завше былі тые, которые бы служылі Богу.

Вопрос: Яко се мают протівко собе захроваті муж і жена?

Ответ: Муж мает міловаті і меті в учтівості жону яко сестру о Господе, жена зась мает меті в учтівості і слухаті мужа своего яко Хрыста, і оба мают вкупе мілость захроваті, покой, едность і веру так, яко чыніт Господь наш Ісус Хрыстос з Церков'ю своею.

Вопрос: Ест же што іншого потребного ведаті хрестіанскому человеку опроч того, што се вышей поменіло.

Ответ: Ест тры сілы душы нашой: разум, память і воля, пять чувств в теле нашом: віденіе, слышаніе, вкушеніе, повоненіе і дотыкане. Тры

непрыятелі человечые: діявол, свет і тело, чотыры остатные речы человечые: смерть, суд божый, пекло і хвала небесная. Амін.

* * *

## 2. Статут слуцкае капітулы, 1702 г.

(Минская старина. вып. 4. Минск, 1913. с. 116-119)

**Уставленія всех пречестных і честных отцов капетулы Слуцкое на соборе енералном в неделю Православія святого постановленные в року нынешнем 1702 месяца февраля дня 21.**

1. Поневаж превелебный отец Сімеон Мінкевіч протопопа здешный Капітулы Слуцкое не тылко от на всех есть здавна архіерейскім благословеніем утвержденный пры правах княжат іх Мілостей поважаный, тому все едностайне належытую честь воздаючы повінны естесмо і всякое без роптанія воздаваті послушаніе.

2. А же превелебный отец протопопа наш в сілах пры седінах своіх знемошчненый не могучы сану своего і чына яго належыт правіті, теды обшче все согласівше упросілісмо в руку помошчы превелебнаго отца Сімеона – пісара нашего (...) абы во всем был помоцным а паче о целості обшчо церкві святой як в раде так во всякіх нуждных делех і справах прылучаюшчыхся борздым вседіно был блюстітелем.

3. Пречыстый отец Ефімій Петровіч, уставнік церкві Пресвятыя Богородіцы Соборной здешной понеже в званіі своем іскусный пры нем чын правленія церковнаго заховуем, которому в руку помошчы прыдаем капітулы нашей пречестнаго отца Іоанна Бунцевіча презвітера церкві Св.(ятой) Велікомученіцы Варвары, абы ключе як от церквей так і от аппаратов заставалі, также пречестным отцам уставніку і варварынскому вручаем доходы позвонное і вотовне абы за божой скрынкі оные обіралі а реестр повінны былі у превелебнаго отца пісара як прыходов так і расходов. В репарацыі церквей должны помененое отцове борздое меті попеченіе так в направе самой церкві, окон, (...) абы не затекалі і не гнілі. Так же в аппаратах, кнігах і іных нуждных делах а тые не без совету обшчое делатіся повінны кроме всякаго прекословія. (...)

6. Шчо зась показалося прыбытку сребра грывны полторы і злівек полгрывны з того пречестный отец Іоанн меет старатіся абы кіот был сооруженный до котораго і пояс позволілісмо злоцістый, а на кошт з скрынкі обшчей меет быті.

7. В направе зась церкві святой і іных нуждных речах повінен пречестный отец уставнік з коллегою своім отцем Бунцевічем зносітіся і пілное тшчаніе меті, также в аппаратах, кнігах, всякое должны пілное стараніе меті.

8. Пречестный отец прототопа з подручным своім пісаром не вредячы в турбацыі затрудненя повінны будут шафаров церковных каждой чверті року рахунку слухаті і прыходов і расходов і оным квіты даваті а той порядок неотволочне пры собраніі капітулы деятіся мает. (...)

11. Поневаж з давных часов соборне звыкліся отправляті молебны вечернех велікіе в каждые суботы а особліве под час соленчой урочыстості Успенія Пречыстой Богородіцы под час которой по звычайном набоженстве пречестныі отцове капітулярные звыклі делітіся а пры соборе зостаючые толко доходом за свечкі контентоватіся повінны за чым і тераз так неізменно в том порадку трвалі і належытым поделом контентоваліся всі неотменно постановляем. (...)

13. Пры церкві зась соборной як веле найдуется братіі ведлуг прав і постановеня княжат іх мілостей, тые всі должны в своей найдоватіся повінності а паче (...), пілнуючы каждый званія своего іерейского і ашче бы который по неслушных ходіл мейсцах і упівался, таковый караный меет быті соборне і вінам канонным подлегаті повінен, а паче отлученію от всех добродейств церковных.

14. Доходы зась обшчые на братію церкве соборной повінны будут до рук отца уставніка доходіті і тые служашчым седміцы братіам ведлуг давнего обыкновенія повінныя всем ведлуг заслугі деліті, а отец уставнік звычайную на себе часть повінен отбіраті. А тое не без бытності всего собору меет быті.

Сія вся на нынешнем соборе нашем уставленія усоветованые пры делегованым от ясне превелебнаго его Мілості отца Епіскопа Белорускаго наместніка Ексаршескаго Метрополітанского Кіевского Серафіона Полховского превелебном отце Іосіфе Паленяку наместніку і візітатору енералном епіскопіі Белорускої мы для лепшой веры власнымі зтвержаем рукамі. А ежелібы тым пунктам который з отцев контрадыковал, друг другу на чест наступовал, на таково віны на церков соборную коп пятдесят і на пастыра пятдесят окладаем.

* * *

## 3. Тэстамент магілёўскага бурмістра Малахіяша Казкевіча, 1702 г.

(Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. вып. 11. Витебск, 1880. с. 203-204)




Выява Магілёва (кніжная гравюра Васіля Вашчанкі), 1702 г.

Тестамент мне Малахіяша Гуторовіча Казкевіча, року тысеча семсотного второго месяца Новембра дня двадцатого пятого.

Во імя Отца і Сына і Святого Духа, за молітвамі Пресвятыя Богородіцы і всіх святых. Буду пісать своею рукою власною, так по-рускі, яко і по-полскі, нехай станет мілосердем бож'ім ко спасенію душы моея. Амінь.

Я, многогрешный і окаянный і недостойный Малахіяш Андреевіч Гуторовіч Казкевіч, презыраючы омылную і здрадлівую в жытію людзком дочасность сего света і его яко тень переменяючые дні, яко воды уплываючые, в которых за согрешенія моего блізшого всегда знаючыся быть собе смерті, а ніжелі дочасного помешкан'я, еслібым з выроку бозкого, мілосердного (...) з того свету, где теды яко ма свою субстанцыю, учтіве набытую, власность, почавшы працоваті от своіх лет малых і одважаючысе по дорогах, што набыл, а не от родіча моего Андрея Казкевіча мне не зостало нічого суммы, ено за ласкою божыею і за благословен'ем родічов і за бозкою помоч'ю і за старан'ем моім і за працою зостало, теды моего набытку, от Бога даного до шафунку, так в готовых грошах, яко і в товарах і кто што вінен мне на облікгі, і на церокграфы, і на запіскі кніжные, і на карты розные, яко в реестре ест напісано все і выражоно, всі долгі, хто што вінен, одін реестр поларкушовый, в сырыцы белой оправленый, завше лежыт в дому, а другій реестр чвертковый, в сырыцы червоной оправленый, подорожный, тен завше в дорозе, а пісаные оба от слова до слова

ровные, оба оправлены в сырыцы, што в подорожным, то і в домовым, а третій реестр чвертковый, в сырыцы белой оправленый, то ено в тым реестре бялым чвертковым напісано, як веле серебра кгрывен і якіе штукі як веле важыт і што коштует; а золото, ланцужкі, так веле важат і што коштует, также перла, як много вагі, як много зерен і што коштует, также клейноты розные, персцене розные з деяментамі, з рубінамі і што коштуют, рондыкі, шаблі, оправные в серебро, і всякіе дробязкгі; домы каменіцы, крамы мурованые і древняные, сады, огороды, сеножаті, теды подпісано, по якой уліцы і с кім гранічат, і сколко мерою, і от кого куплено, і што дано, все попісано в тым реестре чвертковым, белым, в сырыцы оправленом белой, і так распоражаю, абы по смерті моей распоражено было, абы на сумлен'ю душы моей не зоставало грехов, теды, в короткості часу, не могучы тестамент спорадіті правный, сім моім реестром, яко моц'ю тестаменту, так распоражаю і за моцный почытаю за власный тестамент умоцняю во всем.

Пане Боже, поздров мне самого і предлуж веку, жебы за своі грехі покутовал і распораділ, і цорек своіх, так старшых, яко і молодшых повыдавал, яко найлепей по хрестіанскі распораділ, дай Боже дочекать в добром здоров'ю, а то нехай будет готовое для смертелного часу. (...)

## 4. “*О досконалой веры в Бога*” з Мінеі пачатку 18-га ст.

(Віленская бібліятэка Урублеўскіх, фонд F19, зборнік №137, л. 154v–156v)



**Святаго Макарыя**
**О досконалой веры в Бога**
**Беседа 48**

Хотячы Господь учнев своіх до досконалой веры прывесті, мовіт в Евангеліі: “Хто в малом неверным, і в многом неверным ест. А хто в наймнейшем верным, і в многом верным есть”.

[на полі: “Малым што есть”]

Што есть “малым”, а што “многім”? “Малым” суть обетныцы света сего, которых обецал веруючым в себе даті, яко жывность, і оденье, і іншыі тела потребы, албо здоров’е і тым подобніі речы, росказуючы о ніх не троскотіся овшекі, але з уфностію в нем надею покладаті, же Господь Осмотрытелем тым, которыі ся до него утекают, завжды будет.

А “многім” есть вечного і неказітелного веку дары, которых обецал даті веруючым в него, і тым которыі безпрестанку о ніх стараются, і просят од него, бовем так прыказал: “Шукайте впрод царства Божого і правды его, а тыі все речы будут вам прыданы”. Жебы тымі малымі і дочаснымі спробован был кождый, верыт лы Богу, который даті обецал, быле бысь мы самі о тых речах не троскаліся, а о прышлых векуістых старане мелы. І в той час явно бывает, же о речех неказітелных веру мает, і вечных добр шукает, о выше реченых целую веру заховует.

[на полі: “Досвеченье самого себе”]

Вінен ест кождый з послушных слову Божому досведчаті себе і розтрасаті, албо од духовных мужей розсудок і пробу іметы, як верыт і

Богу себе полецает: правдіве лі в самой істоте ведлуг слов его, чылы мныманем усправедлівенья і веры, которую сам в собе мает, верыты себе розумеет. Кождый бовем, яком рекл, еслі в малом ест верным, з дочасных досвечается, і обвіненым ставается. Якім способом, послухай.

[на полі: “Досведченья способ”]

Поведаеш іж верыш, себе царства небесного годным, і сыном Божыім з высокості уроженым, і после дедічем Хрыстовым быты, з нім вечне царствоваты, і роскошы, і светлості невымовной на несконченыі і незліченныі векі яко Бог зажываті. Вшеляко речеш і овшем: “Для той теж прычыны, опустывшы свет оддалемся Господу”.

Пробуй же себе самаго, еслі тебе земныі троскі збытныі і покарм, і о одежы тела, фрасунок, і іншыі клопоты і роскошы твоі не трапят, якобы о своіх сілах готов был і могл, сам о собе промысл учыныті яко тобе прыказано жебы ся згола не печаловал о себе. Еслі бовем верыш, же несмертелных векуістых трвалых і незайзрослівых добр доступіш, далеко сіх міяючых, земных, которых Бог і недобрым людем, бестіям і птахом узычает, іж латво од Господа набудеш, верыті маеш, як сам не кажучы: “Овшекы оных троскатіся, даты обецал, мовячы: “Не печытеся што будете есті, албо піты, албо в што оболочетеся, всіх бо тых поганцы шукают”. А еслі ешче о тых речах фрасуешся, а всего себе слову его не повераеш, ведаемы же ешче не верыш, жебысь вечныі добра, то есть, Царство небесное одедічыл, хоч верыті мнімаеш. Звлашча в тых малых і сказітелных найдуючыся не верыш.

І опять: “Як тело болшым есть над оденье, так душа важнейшею есть над тело”. Верыш же, іж душа твоя в неулеченых од людей, а завжды трваючых ранах, то есть, в безчесных наметностей, през Хрыста улеченье меті может, для чого ізступіл тут: жебы верных душы, в неулеченых страстех уздоровіл, і од смроду, труду, злосты очыстіл. Который сам правдівый лекарем і доктором есть.

Речеш: “Певне верую. На том абовем стою, і тую уфность і надею маю”. Знай же себе, а бадайся сам собою, еслі тебе телесныі хоробы не заводят до земных лекаров, як бы тебе Хрыстос в которогось уверыл не могл уздоровіті. Смотры, як сам себе ошуківаеш, мнімаючы себе верыты, которыйсь ешче як потреба не уверыл.

[на полі: “О здорове тела до Бога рачей а ніжелі до лекара утекатіся”]

Бо еслібысь верыл, же Хрыстос вечныі і нелечоныі несмертелной душы раны, злості і наметносты гоіт, верыл бысь, же і дочасныі телесныі прыпадкі і хоробы улечыті может, і до его бысь самого, занехавшы докторскіі досвеченья і лекы утекал.

Который бовем душу учыніл, тот і тело створыл: і который ей несмертелную уздоровляет, тот теж і тело з дочасных прыгод і хороб улечыты может.

Але мі на то як бы там был речеш: “На леченья тела дал Бог зеля земныі, лекарства і стан докторскій для хороб тела постановлено: спорядівшы жебы взятое з землі тело, з землі походячымы зёлкамі лечылося”. Прызнаваю і я, же так есть, але уваж пілне, а знайдеш способ, кому то дано, і кому то Бог з особлівой ласкі, і добротлівості своей позволіл.

Гды чоловек уступіл прыказанья, которого взял был, і под сказы гнева подпал, якобы в заведенье, безчестіе, і на копанье крушцов з райскіх роскошый, на сесь свет был выгнан, і будучы под владзою темностей, з ошуканья наметностей стался неверным, потом і в хоробы а заразы тела впал, будучы пред тым од вшелякіх прыпадков і хороб волным. Одкуль явно же все з него нароженыі в тыі ж наметносты впалі.

[на полі: “Добротлівость Божая”]

Неверным теды і недолужным, з велікой доброты своей Бог тыі речы поступіл, не хотячы греху подданый рожай людскій згубіті дошчадку, але на улженье душы, на улеченье і уздоровленье тела, тых лекарств, сегосветным і обчым людем узычыл, і тым іх зажываті позволіл, которыі ешче себе целком Богу зверыты не могут.

[на полі: “Лекарств зажываті чему Бог позволіл”]

Але ты, который пустынный жывот провадіш, которысь до Хрыста прыступіл, который сыном Божым быті прагнеш, который з высокості од духа родітіся жадаеш, который вышшый і болшый вшелякіх наметностей прожный, обетніцы найвдячнейшее, мовлю, прыстье Господне прынял, а гостем і пелгрымом сего света стался. На новшую неякую обчую неслыханую веру, смысл і жытія способ, над всы сего света люді, віненесь способляті ся.

Слава Отцу і Сыну і святому Духу, на векі. Амінь.

## 5. З кніг магілёўскага магістрата, 1710–1711 г.

(Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. вып. 17. Витебск, 1888. с. 1-74; вып. 19. Витебск, 1889. с. 8-46; вып. 22. Витебск, 1891. с. 1-35)

Падаем асобныя ўрыўкі з кніг магілёўскага магістрата за 1710 і 1711 гг. Лічбы грошай напрыканцы радкоў прамінаем.



Магілёў на малюнку 18-га стагоддзя

### *Год 1710*

#### Реестр шафарскі места его королевской мілості Могілева,

будучы на елекцыі обраных, Леона Тарасевіча, Павла Радіоновіча, посполітых, за шафаров, шляхетных іх мілостей панов магістратовых, сегорочных, 1710,
Пана Павла Васілевіча Лапіцкого, войта; z rymskii relii: pana Mileszkiewicza Jana, burmistra; З грецкей релііі: пана Яна Даніловіча Коробанкі, бурмістра; z rymskii relii: pana Jana Scibuta, raicy, pana Samuila Zanglewicza, raicy; З грецкей релііі: пана Ерыя Трофімовіча Леошкевіча, райцы, пана Трофіма Федоровіча Шевні, райцы; z rymskii relii: pana Kazymira Prybyckiego, ławnika, pana Filipa Mrawskiego, ławnika; z greckii relii: пана Самуеля Королкевіча, лавніка, пана Грыгорыя Коробанкі, лавніка,

іх мілостей панов посполітых сегорочных:
Пан Філімон Дзешкевіч, пан Гапон Бізевіч, пан Ян Королкевіч, пан Петр Александровіч, пан Васілей Сахоновіч, пан Васілій Жудра, пан Яков Кірык, пан Нікіфор Леошкевіч, пан Грыгорый Кошечка, пан Яков Ракуса, пан Леон Тарасевіч, пан Павел Радіоновіч.

**Реестр расходов**
**места его кор.(олевской) мілості Могілева**

Месяца Декаврыя дня, за росказаннем его мілості п.(ана) Павла Лапіцкого, войта, і за ведомостю п. Трофіма Федоровіча, райцы скарбового, депутатом п. Пішчалы, што сталі у п. Харошовкі, купілі:
рыбы свежей
овса мерку едну
горелкі гарнец з кобаку
солі пулгарца
копусты ведро шыткованей
оліві, перцу, імберу
пірогов десять, сітніц десять
круп кварт пять, олею кварту
цыбулі, оцту полгарца
меду гарца чатыры
піва гарцы сем
свец лоевых десяток.
(...)

З росказання п. войта, зыскалі віна гарнец в дом купецкій, колі просілі п. Васілія Хомутовского, на местцу п. Яна Коробанкі, на бурмістровство, до прыезду, заплатілі
(...)

З росказання п. войта, для его мілості п. пулковніка Стеткевіча купілі тры скуры чарных, заплатілі
Една папіерка цвечков жолтых до побітце
Купілі дров до ратуша возы два
Дров у браму Алейную
(...)

З росказання п. войта п. ротмістру хоронгві п. Воловіча, што стала у п. Сейбута купілі:
рыбы
сітніц пять, пірогов пять
меду гарца два

піва гарцов сок чатыры
(...)

Для пана войта, як ехал до ратуша, санкі сена.
З росказання п. войта, для его мілості п. Котла, воеводы Троцкого, взелі чатыры фляшы віна
Ітем фляшы шкла чотыры до віна
Корення на два пулміскі: перцу фун.(ты) два
Імберу ф.(унты) два
Мігдалов ф. два
Шафрану лоты два
Розынек велікіх ф. два.
Розынек малых ф. два
Цынамону
Гвоздік лот.(ов) осм
Рыжу фунты два
Цукру Кандыс Брут головы две, фун.(тов) 11
Свежыны чверці чатыры
Овса мерок чатыры
Сітніц трыдцать
Пірогов трыдцать
Сена возы чатыры
Дзогцу гарнец до шоров
Рыбы шчупаков пять
Лешчов пять
Подлешчов пятнадцать
Олею полгарца, цыбулі
Оцту
Росолу ведро
Дров воз до кухні
Резового хлеба букат пять далі, который у скарбе был готовый
(...)

З росказаня п. войта, жолнером, што сталі на Луполове, хоронгві п. Воловіча, сотніком, далі сітніц пятнадцать, купілі: за
Мяса, за
З росказання п. войта, далі в дом, сітніц десять і пірогов десять
Купілі овса мерку
Дня 26, з росказання п. войта, послалі жолнера до Оршы, з лістамі до п. Пішчалы і до інных панов, далі ему на страве
Купілі ему булку хлеба сітного за
(...)

Колі ехал пан райца Федоровіч до Головчына, до п. воеводы Троцкого, с коберцем, п. войт казал наліть меду гарцев пять у барылку, заплатілі
Взялі піва в дом п. войта гар.(нцев) сем
(...)

Дня 27, з росказання п. войта колі ходілі с коледою до замку, до п. Кіцінского, однесті:
віна фляш две
корення полмісек, перцу фунт
імберу фунт
мігдалов фунт
шафрану лот
розынек велікіх фунт
розынек малых два
цынамону лоты два
гваздік лоты чатыры
рыжу фунт одін
голова цукру Конды-Брут, фунт.(ов) пять
поклону талеров десять
шкла фляш две
(...)

За росказаннем п. райцы Федоровіча, пры бытносці п. войта Гука і панов посполітых, заплацілі за тры гарца меду, набраного
За подкованне коня п. войта, ковалю
За пісанне карт на сесыю, концелярыстом
За тры десятка свеч
За склянка, што брана до ратуша
(...)

За росказанем п. войта і цалого магістрату, далі п. Кіцінскому, оконому, взглядем, же універсал выправіл од ясневельможного его мілості п. Гетмана Поцея, на охранене мясту
Купілі паперу рез од п. Базевіча, на росход мескі
За росказанем п. войта і целого магістрату, п. ротмістру Валентему Песецкому хоронгві власной его мілості п. Арперыяша, стражніка польнего войска велікого князя Літовского, дано талеров двадцать, до того лудану пулштукі куплено од п. Даніеля Хомутовского, взглядем ідучых хоронгві не Окономію, абы до места не мелі справы, что составіть всего
(...)

Дня 5, депутатом п. Пішчалы в дом п. Хорошавкі, купілі мяса

бозкім на вечныі мукі одданая естем для едіно тылко шпетной мыслі, з которой споведатіся для встыду не хотела”.

**Что нам дает Сакрамент Елеопомазанія?**

Ответ: Елеопомазаніе дает нам помошч на врагі, бо пры смерті особліве на нас воюет діавол, которого вся сілы, вся страхі, Святым Елеом отганяем. Повторое, той Сакрамент отпушчает нам грехі повшедніі, албо і смертелныі, але тые тылко о которых не розумев чоловек, абы былі смертелнымі, албо запомнев споведатіся з ніх, а в той час, колі берет Елеопомазаніе, юже споведатіся не может. Потретее, дает той Сакрамент здравіе телесное, ежелібы тое не было прешкодою до вечнаго спасенія, для того треба тых упоменаті, которыі боятся в хоробе того Сакраменту браті, розумеючы же по взятіі его неомылне умрут. Так трымав едін побожный чоловек уміраючый, і нехотячый Елеопомазанія, але за тое сто лет в Чысцу терпев, яко пішет Нікола Діонісій в кнізі названой “Перла казнодеев”.

**Кому треба даваті Елеопомазаніе?**

Ответ: Елеопомазаніе тылко треба даваті хорым, уміраючым зась нагле і осужденным на смерть не треба даваті, бо немогут ся назваті хорымі, Святый зась Іаков Апостол токмо хорым даваті Елеопомазаніе повелевает, глаголя: “Боліт лі кто в вас да прызовет Презвітеря Церковныя”. 2. Той Сакрамент тылко дается хорым дорослым, а не дітятем, бо деті не мают грехов, а Святый Іаков Апостол мовіт: “і ашче грехі будет сотворыл отпустятся ему”. 3. Может ся даті Елеопомазаніе заповетроным, не палцом для боязні смерті, але древом усмарованым в елей на концы.

**Чы может датіся хорому кілка разы Елеопомазаніе?**

Ответ: Хорый беручый Елеопомазаніе в хоробе, может в другой хоробе взяті Елеопомазаніе, і в третей, в четвертой, даже до скончанія жытія своего, в едіной зась хоробе, не может браті Елеопомазанія, тылко раз.

**Чы потребное ест до спасенія Елеопомазаніе?**

Ответ: Не ест потребное, бо без него может чоловек спасен быті, ест еднак потребное, для того, же дает Ласку Божую, помошч на врагі невідімыя пры смерті, отпушченіе грехов повшедных, і здравіе телесное, ежелібы тое не было прешкодою до вечнаго спасенія.

**Что треба чыніті з людмі уміраючымі?**

Ответ: Іерей почувшы о чоловеку хорым, зараз найперве повінен его упомніті, абыся споведал всех грехов своіх, душу свою чысту і нескверну поставіл пред судом Господа нашего Ісуса Хрыста, тую зась Споведь зараз неодвлочне мает чыніті, бо не ведаем дне, ані часа, вонь же мает умерті. По споведы святой дает ему Прычастіе Тела Господа нашего Ісуса Хрыста, тым бо всякая сіла діаволя отганяется. Егдаже прыходіт смерть, повінен іерей болнаго уставічне пілноваті, Водою святою часто кропіті, бо в той час всі праве злыі духове наступуют, хотячы душу чоловечу пожерті, которыі Воды свяшченной бояшчыіся, отступуют с всемі покусамі своімі. Повінен теж іерей упомнеті кревных, абы не плакалі, бо тым крыком і плачом трвожытся хорый, і не может розмысляті о Богу, до которого готуется, не может жаловаті за грехі, але рачей жалует кревных над собою плачушчых.

Потом до самого хорого так может мовіті:

“Жалуй за вся грехі твоя, которымі Бога образіл есі, не бойся врагов твоіх, бо ест велікое Божые мілосердіе, памятай же Хрыстос Господь Разбойніка, Марыю Магдалыну Блудніцу, Петра который тры разы Хрыста заперлся і інных много грешных людей прыняв, бо для того на землю зступівшы, смерть претерпел, абы нас грешных до Неба запроваділ, болшое ест его мілосердіе, ніжелі вся грехі цалого света, болшая его мілость, ніжелі вся неправості наша, до его теды мілосердія утекайся, его Святейшой Страсті душу свою в опеку отдавай, мовячы:

“Господі Ісусе Хрысте Спасітелю мой, который для мене грешнаго на Кресте былесь замордованный, люблю тя над все сотвореніе твое, жалую всем сердцем моім, жем тебе Бога моего мілосерднаго образіті смев, ненавіжу вся грехі моя, і маю статечную волю каятіся, ежелі ешче пожыю на том свете з позволенія твоего, а ежелі ест Воля твоя абым умерл, просветі очы моі, да не усну в смерть вечную, і да не когдаречет враг мой “укрыпіхся нань”. Верую все тое, еже мі вероваті кажет Святая Апостолская Рымская церков, маю надею в мілосердію твоем, і в святейшой Крові твоей, невінне ізлеянной, же мі вся грехі моя отпустішы, яко і аз отпушчаю всем, которыі мене образілі. Прыймі Господі Боже мой душу мою негодную в Царствіе твое, абы Кровь Сына твоего ізлеянная за ню, не была даремная надо мною. Богородіце Дево Марые, помошчніце всех грешных, молі Сына своего, да не отступіт от мене, да не погубіт с грешнікі душа моея, і да спасет мя, не памятаючы на грехі моя”.

Тые слова будет мовіті іерей к болному, уставічне напоменаючы его, абы жаловав за грехі, абы мел надею в мілосердіі Господа нашего Ісуса Хрыста, абы просів о помошч Владычыцы нашея Богородіца Девы Марыя, і Аггелов Святых, а особліве Аггела Хранітеля, абы он до конца

жытія боронів его от всех врагов невідімых. Колі зась іерей обачыт чоловека юже уміраюшчаго, взявше его руку в свою руку, так мает мовіті: “Жалуй за грехі, дай знак же жалуеш, стысні руку мою, ежелі жалуеш за грехі”, і абіе скоро стіснет руку іерея чоловек болный, дает ему іерей раздрешеніе в кратце глаголя: “Раздрешаю тя от всякаго союза клятвеннаго, і от всех грехов твоіх, во імя Отца, і Сына, і Святаго Духа, амінь”. Повінен теж іерей упомнеті всех предстояшчых людей, абы моліліся до Господа Бога, уставічне за болнаго, просячы о добрый ісход душы его.

**Что нам дает сакрамент капланства?**

Ответ: Капланство дает нам характер, на векі не змазанный. І для того на капланство, ані на інныі чыны і станы капланскія, не может нікто два разы святітіся. 2. Дает нам капланство ласку Божую вторую, для того кто не мает ласкі Божыея первшыя, то ест, кто ест в гресе смертелном, грешыт смертелне посвяшчаючыся. 3. Дает нам той сакрамент тое, же кто ударыт каплана, той попадает в клятву, яко глаголет собор Трыдентскій: “Ашче кто побіет клірыка за порадою Сатаны, да будет проклят”. 4. Каплановe суть волныі от судов свецкіх, і кто бы іх до суду свецкаго позывал, албо судья свецкій суділ, той попадает в клятву, от неяже нікто, опроч Папы Рымскаго, раздрешыті не может. 5. Каплановe суть волныі от всіх податков, якоже глаголет сам Хрыстос Господь, в главе 17 [далей Мф. 17:25-26]. 6. Мают честь, славу і гонор, не тылко шляхецкій, але Королевскій, яко глаголет святый Апостол Петр в Епістоліі своей 1 в главе 2: “Вы род ізбран, Царское Свяшченство, язык свят, людіе обновленія”. 7. Капланом не может нікто крывды чыніті под утратою спасенія вечнаго, яко глаголет Хрыстос у Матфея в зачале 106 [далей Мф. 25:40-41].

**Чы повінны іереі своіма рукамі ораті, сеяті і прочая дела служебнічая совершаті?**

Ответ: Не повінны, але мают себе трыматі слуг, до такіх робот, бо для того, же в некоторых дыецезыях самі такіі роботы робять, суть в неповазе, зажывают іх людіе незбожныі в подводы, прымушают до даванія чыншов, і до інных станові іерейскому не прызвоітых тяжаров.

**Якіі суть повінності кождого іерея?**

Ответ: Повінності кождого іерея суть тыі: Абыся не упівал, абы был побожным і прыкладным, абы людей своім жытіем злым не горшыл, абы службу Божую во дні неделныя і святыя, полуношчніцу, утрню, часы, вечерню і навечерню отправовал, сакрамента святые не оспале

адміністровал, людей учыл, строфовал з грехов, отводіл от грехов, аппараты чыстыі в церкві мел, одежды своя іерейскія долгіі, чорныі, а не бленкітныі, і прыстойныі мел, абы корону на главе носіл, усы стрыгл, ремеслом не бавілся, ані гандльом і купецтвом, ані роботою мужыцкою, на взгарду стану капланскаго, абы до корчмы не ходіл, і з людмі свецкімі не заседал, бо з такового заседанія бывают звады і пянства, а пры пянстве бітья і окрвавленія, абы не был судіею, ані сведком в справах горловых, оружья абы не носіл, абы был послушным епіскопу, абы доносіл епіскопу о грехах парафьян своіх, і абы отдавал епіскопу что належыт, о всех тех повінностях. (...)

**Чы могут что ктіторы взяті от того, которого залецают і презентуют епіскопові до посешченія?**

Ответ: Не могут нічто браті, бо тылко суть опекунове добр церковных, барзо шчуплых, з тых прычын. 1. Бо грунты церковныі суть дарованныі Богові, і зостают грунтамі святымі, Церков теж і всі ея спряты, святыі суть, для того той ктітор, который что берет за презентацыю, грешыт смертелне, впадает в сімонію і клятву, бо уже тыі грунты не суть его, але Божыі, церковныі, і odданыі в шафунок епіскопскій, а ктітор тылко мает власть чоловека стараючагося о парохью презентоваті і заліцаті епіскопові. 2. Хотяй бы і волно было ктітором браті за презенты, самое сумнене не кажет того чыніті, бо ктітор парохьі, то ест адміністрацыі Сакраментов, даті не может, поневаж то не ест в его власті, але в власті епіскопа, за которую адміністрацыю, ані сам епіскоп может вымагаті, под карою сімоніі, греху смертелнаго і запрешченія. Грунту зась Руской церкві кождой, наданаго, ледво где ест над две волокі, которыі на вечность, за кілкасот золотых моглібы купітіся, якім теды сумненем ктіторове по осмсот золотых, і более, берут от презент, в некііх дыецезыах, болш выбравшы, от самых іереев, з грунтов Богу оферованых, ніжелі, колібы продалі цалую маетность, рахуючы тое, что так оні, яко іх продкове побралі от презент. Для того собор святый в Замостю установіл, абы жаден епіскоп не важылся святіті того, который что дал, за презенту, ктіторові, і жебы освяшчаемый прысягл, же нічто не дал ктіторові.

**Чы могут іноцы меті якііколвек уряды от епіскопов, кромі урядов монастырскіх?**

Ответ: Іноцы могут быті постановленнымі от епіскопа, в уряды оффіцыалства, намесніцтва енералнаго, авдыторства, коммісарства, архідіаконства, прокураторства, економства, і магістровства, ілі регентовства капеллы епіскопскія.

**Что тіі уряды значат? і что за повінность іх?**

Ответ: Уряд оффіцыалства, ест судіті всі справы цалыя діецезыі, особліве в небытності епіскопа, і от того декрету, не может жаден до епіскопа аппельоваті, але мает аппельоваті, до суду вышшаго, то ест до нунцыатуры, бо суд епіскопскій, і оффіцыалскій, тойжде, і едін ест.

Уряд намесніцтва енералнаго, ест судіті всі справы, цалыя діецезыі, колі епіскоп, нікоея раді віны, не проізволіт постановіті оффіцыала, і от такіх декретов, волно до епіскопа аппельоваті.

Уряд авдыторства, ест быті пры епіскопе, і судіті справы задворныі, которыі албо себе вымовіл до своего суду епіскоп, албо которыі хошчет сторона укрывжоная, осужденны быті пред епіскопом. 2. Авдытор мает пры епіскопе, ілі без епіскопа постановленных в іерейство ексаменоваті.

Уряд коммісарства, ест з волі епіскопской, албо оффіцыалской, чыніті інквізыцыю в справах, і албо самую тылко інквізыцыю до суду отсылаті, албо по інквізыцыі, цалую справу разсудіті, по проізволенію епіскопскому.

Уряд архідіаконства, ест рызніцу епіскопскую ховаті, аппараты для епіскопа готоваті, епіскопа до службы Божыей убіраті, і розбіраті, і постановляемых в чыны іерейскія проізводіті.

Уряд прокураторства, ест справ всех належачых до епіскопіі, пілноваті, і для до пілнованя оных, на консысторях, трыбуналах, роках земскіх, і рочках быват́і.

Уряд економства, ест маетностямі епіскопскімі заведоваті, рядіті, целості іх перестерегаті, і епіскопові о всем прыключшымся добрым ілі злым ознаймоваті.

Уряд магістровства ілі регентовства капеллы епіскопскія, ест спевачков учыті, не токмо пенія, но і всякаго благоговенія, і под час службы Божыея святітелскія, чынно спеваті.

**Женскій пол, чы был перед тым прыпушчоный до діаконства?**

Ответ: Былі давных часов діаконіссы, которыя самі бралі з рук ерейскіх келіх, і прычашчаліся, послуговалі убогім у столу, былі безмужныя, і освяшчаліся в лет четырыдесят, але сінод Аврельанскій сей уряд от Церкве нізверже.

**Чого потреба, абы панна ілі вдова была прынятая до новіцыату монастыря девіческаго?**

Ответ: Опроч побожності і учтівості рожденія, потреба ешче тых речей: 1. Мает тая панна ілі вдова своім коштом стравоватіся, бо гдыбы была коштом монастырскім страванованая, а потом повернула в мір, былабы велікая крывда монастыреві, з такого непотребнаго стравованя. 2. Абы прынятая была, панна ілі вдова, до новіцыату, повінны на тое вся інокіня зезволіті. 3. Повінна такая панна ілі вдова, перед профессіею, даті монастыреві посаг за собою, абы мела откуль жыті, бо монастыр не повінен ю стравоваті, до конца жытія ея. Той зась посаг повінен быті даный на певное место, абы з суммы был пожыток, і жебы сумма не згінула; для того тая сумма посаговая не может быті данная кревным тоея панны ілі вдовы, которая до закону вступует, для того, абы тая сумма у кревных не пропала, і жебы з монастыря потом, по провізыю от тоея суммы, інокіня не выежджала до кревных. 4. Епіскоп повінен ведаті, цалым месяцем, пред профессіею, же панна люб вдова вступует до закону, і люб през себе самаго, люб през годную особу, повінен добреся распытаті, о доброй волі вступованя до закону, тоея панны люб вдовы. 5. Ежелі новіцыушка, хотьбы остатнего тыждня своего новіцыату, през тры дні не мешкала в монастыре, мает знову зачаті отправоваті новіцыат, през цалый год, і шесть недель, ашче лі не восхошчет, да ізвержется.

**Много лет мает меті панна, абы была згодною до стану іноческаго?**

Ответ: Жадная панна не может быті прыпушчоная до профессіі, хіба тая, которая мает шеснанцят лет зуполных, яко повелевает собор святый Трыдентскій; заказуючы і самым епіскопом, абы не позвалялі прежде ісполненных шеснанцяті лет, даваті панном законную профессію.

**Чы может кто входіті до монастыря іноческаго женскаго?**

Ответ: Не может жаден входіті до монастыря іноческаго женскаго, навет ані епіскоп не может того нікому позволіті, а особліве іноком. Не мают теды входіті до монастыря іноческаго женскаго, ані муж, ані невеста, так замужная, яко вдова, ані отец, ані матка інокіні, под карою клятвы на міряніна, а под карою запрешченія і з уряду зложенія на духовную особу, которая бы важылася внійті, до монастыря женскаго іноческаго. Могут еднак внійті до монастыря іноческаго женскаго тыі людіе: 1. Епіскопы, ілі візытаторове назначоныі от епіскопа, але тылко на той час, колі візытуют ілі посешчают монастыр, і колі обірают ігуменію. 2. Споведнікі в время тяжкія хоробы. 3. Докторове і цырулікове, для поратованя здоровя хорой панны. 4. Ремеснікі, тыі тылко, без которых не может быті направа дахов і дверей. 5. Служебніцы полу женскаго. 6. Панны для выцвіченяся в побожності, вышываню, гафтованю, чытаню, і пісаню, але тыя панны не мают меті менш лет над седм, а болш над двадцят пят. 7. Могут обітаті в

монастыре женском жены замужныя, тогда егда декретом епіскопскім в монастыр одосланы будут, ілі утекают до монастыря от мужей своіх для боязні убітья. Вдовы зась не могут обітаті в монастыре женском, хіба на той час, колі восхошчут быті інокінямі.

**Чы могут панны свецкія данныя на науку до монастыря женскаго, з монастыря выходіті?**

Ответ: Не могут, а колі выйдут, не могут быті более прыпушчоныі до монастыря на науку.

**Чы может інокіня выступіті з закону?**

Ответ: Может, в тых прыпадках: 1. Ежелібы не мела лет шеснанцяті подчас профессіі, может в пят лет по профессіі выступіті. 2. Ежелібы з прымусу родітелей, прымушоная была до закону, может выступіті, в пят лет по профессіі, але о тых прыпадках, ежелі суть правдівыі, мает епіскоп разсудіті.

**Что ест Сакрамент малженства?**

Ответ: Сакрамент малженства ест неразделное злученіе мужа с невестою, през которое вступуючыі в стан малженскій обірают ласку божую і берут власть над телом, муж над женскім, а жена над мужескім.

**От кого, і колі той Сакрамент ест постановленный?**

Ответ: Сакрамент малженства ест постановленный от Господа нашего Ісуса Хрыста, колі мовіл: “Іхже Бог сочета, чоловек да не разлучает”. Самое зась малженство, было постановлено в Раі, тогда, егда рече Господь Бог, к Адаму і Евве: “Растете, і множытеся”.

**Чого потреба пред шлюбом?**

Ответ: Пред шлюбом потреба заручын, особліве в домах велікіх; але і без ніх может быті даный шлюб. 2. Потреба, абы былі пред шлюбом тры заповеды, же той люб той, з тоею люб з тоею, вступует в стан малженскій, абы людіе ведалі, кто з кім вступует, а ежелібы было между німі покревенство, люб інная перешкода, ознаймілі Церкві святей і іерееві.

**Много мает меті лет, младенец і панна, абы былі згодныі до заручын і шлюбу?**

Ответ: До заручын потреба, абы младенец і невеста мелі лет седм, а до шлюбу і самаго малженства потреба, абы младенец мел лет прынамней четырынанцят, а невеста абы мела лет прынамней двананцят.

**Колі повінны быті заповеды пред шлюбом?**

Ответ: Заповеды пред шлюбом повінны быті в церкві тры: една одноей неделі, подчас службы Божыея, другая другой неделі, подчас службы Божыея, третяя пры самом шлюбе.

**Чы может быті прыпушчоный кождый чоловек до шлюбу?**

Ответ: Не может іерей прыпустіті до шлюбу такіх людей, которыі пред шлюбом не споведаліся і не прычашчаліся, і которыі не умеют молітвы "Отче наш", молітвы "Богородіце Дево радуйся", "Верую в едінаго Бога" і десяті Божыіх Прыказань.

**Якая ест матерыя і форма Сакраменту малженства?**

Ответ: Матерыя Сакраменту малженства ест отданіе тела едін другому.

Форма ест тая: "***Я імярек, беру тебе себе за малжонку, і шлюбую тебе веру, мілость, і учтівость малженскую, іже тебе не опушчу аж до смерті, так мі Пане Боже поможы в Троіцы Святой едіный***". Которую форму повінен мовіті младенец, а потом невеста, прыдаючы тое слово: "***і послушенство***".

**Кто ест міністер Сакраменту малженства?**

Ответ: Сакраментов Крешченія, Міропомазанія, Евхарыстіі, Покуты, і Елеопомазанія, міністер ест іерей, Сакраменту Чыну іліі Іерейства міністер ест епіскоп, Сакраменту зась малженства міністер суть младенец і невеста, для того і форму оні самыі мовят, а іерей токмо церемоніі іліі молітвы отправует і ест с прочыімі людмі сведком, же младенец шлюбовал невесте, а невеста младенцу.

**Чы ест важный шлюб учыненный без каплана, і чы кождый каплан может шлюб даті?**

Ответ: Шлюб повінен быті пры ереі, бо ежелі будет без іерея, не важный ест малженства Сакрамент, і может быті розвод даный. Не кождый теж іерей может шлюб даті, але тылко той до которого парохіі невеста належыт, а колі сваволне інный іерей дасть шлюб, на той час не может быті шлюб важный, і может ся даті розвод.

**Колі муж жену, люб жена мужа покінет, чы может муж женітіся з другою, ілі жена іннаго мужа взяті?**

Ответ: Не может, аж покі не будет ведомості о смерті едінаго з ніх, тако бо глаголется: “Еже Бог сочета чоловек да не разлучает”.

**Кто может разсуждаті справы малженскія?**

Ответ: Справ малженскіх, особліве розводовых, не может жаден разсуждаті, кроме самаго епіскопа.

**Якіі суть перешкоды до малженства?**

Ответ: Перешкоды до малженства суть двоякіі, заветныі і раздрешытелныі. Заветныі, то ест, которыі забороняют вступоваті в стан малженскій пред шлюбом, але по шлюбе позваляют жыті з собою, суть тыі: 1. Колі кто едну заручыт, другой взяті не может, взявшы еднак может з нею жыті. 2. Не волно шлюбу браті, в Пост Велікій, в Петровку, і в Спасувку, і в Філіпувку, взявшы еднак важный ест шлюб. У рымлян также передтым, не волно было даваті шлюб трема неделямі пред рождеством святаго Іоанна Крестітеля, тако глаголюшчу собору Іллерденскому в главе 1. 3. Колі кто учыніт обетніцу ховаті чыстость аж до смерті, колі кто з кревною особою согрешыт, той не может з жадною вступоваті в стан малженскій, колі еднак вступіт, по шлюбе юже мает жыті без жаднаго розводу, з женою. 4. Особа научаючая другую особу веры святой, пры дверех церкві, перешкажает собе з нею, вступованія до стану малженскаго, але по шлюбе розводу не потреба. 5. Колі кто чужую жену порвет, колі кто своего власнаго сына трымает в место кума, пры святом крешченіі, колі кто забьет іерея, колі кто сваволне з мнішкою оженітся, той перешкажает собе вступованя до стану малженскаго з другімі особамі, покінувшы тамтыі особы не належытыі, по шлюбе еднак может без розводу жыті з німі.

Перешкоды раздрешытелныі, то ест для которых конечне треба розвод даті, суть тыі: 1. Колі кто помылітся в особе, то ест хотячы взяті Анну, возмет Екатерыну, в той час треба даті розвод. 2. Колі кто не ісполніт обетніцы, напрыклад ежелібы кто хотел взяті Анну, мовячы: “Я тебе возму, ежелі ты естесь богатая, волная, албо шляхтянка”, она не будучы такою, поведілабы, же ест богатая, волная, і шляхтянка, в той час доведавшыся по шлюбе, же не ест волная, богатая, і шляхтянка, волно розвесті ся. 3. Колі законнік албо законніца вступіт в стан малженскій, конечне треба даті розвод. 4. Ежелібы которая особа забіла албо отрула своего мужа, для того абы другого взяла, не может того взяті, для которого забіла албо отрула прешлаго мужа, а ежелібы взяла розвод,

треба даті. 5. Ежелібы поганін албо жыд взял невесту хрыстіанскую, не зоставшы хрыстіаніном, треба даті розвод, але ежелібы отшчепенец албо еретык взял жену правоверную, мают жыті з собою. 6. Ежелібы кому смерть хотелі задаті, гдыбы не хотел взяті тоей люб тоей невесты, а он бы для боязні взял, может потом розвод взяті. 7. Каплан, діакон і субдіакон не могут женітіся, а ежелібы оженіліся, розвод треба даті. 8. Маючый жену ежелібы взял другую, пред смертью першой, мает з другою розвестіся, а жыті з первшою. 9. Ежелібы кто взял шлюб тылко, а пред весельом умерлабы тая невеста, не может младенец взяті за жену сестры ея, а ежелібы взял, мает быті розвод. 10. Перешкода до малженства ест покревенство, бо ежелібы кревный кревную, до четвертаго поколеня, взял за жену, мает быті розвод.

Тое зась покревенство ест троякое: прырожоное, духовное, і правное. Прырожоное, ест межы особамі з прыроженя кревнымі, на прыклад межы братом, сестрою, внуком, вуем, стрыйом, і прочая. Духовное, ест з крешченія святаго, напрыклад: іерей крестяй с дітятем крешчаемым, кумы держашчыі дітя с дітятем, отец м матер дітяте с іереем крестяшчым і с кумамі мают духовное покревенство, і для того не могут з собою вступоваті в стан малженскій, кум зась может взяті куму, бо не мает з нею жадного покревенства духованаго. Покревенство правное, ест в той час, колі кто своіх не маючы детей, чужое дітя возмет собе за сына, і той сын называется прывлашчоный, і юже не может взяті в стан малженскій, жадной невесты за жену з того дому, аж до четвертаго поколеня.

11. Прешкода до малженства, ест повіновацтво мужа с кревнымі жены своея, а жены с кревнымі мужа своего, абы зась іерей розознаті могл, где ест, а где не ест покревенство, мает тое уважыті, же муж с кревнымі жены своея, мает повіновацтво, а жена с кревнымі мужа своего, мает повіновацтво, аж до четвертаго поколеня, кревныі зась жены с кревнымі мужа не мают жаднаго между собою повіновацтва, для того едін брат может взяті едну невесту, а другій брат рожоный может взяті другую невесту, сестру жены брата своего.

12. Перешкода до малженства ест, колі чужый парох шлюб дает, і на той час мает быті розвод.

13. Прешкода до малженства ест не способность до сполкованя, і на той час мает быті даный розвод. Тая зась не способность ест двоякая, дочесная і вечная. Неспособность дочесная не чыніт не важнаго малженства. Неспособность вечная ест на той час, колі кто ест неспособным до сполкованя малженскаго, хотьбы могл быті способным през чары ілі інный грех, і тоея неспособності треба досведчаті през тры лета, а по трех летех, ежелі не устанет тая неспособность, мает быті даный розвод. Тое теж треба ведаті, же ежелі межы малжонкамі, пры

веселю, будет способность до сполкованя, і ісполнітся малженство, а потом з якоіколвек прычыны, станется кто не способным, на той час юже не может быті даный розвод.

**Чого потреба до того, абы кто кого прывлашчыл за сына?**

Ответ: Тому, который кого мает прывлашчыті за сына, много треба речей: 1. Абы был волным чоловеком, так той который прывлашчает, яко той который прывлашчается. 2. Абы мел лет 25, той которого кто прывлашчает, а той, который прывлашчает, мает меті лет 43. 3. Той который прывлашчает кого, мает его прывлашчаті судовне і облічне, а не през людей ілі през лісты. 4. Той который прывлашчается, мает быті полу мужескаго, бо невеста прывлашчатіся не может. 5. Той который прывлашчается, мает быті способным до стану малженскаго. 6. Той который прывлашчается, мает называтіся тым прозвіском, якім называется той который его прывлашчает. 7. Той который прывлашчается, мает быті дедічом всіх добр, которыі мает той, который его прывластіл і прысвоіл за сына.

**Что ест вера?**

Ответ: Вера ест наклоненіе разума до вераваня тым речом, которых не відім, якоже рече Господь наш Ісус Хрыстос ко Фоме Апостолу: “Яко відів мя, веровал есі, блажены не відевшыі і веровавшыі”. Для того і богослове мовят посполіте Латінскім языком: “Fides est credere id, quod non vides”, то ест: “Вера ест колі верыш тое, чого не відіш”.

**Много ест вер?**

Ответ: Вера ест една Кафоліческая Апостолская, в Церкві Божыей, которою радіт Папа Рымскій, інныі зась веры не могут назватіся верамі, але сектамі, то ест отсеченнымі от Церкве Божыея.

**В едіной веры чы могут быті рожныі обрадкі і церемоніі?**

Ответ: В едіной веры, не токмо могут быті, але і суть рожныі обрадкі, бо іначей Рымляне, іначей Грекове і Русь, іначей Арменое, іначей Сірыане отправуют Службу Божую і набоженство, а у тых всіх веруючых так, яко повелевает святая Рымская Церков, ест едіна вера і едіно Крешченіе.

**Опроч веры, чы ест ешче что інного, которое прыймоваті маем?**

Ответ: Опроч веры маем прыймоваті преданія святых Апостол і святых Отцев, то ест трыматі тую науку, которую нам подалі святыі Отцове і Апостолове, напрыклад постім Філіповку, бо такое ест преданіе святых Отцев.

**Много ест на свете сект ілі вер фалшывых?**

Ответ: Сект ест много і без чысла, еднак до чысл пяті сочетаются. Первшыі называются Атеістове, то ест которыі не веруют абы Бог был, яко рече Давыд Пророк: "Рече безумен в сердце своем: несть Бога". Вторыі называются Погане, которыі во многіх Богов веруют, слонце, месяц, перуны, і прочая, за Богі мают. Третіі называются Жыдове, которые не веруют, абы Мессія правдівый Господь наш Ісус Хрыстос, мел прыйті, але чекают інного Мессіі, которого мы называем Антыхрыстом. Четвертыі называются Туркі, которыі, яко Жыдове обрезуются, в Бога верят, але барзо шпетное і телесное жытіе провадят.

Пятыі называются еретікі, которыі рожнымі способамі блюзнят протіво святой Троіцы, протіво Господу нашему Ісусу Хрысту, протіво святейшому Духу, протіво Пречыстыя Богородіца, святым Апостолом, іконам Хрыстовым, і прочая, тых зась еретіков ест без чысла (...).

**Для чого "Отче наш" молітва ест барзо короткая, і кто ей научыл?**

Ответ: Тую молітву научыл сам Господь наш Ісус Хрыстос, у Еуангелісты Матфея. Короткая зась для того ест, абы ей всі людіе лацней научыліся, і вымовкі не мелі.

**Чому в той молітве мовім "Отче наш"?**

Ответ: Бо Бог ест всіх равне Отцем, а людіе суть между собою братья, едінаго Отца Небеснаго сынове. Для того зась мовімо "Отче наш", а не "Отче мой", абысмо зналі, же у Господа Бога всі есмы ровныі, і всіх нас Отец Небесный заровно любіт.

**Чому в той молітве мовімо "іже есі на Небесех"?**

Ответ: Не для того, абы Бог не был на землі, бо Бог всюды ест, але для того же там святыі відят Ліце Его, где ест ойчызна наша, і где барзей показуется можность Маестату Его, яко мовіт Пісмо святое: "Небо мі Престол ест, Земля же подножье ногама моіма".

**Много мает частей тая молітва "Отче наш"?**

Ответ: Тая молітва “Отче наш” мает частей седм.

Первшая часть ест тая: “Да святітся Імя твое”. То ест, абы людіе так шановалі і любілі Господа Бога, яко его шануют і любят аггелы на Небесі, чынячы все на славу его.

Вторая часть ест тая: “Да прыйдет Царствіе твое”. То ест, абы нас Господь Бог прыпустіл до Неба, где вечную радость будем меті, так теж, абы Церков святая розмнажалася, Погане, Жыдове, Еретікі і С[х]ізматыкі наворочаліся, жебы над всемі Ісус Хрыстос царствовав, а не нашы непрыятеліе, свет, діавол і тело.

Третяя часть ест тая: “Да будет воля твоя, яко на Небесі, і на землі”. То ест, абы нам Бог дав ласку такую, абысмо его волю полнілі во всем, его слухалі, а любобы на нас якое нешчасте допустів, то ест хоробу, голод, поветре, войну і прочая, прыймовалі вдячне, бо тая ест его святая воля.

Четвертая часть ест тая: “Хлеб наш насушчный дажд нам днесь”. То ест, абы нам дав Господь Бог хлеб троякій: первшый духовный, то ест, абысмо слухалі Слова Божого, казаня, напомінаня старшых, бо тым всем душа наша голодная в цноты крепітся, да не умрет во векі. Вторый аггелскій, то ест, пренайсвятейшое Тело свое і Кровь свою, под особамі хлеба і віна, якоже сам Хрыстос глаголет: “Аз есм хлеб жывотный, с Небесе сошедый, ядый хлеб сій жыв будет во векі, і аз пребываю в нем”. О третій хлеб упрашаем Господа Бога, дочесный, то ест о вшелякую жывность і одежду, бо тое все маемо з мілосердія Божого.

Пятая часть ест тая: “І оставі нам долгі наша якоже і мы оставляем должніком нашым”. То ест, абы нам Господь Бог грехі наша отпускал, мы теж маемо любіті непрыятелев нашых, тако бо глаголет Хрыстос: “Любіте врагі ваша”.

Для того колі раз едін чоловек споткався на мосте з другім і хотел его забіті, же і он отца его забіл, а потом для мілості Божой тую уразу отпустіл, Ісус Хрыстос на Кресте прыгвожденный, отдершы руку от древа Крестнаго в церкві подяковав ему, накланяючыся главою, же он для него отпустів забойцы отца своего, обецуючы же і сам Хрыстос мев ему отпустіті грехі его.

Шестая часть ест тая: “Не воведі нас во іскушеніе”. То ест, абы нас Господь Бог боронів от покус шатанскіх, бо мы не можем самі без ласкі Божой, непрыятеля нашего сатаны увароватіся покус. Покусы зась отгоніті можем молітвою, яко сам глаголет Ісус Хрыстос: “Молітеся да не внійдете в іскушеніе”. Повторое, покусы звытяжаем, розмышляючы пекло, смерть, Небо і страшный суд Божый, бо кто правдіве уважает тые речы, не может грешыті. Потретее, для уварованяся покус, треба часто споведатіся і прычашчатіся, бо Хрыстос такіх завше бороніт от покус натаніных.

Седмая часть ест тая: “Ізбаві нас от лукаваго”. То ест, абы нас Господь Бог боронів от грехов, покус сатаніных, огня, граду, перунов, поветра, хороб, смутков, наглой смерті, пекла і огня чыстцового. Ежелі еднак тое все помагает нам до спасенія, повіннысмо терпеті, бо Павел святый мовіт, же през многія нужды внійті треба в Царствіе Небесное.

**Что ест Любов?**

Ответ: Любов ест третяя богословская цнота, которою любім Бога і бліжняго своего для Бога.

**Чы важат что добрыі учынкі без Любві?**

Ответ: Нічого не важат, тако глаголюшчу святому апостолу Павлу к Корынфом: [далей 1Кар. 13:2-3].

**Которымі учынкамі Любов сохраняется?**

Ответ: Любов сохраняется: 1. Сохраненіем Божыіх Прыказань. 2. Сохраненіем Церковных Прыказань. 3. Сохраненіем Цнот побожных. 4. Сохраненіем учынков мілосердных. 5. Варованемся от всякіх грехов.

**Что значыт первое Прыказаніе?**

Ответ: Первое Прыказане: “Не будеш меті чужых Богов предо мною”, кажет нам, абысмы в самого Бога верылі, в нем надею мелі, его над всякую реч любілі, шановалі, хвалілі і благословілі, балваном жадной учтівості не оддавалі, чаров, гуслов, характеров ношенія, запісованяся дьяволом, удаваняся до бав, чаровніц, кушеня, на стрелбе прысяганяся, уроков злізованя, святокрадзтва, шептаня, замовляня, вешчбы, ворожбы, і інных забобонов выстерегаліся, бо през тыі грехі запіраемся Бога, а веруем в шатана, і в нем надею маем, Бога опустівшы. Не заказует еднак тое Прыказане шановаті і взываті на помошч аггелов, святых людей, реліквій святых, образов Ісуса Хрыста, Девы Богородіцы, і всх святых, бо мы образов не шануем, же суть мальованыі, але же святых выражают, которых в іх образах шануем і взываем, і для того не тылко святый Лука мальовал много образов Пресвятыя Богородіца, але і сам Хрыстос послав образ свой Агаварові цареві Едесу.

**Колі меті выразную веру, в едінаго Бога, треба?**

Ответ: Треба меті выразную Веру: 1. Прышедшы до розуму. 2. По Покуте. 3. В небеспеченстве упадку якого-колвек. 4. В годіну смерті. 5. Колі бы кто мел честь уймоваті Богу.

**Колі меті треба выразную мілость Господа Бога?**

Ответ: Выразную мілость Господа Бога треба меті: 1. Прышедшы до розуму. 2. Колі кто дорослый крестітся. 3. Колі кто зостаючый в гресе смертелном, прыступует до Споведы. 4. В дні святыя. 5. В день мученія своего, за Веру Хрыстьянскую, ежелі бы Бог ізволіл.

**Что суть забобоны?**

Ответ: Забобоны суть, честь не Богу, але слонцу, звездам, луне і прочым сотвореніям данная, называется іначей балвохвалство, то ест тая честь, которая дается балваном, а не Богу.

**Что ест ворожбецтво?**

Ответ: Ворожбецтво ест пророчество не певное, даное от дьявола ворожбетові, о речах прышлых, албо невідомых, которых Сатана доходіт з слонца, луны, елементов, досведченія і іншых інклінацый. Тое ворожбецтво, през которое чоловек вырекается Бога, бывает двоякім способом: 1. Колі кто ужывает такіх способов, до которых может меті прыступ дьявол, і таковыя суть ворожбецтва о выявленію скарбу ілі вешчы украденныя. 2. Колі кто выразне взывает Сатану, запісавшыся ему, і на той час выразне показуется Сатана, албо з поветра себе улепівшы тело, албо в тело чоловека проклятого вступівшы.

**Что суть чары ілі чародейство?**

Ответ: Чародее през Сатану старатіся звыклі: 1. О ведомость речей потаемных. 2. О допушченіе на людей хоробы албо утрату фортуны. 3. О прывращеніе здравія хорым. 4. О речы забобонныя. 5. О речы неподобныя. Протіво всему тому, повіннысмо меті надею в Бозе, в крешченіі, в споведі, еухарыстіі, молітве, постах, воде свяшченной, кресте, мошчех святых, і взываті помошчы Пречыстыя Богородіца, аггелов і всіх святых.

**Что ест блюзнерство?**

Ответ: Блюзнерство ест слово зелжывое, протіво Богу ілі святым, усты ілі сердцем. Тое зась бывает: 1. Прызнаваючы тое Богу что не належыт,

напрыклад называючы тыранном. 2. Уймуючы Богу тое, чого уняті не возможна. 3. Проклінаючы сотвореніе божые, албо даючы ему честь Богу належачую, албо хвалячы Бога словы неучтівымі. Таковы блюзнерцы суть безчестныі, не могут правоватіся, ані сведчыті, але повінны быті гордлом караныі.

**Что ест іскушеніе Бога?**

Ответ: Іскушеніе Бога ест, колі кто чыніт что без прычыны, для досведченія досконалості Божыея, напрыклад казане правіті без прыготованяся, не враті лекарства в хоробе, поедінковаті для показаня невінності, іскушаюшче Бога, же до казаня, до здравія, і до поедінку допоможет. Такое іскушеніе Бога ест грехом смертелным.

**Что значыт второе Прыказане?**

Ответ: Второе Прыказане: “Не будеш взываті імені Господа Бога твоего надаремно”. Прыказует, абысмося выстерегалі прысяг, сведоцтва фалшывого, взываня імені Божого надаремно, прысяганяся през главу, смерть албо Кровь Ісуса Хрыста, і през святых его, абысмо не вспоміналі дьяволов, поветра, смерті, і інных злых речы, проклінаючыся, абысмо обетніц даных Богові, потвержоных особліве на споведы от іерея, не одменялі, але скутечне пелнелі.

**Чы годітся прысягаті?**

Ответ: Годітся, але в справе справедлівой, тако глаголюшчу Давыду Пророку в псалме 62: “Похвалітся всяк кленыйся ім”, і Іеремію Пророку: “Кленешыся “Жыв Господь” в істінне, суде і правде”. Той засъ который прысягает, ежелі ест мушчызна, мает меті лет 15, а ежелі ест невеста, лет 13, в гордловой засъ справе невеста не прысягает, а мушчызна прысягаючый мает меті лет 20.

**Колі прысяга гладітся?**

Ответ: Гладітся: 1. Колі ест неподобная. 2. Колі кто отпушчает прысягу. 3. Колі судья увалняет. 4. Колі кто место прысягі, отмену чым інным дасть.

**Что ест шлюб?**

Ответ: Шлюб ест обетніца доброй речы, без прымусу, гвалту, з ростропностью, от чоловека розумного не шальоного, не пяного, не

гневліваго, учыненая, не з здрады, і не з блуду, для того отец обецуючый пост за сына, абы жыв был, не повінен постіті, колі сын тым часом умрет. Злыя речы не можем обецоваті, а обетніцу речы добрыя конечне треба ісполніті, под грехом смертелным.

Шлюб ест рожный. 1. Ест шлюб особістый, колі что една особа обецует, напрыклад пост, ілі чыстоту. 2. Речный, колі кто обецует якую реч, напрыклад ялмужну даті. 3. Мешаный, колі кто обецует даті і реч такую, напрыклад ялмужну, і з особы своея чтоколвек учыніті, напрыклад пост ілі чыстоту сохраніті. 4. Дочесный, колі кто обецует чыстоту храніті през рок. 5. Вечный, колі кто обецует чыстоту храніті до смерті. 6. Прыватный, колі кто едін чтоколвек обецует. 7. Посполітый, колі что обецует цалое место. 8. Простый, колі кто обецует что без обрядков церковных. 9. Урочыстый, колі кто обецует что в церкві пры людех, з обрядкамі церковнымі, і такіі суть шлюбы іноческіі і малженскіі, от которых ані Папа Рымскій уволніті не может.

**Что может ся робіті во дні святыя?**

Ответ: Во дні святыя может чоловек справы чытаті, судью і патронов о своіх справах інформоваті, радіті, учытіся, пісаті, обіраті на уряды, ярмарковаті, ехаті в дорогу, ясті готоваті, трункі продаваті, голіті, яму для умерлаго копаті, коні в потребе коваті, воеваті, шкло, железо, цеглу, вапно паліті, ежелі пред святом запаленны будут, церкві обітель прыоздобляті, подчас обленженя фортецу поправоваті, продаваті речы потребныя к ядженію, возы ладоваті на ярмарк, збоже молоті в млынах, коні і люді лечыті. Не волно зась позываті, судіті, от декрету аппельоваті, сведчыті, особліве в справе гордловой, на подане добр з декретамі зежджаті, ораті, сеяті, жаті, косіті, і прочая служебнічыя дела творыті.

**З якіх прычын может кто робіті во дні святыя?**

Ответ: Может кто робіті во дні святыя з тых прычын: 1. З послушенства і прымусу, але прымушаяй грешыть смертелне. 2. З даной власті, от особы духовной, для прычыны слушной. 3. З звычаю краіннаго, але таковый звычай повінен выкоренятіся.

**Якіі суть повінності сынов к отцем?**

Ответ: Тыя суть повінності: родітелей убогіх не запіратіся, зле не жыті, росказов слухаті, не лаяті, не біті, в потребах ратоваті, през дела рук своіх, хотябы і інок сын был.

**Якіі суть повінності отцев к сыном і дшчерем?**

Ответ: Родітеліе повінны сынов і дшчерей корміті, одеваті, от грехов бороніті, посагі даваті, хотяйбы дшчер была з неучтіваго ложа, за богатаго мужа пошла, до закону вступіла, ілі без проізволенія родітелскаго за мужа негоднаго пошла. Матка теж повінна дітя, до третяго року, своімі персямі корміті.

**Колі повінны быті отсужденны сынове от добр, а дшчеры от посагу?**

Ответ: Для тых прычын: 1. Колі руку подносят на родітелей. 2. Колі іх крывдят і не шануют. 3. Колі сын ставает за патрона в справе протіво родітелем. 4. Колі з чародеямі накладают. 5. Колі стараются о смерть родітелей. 6. Колі не ручят за родітелей в турме будучых. 7. Колі зостают еретікамі. 8. Колі ложе шпетят родітелей своіх, сын сполкуючы з маткою, а дшчер з отцем. 9. Колі презкажают родітелем абы тестаменту не чынілі. 10. Колі за жытія родітелей маетності родітелскія роспрашают. 11. Колі дшчер удается на мейсца публічныя для роспусты.

**Якая ест повінность мужей ко женам?**

Ответ: Мужье жены своя повінны не обмавляті, корміті, одеваті, добрых учынков не бороніті, не біті, не проклінаті, учтівость отдаваті. Жены зась мужей своіх повінны слухаті, послушенство ім вшелякое чыніті, і до гневу прычыны не даваті.

**Якая ест повінность панов до слуг?**

Ответ: Панове повінны слугі корміті, одеваті, до добрых учынков провадіті, прычыны до греху не даваті, псом, дьяволом, шальоным не называті. Слугі зась под грехом смертелным повінны панов своіх слухаті, кохаті, і тое все чыніті, что оні росказуют, быле той росказ был без образы Божыея.

**Колі волно забіті невіннаго чоловека ілі вінного?**

Ответ: Волно забіті: 1. Колі непрыятель обляжет место, для едныя особы убітья, волно месту такового чоловека выдаті на смерть. 2. Колі непрыятель место обляжет, волно ему вежу з армат обаліті хотяйбы ведал, же там суть і невінныі людіе. 3. Может забіті чоловек чоловека в обороне, хотяйбы наезднікі, на здравіе были шальоныі, пьяныі, і люнатыкі. 4. Может невеста забіті того, которыйбы ю хотел згвалтіті, ежелібы не могла, гвалту крычачы, людей до ратунку дочекатіся.

**Чы волно войну провадіті?**

Ответ: Волно, але война мает ся вчесне выказаті, абы і непрыятель прыготовался, от маюшчаго власть, з прычыны слушной, для одобраня добр завоеваных, противо Турком, Еретіком, противо тым которыі короля бештают і крывду ему чынят, противо строптівым ребеллізантом. На такой зась справедлівой войне волно шукаті победы, през здраду, места, села паліті, протівных убіваті, але не невінных купцов, послов, невест, детей, капланов, іноков. Церквей, также шпітальов, капліц, не возможно под грехом смертелным паліті. Кто зась войну не справедлівую провадіт, грешыт смертелне, і отповесть Господу Богу на страшном суде за кровопролітье і за вся крывды чоловеком цалого царствія соделанная.

**Что значыт седмое Прыказане?**

Ответ: Седмое Прыказане: не крадь. (...) Заказует теж ліхвы, о которой так мовіт святый Августын: "Ліхвяр ест подобный збойцы, горшый ніжлі злодей, бо злодей потаемне, а ліхвяр очевісте крадет бліжняго своего працу, і забівает его на убозство его, беручы от него ліхву". Ест теды ліхва, колі кто пожычает грошей, а за тое подаркі берет, албо послугу собе вымовляет, колі дает грошы мытнікові, абы мыто отпускав, колі пожычает перед новым збожа шпетнаго, абы лепшое взял по жнівах, колі кто дает что на борг, дорожей ніжлі тая реч стоітся, а такіх ліхвяров Церков святая выклінает, до Прычастья не прыпушчает, а ежелібы не покутовал, ані в церкві, ані на цментару не годітся его ховаті.

Тыі теж грешат смертелне, которыі вагу, меру, гарнец, кварту, не справедлівую мают, которыі боргуют збоже дорожей, ніжлі на торгу продается, бо о ніх так мовіт Господь Бог: "Кто крыет збоже, будет проклят людмі". Колі теды такіі прыйдут на споведь, треба ім конечне казаті, абы вернулі тое все тому, которого укрывділі, а ежелібы его не было, ані его кревных, албобы барзо далеко булі, треба отдаті на хвалу Божую, а ежелібы того не хотел кто учыніті, іерей не повінен даті раздрешенія, бо святы Августын так мовіт: "Не отпушчается грех, аж покі не вернется что чужого ест". Ежелібы еднак не хотел з встыду отдаті кто что кому належыт, повінен іерей сам у него взявшы, отдаті тому, кому належыт, не мовячы от кого отдает, абы его не ославів.

**Якіі суть прычыны, для которых волныі суть людіе от ворочаня чужых речей?**

Ответ: Тыя суть прычыны: 1. Колі з ворочаня мает быті якая шкода, напрыклад, гдыбы кто у кого пожычыл пістолетов, не может іх ворочаті, ежелібы той, кто пожычыл, мел в себе стреліті. 2. Колі кто не может

выстарчыті, может долг продолжыті. 3. Колі кто уступіт з маетності, может ся долг продолжыті. 4. Колі кто отпустіт долг. 5. Колі іншым способом нагородіт. 6. Колі Папа Рымскій неведаючый, кому мает быті нагорода, дыспенсует і увалняет. 7. Колі заходіт прескрыпцыя, то ест, колі кто давно маетность албо якую інную реч трымает, розумеючы же его ест: прескрыпцыя зась тая в речах рухомых повінна меті лет четыры, напрыклад, колі кто през четыры лета трымает сукню чужую, ілі быдло, розумеючы же его ест, не повінен вертаті. В речах зась не рухомых свецкіх, ідет прескрыпцыя до лет 40, а в духовных до лет 60. Напрыклад, колі кто трымает чужую маетность свецкую, през лет 40, розумеючы же его ест, не мает ея отдаваті. 8. Пожычаюшчему грошей на ігру заказанную, волно не отдаті.

**Что ест грех?**

Ответ: Грех ест мова, люб учынок, люб помышленіе, протіво волі Божыей і прыказаню Его.

**Что злого чыніт грех? І что ест горшое, грех лі ілі дьявол?**

Ответ: Грех протівный Любві, справует то, же чоловек тратіт Ласку Божую, хвалу небесную, а позыскует пекло грешному чоловеку, і ест горшый от дьявола, бо і дьявол стался дьяволом през грех смертелный.

**Веліоракій ест грех?**

Ответ: Грех ест двоякій. Первородный і учынковый. Первородный ест той в котором родімся, затягненный на нас от Праотца Адама в Раі, на той час, колі урвал яблко собе от Господа Бога заказанное, под карою смерті. Грех учынковый ест мова, учынок албо мысль протіво Богу, прыказаню его і прыказаню церковному.

**Чым змазуются грехі?**

Ответ: Грех первородный змазуется і отпушчается през святаго Крешченія Сакрамент. Грех учынковый змазуется і отпушчается през Споведь, і през Крешченіе, колі кто в дорослом веку крешчается.

**Чы належат змовы до любві?**

Ответ: Належат, бо змовы не дотрымываті, і того что кому треба, не отдаваті, ест протів Любві.

**Много может быті контрактов ілі змов.**

Ответ: Десят. 1. Куповане і продаване. 2. Пожычане грошей. 3. Одбіране чыншов. 4. Аренда. 5. Трымане маетності правом ленным. 6. Рукоімство. 7. Застава. 8. Посаг. 9. Обетніцы і даровізны. 10. Депозыт.

**Что належыт сохраніті в купованю і продаваню?**

Ответ: Кождая реч может быті проданая і купленная, опроч речей Духовных, опроч речей позосталых по смерті родічов детей, опроч чоловека волного, опроч дорогі публічной, і опроч чужой речы, бо тых всіх ані куповаті, ані продаваті не можем. 2. Купец не повінен дорожей продаваті, ніжелі належыт, а колі дорожей продасть, не повінен быті раздрешен на Споведі, але покі не вернет того, что надто взял. 3. Купец повінен ознайміті, ежелібы тая реч, которую продает, мела якую сказу, і для того неповінен продаваті збожа згнілого, быдляте шальоного, сукна спальоного, і прочая, под грехом смертелным.

**Что належыт сохраніті в пожычаню?**

Ответ: Кто пожычает, не может ліхвы браті, может еднак от ста золотых пожычаных, золотых седм взяті на рок, бо хотяйбы не пожычыв, может собе чоловек заробіті през гандель седм золотых от ста золотых. Кто зась важылбыся болш браті, такій называется ліхвяром, не повінен быті прыпушчоный до Прычастья, до Споведы, не может нікто быті пры его тестаменте, і не повінен быті ані в церкві, ані на цментаре погребенный.

**Что храніті треба в заставе?**

Ответ: Можется заставіті кождая реч, быле не церковная і не чужая, тую зась заставу, за отданем грошей, пожычоных от заставніка, повінен вернуті в целості той у кого ест застава.

**Что храніті треба в даваню посагу?**

Ответ: Выдаючый дшчер за мужа повінен даті, подлуг можності, по ней посаг, под грехом смертелным, а ежелібы обецаннаго посагу не отдал, не повінен муж корміті своея жены. Колі зась умрет невеста безпотомная, посаг належыт кревным ея, а не мужеві. Ежелібы зась невеста дала прычыну до розводу, тратіт свой посаг, от отца своего данный себе.

**Что храніті треба в депозыте?**

Ответ: Депозыт ест зложеніе шат, збожа, грошей і прочыіх вешчей, у когоколвек, которое зложеніе повінен той у которого ест зложеніе, вернуті тому, который зложыл, под грехом смертелным в целості.

**Якії суть прычыны і грехі, для которых людіе мают выклінатіся?**

Ответ: Тыі суть прычыны і грехі, для которых людіе мают выклінатіся.

1. Біючый кардынала, архіепіскопа, епіскопа, іерея, діакона, поддіакона, четца, певца, клірыка, інока, інокіню, кавалера Малтейскаго, і інных кавалеров, на чыстоту і послушаніе прысягаюшчых, мает быті выклятый. Колі кто еднак ударыт которогоколвек з тых боронячыся, албо на месте тесном, на котором не може розознатіся, якая ест особа, свецкая ілі духовная, албо з жарту а не зе злості, албо для поправы жывота, але то тылко належыт до власті епіскопской, албо колі кто бьет духовную особу, зостаючую в греху телесном з кревною своею, албо колі бьет особу духовную по троякім епіскопскім напомненію, не носяшчую одежды капланскія, албо колі кто бьет духовную особу, купецтвом, жолнерством, розбоем, карчмарством, ношеніем оружья, резнецтвом ілі куглярством бавячагося, албо колі кто до палацу Кролевскаго тіснучыхся не острожне между німі зостаючую особу духовную пхнет, албо колі кто побьет іерея маючаго другую жену; на той час не попадает в клятву. В інных зась прыпадках біючый особу духовную попадает в клятву, от неяже нікто раздрешыті может, кроме Папы Рымскаго, ілі того которому дасть власть ку раздрешенію Папа Рымскій.

2. Еретыкі всі, оборонцы іх, чытаючыі кнігі іх, чытаючыі кнігі чародейскія, о геоманціі, то ест о чарах, о гідроманцыі, то ест о веждбярствах, о акроманцыі, то ест о способах даня трутізны, о піроманцыі, то ест о пророцтвах през дьявола, о ономанцыі, то ест о заклінаню людей, быдла, ужов, і самых дьяволов, през дьяволов, о хіроманцыі, то ест о познаваню жывота люб смерті, шчастя люб нешчастя, з долоні рукі десныя ілі левыя, і о некроманцыі, то ест о воскрешанію умершых, през дьявола, таковыя кнігі друкуючыі, пішушчыі, ілі у себе трымаюшчыі, сіі всі впадают в клятву, Папе точ’ю Рымскому к раздрешенію удержанною.

3. Поедінкуючый, позваляючый на поедінок мейсца, не забороняючый поедінку, радячый, помагаючый, на поедінок глядяшчый, впадают в клятву, а поедінкуючый не может быті хованый на мейсцу святом. Место, позваляюшчее мейсца на поедінок, впадает в завешчаніе ілі інтердыкт, то ест не повінно слухаті службы Божыея і браті публічно святыя Сакрамента. Гдыбы зась трафілося поедінковаті духовной особе, такая опроч клятвы, попадает в запрешченіе, тратіт уряды своя, і впадает в неключымство, то ест стается неспособным до капланства, от тоея клятвы может іерей простый раздрешыті. Суть еднак два прыпадкі, в которыі волно поедінковаті. Першый, колібы войска протівныі, не

хотячы тратіті людей, постановілі, абы тылко двох людей значных поедінковало, і през той поедінок война устала. Вторый, колі кто не может іначей здоровя своего обороніті, тылко през поедінок.

4. Прымушаючый до закону, ілі отмавляючый от закону невесту, впадает в клятву, прымушаючый зась, ілі отмавляючый от закону чоловека мужеска полу, грешыт смертелне, але в клятву не впадает.

5. Той который убьет іерея, діакона ілі клірыка, сам, і сынове его, не могут быті іереямі, тратіт колляторство, повінен нагій, токмо от чрева к ногам одеянный, без ботов, розгу в руках держашче, а верх пры шыі, в пяті церквах быті, в ніх грех свой ісповедаті, і през псалом “Помілуй мя Боже” рукою іерейскою бьен быті.

6. Той который для встыду старается, абы невеста пред порожденіем нізвергла дітя, проклят ест і ереем быті не может.

## СПОВЕДЬ ПОВШЕХНАЯ

Я, грешный чоловек, споведаюся Господу Богу Вседержытелю, в Троіцы святой едіному, Пречыстой Деве Марыі, Матеры Божыей і всім святым, жем согрешыл протіво Господу Богу моему, мыслію, мовою і учынком, не кохаючы Господа Бога моего с всего сердца, с всея душа, с всіх сіл, а бліжняго моего, яко сам себе, жем согрешыл пыхою, лакомством, нечыстотою, гневом, заздростью, обжарством, ленівством, і пятмі смысламі тела моего. Того жалую, і того ся ісповедаю, і прыбегаю к невінной Кровi Господа нашого Ісуса Хрыста, к Пречыстой Деве Марыі, і к всім святым, абы мене Господь Бог не суділ по множеству грехов моіх, но по многому мілосердью своему.

## АКТ СКРУХІ

Господі Ісусе Хрысте, спасітелю мой, который для мене грешнаго окрутне на Кресте замордованый естесь, кохаю тя над все сотвореніе, для тебе тылко самаго, жалую всім сердцем моім, жем тебе Бога і Сотворытеля моего образіл. Ненавіжду для мілості твоея, вся грехі моя, маю статечную волю пры помошчы твоей, ніколіже согрешаті, протіво тебе Господу Богу моему. Маю велікую надежду, в мілосердіі твоем, в невінной Кровi твоей, в помошчы святейшея Девы Марыі, Матере твоея, і в всіх святых, же мне вся грехі моя отпустіш, яко і аз отпушчаю, для мілості твоея, всім которые мене коліколвек і якоколвек образілі. Поможы мі Боже мой, абым более не согрешал.

**Что ешче іереі повінны чыніті с людмі своей пастве повіреннымі?**

Ответ: Ієреі, под грехом смертелным, і под вечною погібелію душы своея в огнь геенскій, повінны, албо зараз по службе Божыей, албо по обеде, во дні неделныя і святыя, созвавшы людей, а особліве деті, ко церкві, так научаті, яко ту, през пытанія і отповеды опісуется.

Ієрей. **Чы естесь ты Хрыстіанін?**

Ответ: Естем з ласкі Божой, а не з жадных заслуг моіх, ілі отца моего, ілі матере моея.

Ієрей. **Что ест Хрыстіанін?**

Ответ: Хрыстіанін ест учень Хрыстов, который прынявшы Крешченіе, верыт і вызнавает тое все, что верыті росказует Церков Святая.

Ієрей. **Что за пожыток ест быті Хрыстіаніном?**

Ответ: Хрыстіанін стается Сыном Божыім і наследніком Царствія Небеснаго, а той который не ест Хрыстіанін, ест неволніком шатанскім і наследніком пекла.

Ієрей. **Для чого Сын стался чоловеком?**

Ответ: Абы нас откупіл от неволі шатанскія, на которую заслужылісмо для греха первороднаго праотца нашего Адама, который в Раі заказанное под карою смерті яблко важылся урваті і вкусіті, для того і із Рая ізгнан бысть.

Ієрей. **Якже ся назвал Сын ставшыся чоловеком?**

Ответ: Назвался Хрыстос і Ісус. Хрыстос то ест Помазанный, то ест, же ест помазан дармі Святаго Духа, яко чоловек, над всімі королямі і архіереямі, і над самымі аггеламі, тако бо глаголется: “Даде мі ся всякая власть на Небесі і на землі”. Тое зась слово Ісус значыт Спасітеля, то ест, же нас откупіл от неволі шатанскія і от пекла.

Ієрей. **Як же нас откупіл Сын Божый?**

Ответ: Откупіл нас ставшыся чоловеком і давшыся мучыті і распяті на Кресте, святою Кровью своею, за весь мір ізліянною.

Ієрей. **Чы ожыл Хрыстос по смерті?**

Ответ: Хрыстос по смерті в третій день воскресе, а в четырыдесят дні на Небо сілою своею вознесеся, і сяде на Престоле Бога Отца, одесную его.

Іерей. **В кім маем меті надею до спасенія вечнаго?**

Ответ: Маем меті надею в святейшой Крові Господа нашего Ісуса Хрыста, невінне за нас ізліянной, в помошчы Пресвятыя Богородіца, святых Аггелов і всіх святых.

Іерей. **През Любов, кого маем любіті?**

Ответ: 1. Маем любіті Господа Бога нашего, всім сердцем нашым, всею душею нашею, всімі сіламі нашымі. 2. Маем любіті бліжняго своего, хотяйбы найболшаго непрыятеля, яко самі себе.

Іерей. **Як маем любіті Бога?**

Ответ: Маем любіті Бога, хранячы заповеды от него і от Церкві святыя постановленныі, і бегаючы от всіх грехов смертелных.

* * *

## 11. З кніг слуцкае капітулы, 1722–1727 г.

(Минская старина. вып. 4. Минск, 1913. с. 149, 153, 157-158)

Дакументы слуцкае капітулы пісаны ў тыповай для ўніяцкай царквы змяшанай мове, у якой да народнай асновы дададзены значныя элементы царкоўнаславянскай, лацінскай і польскай моў.

Запіс 1722 г. аб выбранні грошай:

Року 1722 марта 8. От превелебнаго его мілості отца Феодосія Волковіча архімандрыты Слуцкаго выборных зе всей капітулы Слуцкой денег за рок 1722 одобралем до шкатулы архіерейской, талярей бітых 8, а своего обычного доходу талярей бітых два за міро святое по обыкновенію. Арсеній Берло, мітрополіі Кіевской архідіякон.

* * *

Запіс 1724 г. аб выбранні грошай:

Року 1724 іюня 17 отобралем от велебного отца Кліментія Молчановіча намесніка Свято-Троіцкого архімандрыі Слуцкой доходу архіерейского столового і мірового чтыры чырвоныі, на том і руку мою подпісую в монастыры (...) Мгарском року і дня выш пісанного. Гаврыіл Левополскій, архіепіскопіі Кіевской архідіакон.

* * *

Пазоў 1727 г.:

Феодосій Волковіч архімандрыт Слуцкій, наместнік архіепіскопіі Кіевской, ігумен ставропігіальный брацкій Слуцкій, такожде ігумен Мороцкій, Грозовскій, Заблудовскій і проч. Тебе, честному отцу Гервасію Сашковскому свяшченніку Басловскому по жалобе пречестнаго отца Грыгорыя Міхневіча презвітера Свято-Нікольского Слуцкого.

Властью нашею наместнічею о годіны 9 на день 22 за сім повторным акі і по трете себе даным в сем року і месяцы, в дом судовый духовный метрополітанскій на суд духовный капітулный ставітіся ліцезрытельно і совершенно усправедлівітіся повелеваем в том: же ты, отче, неведаті коею властью на разореніе канонов Святых Отец на поспозыцыю прывілейов княжых в чужую парохію всема возбраняючых втручатіся любо і декрета, под віною і каранем себе ведомые, важышся в парохію пречестного отца жалобліваго вежджаті, особліве в село Мусічы, погребы, шлюбы і проч.

одправуеш, яко і недавнымі часы погреблесь человека безпотомнаго, который за жытія своего так сорокуст по себе зычыв яко і самой церкві Свято-Ніколской Слуцкой много добра сведчыті, і през тое твое таковое дерзновеніе так пречестный отец жалоблівый яко і сама церков Святая шкодует, так теж і шлюб там одному выдалесь. Втом теды ставай на помененом терміне і месцу і шчо часу права обшырней будет тебе задавано од поводовой стороны скромне і тіхомірне одказуй і совершенно усправедлівляйся.

Пісан в дому судовом духовном капітулным Слуцкім. Дня 20 February Anno 1727.

Сей позов рукамі моімі власнымі до рук отца обжалованнаго преподается.

Данііл Біруковіч, інстыгатор судов духовных капітулы Слуцкой.

* * *

## 12. Вітальны верш на прыезд да Вільні біскупа Вармінскага, 1729 г.

(Дзяржаўны гістарычны архіў Летувы, фонд 1135, рукапіс №147, с. 20-21)

Верш “*Waledykcya Łukiszkańskiej Ukrainy*” (“Вітанне Лукішканскай украіны”), якім віталі ў Вільні Крыштафа Шэмбека, біскупа Вармінскага, 17 чэрвеня 1729 года падчас урачыстасці на чэсць святога Казіміра.



Цэнтр Вільні з ратушам на малюнку 1763 г.

| | |
|---|---|
| Nute ż Bratia Kozaki<br>w kobzy zatinayte<br>Milostiwoho Hostia<br>Kniazia weliczayte | Нуте ж, братя козакі,<br>в кобзы затінайте,<br>Мілостівого гостя<br>князя велічайте. |
| On senator weliki<br>Kniaź meży Kniaziami<br>Sławy połon, Pan z Panow<br>iedyn z Korolami | Он сенатор велікі,<br>князь межы князямі,<br>Славы полон, пан з панов,<br>едін з королямі. |
| Kazimiera swiatoho<br>molitwy prochaty<br>Kniaź do Kniazia pryiechau<br>w Hosty odweżaty | Казімера святого<br>молітвы прохаті<br>Князь до князя прыехау<br>в гості одвежаті. |
| Nasz Kazimier z Lilioy<br>a Szembek z rożami<br>Obay w mihach kwitonki<br>w oczach pered nami | Наш Казімер з лілёй,<br>а Шэмбек з рожамі,<br>Обай в мігах квітонькі<br>в очах перэд намі. |

Jak snopok Jahielońśki
hołowu schylaiet
Kazusienko z Oltara
Kniazionka witaiet

Budź zdarou, Krysienku
mene odweżaisz
Koli Tebe treba budet
Ty mene doznaisz

Oy Ty Kniaź, ja druhy,
obay Chrysta nosim
My obadwa ich Braty
czoho ż ne wyprosim

Ty do moho Oltara
Ja zhory do Tebe
Rozniau ruki, hleżuse
Welmi ż lublu Tebe

Ty moiu mohylońku
serebrem horodysz
Rożami wysażaiesz
na diw ludy wodysz

Oy wsy ż budut dywitsia
iak ja twoie roże
W moy horodok presażu
pomożу sz nam Boże

Nute ż nute Kozaki
łaskawoho maiem
Po swiatych my hreszniki
Kniazia powitaiem

On sedyt choroszonki
rożami kidaiet
A kozelczyk odyn z druhim
pered nym behaiet

Na Kniaziniu Rożu hlediat
oczeńkami łup, łup,
Rożeńkami podkidaiut,
nożeńkami tup, tup.

Як снопок Ягелонскі
голову схіляет,
Казусенько з олтара
князёнька вітает.

Будзь здароу, Крысеньку,
мене одвежаіш,
Колі тебе трэба будет,
ты мене дознаіш.

Ой ты князь, я другі,
обай Хрыста носім,
Мы обадва іх браты,
чого ж не выпросім.

Ты до мого олтара,
я згоры до тебе.
Розняу рукі, глежусе,
вельмі ж люблю тебе.

Ты мою могілоньку
серебрэм городіш,
Рожамі высажаеш,
на дів люді водіш.

Ой всі ж будут дівітся,
як я твое рожэ
В мой городок прэсажу,
поможы ж нам Божэ.

Нуте ж, нуте, козакі,
ласкавого маем.
По святых мы грэшнікі
князя повітаем.

Он седіт хорошонькі,
рожамі кідает,
А козельчык одін з другім
перэд нім бегает.

На князіню Рожу гледят
очэнькамі луп-луп,
Рожэнькамі подкідают,
ножэнькамі туп-туп.

Kozielczyki lubczyki
zostantese z nami
Nasz Kazimier karmity
budet liliami

My dla Was w sercach
naszych
pobuduiem chaty
Helzborg, Reizel, Worumdyr,
Brunzberk budem zwaty

A samoho Kniaziańku
net czoho czynity
Budem z żalu y z serca
Hospoda molyty

Kolib z Wilna ieduczy
zbłudyu aż do Rymu
Jak Aneas Sylvius
na Papiesku Prymu

Trycat y tretim budesz
po nym w Watykanie
Jak proroki warażut
twoiey Roży Panie

Nasz Kazimier powedet
na konyczku tobe
Na szczo nas pakidaiesz,
otoż Kniaziu tobe

On dorohu lilioy,
ty stelesz rożami
My roży całuiuszy
za toboy z kobzami

Płaczom, kryczym:
Kniaziu nasz!
Za szto sz nas kidaiesz
Budz zdarow mnoholisten
na dorohu maiesz.

Козельчыкі, любчыкі,
зостантесе з намі,
Наш Казімер карміті
будет ліліамі.

Мы для Вас в сэрцах нашых
побудуем хаты,
Гельцборг, Рэйзель,
Ворумдыр,
Брунзберк будем зваты.

А самого князяньку
нет чого чыніті,
Будем з жалю і з сэрца
Господа моліті.

Колі б з Вільна едучы,
зблудіу аж до Рыму,
Як Анэас Сыльвіус
на Папеску Прыму.

Трыцат і трэтім будеш
по нім в Ватыкане,
Як пророкі варажут
твоей Рожы, пане.

Наш Казімер поведет
на конічку тобе.
На шчо нас пакідаеш,
ото ж, князю, тобе.

Он дорогу лілёй,
Ты стелеш рожамі,
Мы рожы цалуючы,
За тобой з кобзамі.

Плачом, крычым:
“Князю наш!
За што ж нас кідаеш!”
Будзь здаров, многолістен,
на дорогу маеш.

## 13. Кантрактавы запіс магілёўскага цэхмістра, 1729 г.

(Н.С. Можейко, А.П. Игнатенко. Древнерусский язык. Минск, 1978. с. 91-92)

Я, Андрей Антоновіч Князевіч, цехмістр бывшый гарбарскій, мешчанін могілевскій, чыню ведомо тым моім лістом і добровольным контрактовым запісом даны[м] пану Стефану бурмістровічу Коробанковічу на то іж взялем і рукамі моімі отлічылем от его самого готовой сумы золотых четыреста, за которую то суму золотых четыреста маю і повінен буду отдать і выставіть юхту добраго чырвонаго невыделаго несвішчеватаго негорелаго пар сорак, пара каждая мусі быть фунтав осмнадцать могілевской вагі, а фунтом каждый цена осьмаков осмьнадьцать, которую то юхту пар сорак маю выставіть в запустах Філіповых року теперешнем тысеча семсот двадцать девятым, не хібаючы того терміну, под со[в]ітою заплатою сумы. На то даю тей мой добровольный контрактовый запіс с подпісом рук нашых.

Пісан в Могілеве року тысеча семсот двадцать девятого, м[еся]ца юля двадцать шесьтого.

Я, Андрей Антоновіч Князевіч, рукою: [подпіс].

## 14. Запіс у Служэбніку, 1730 г.

(Z. Jaroszewicz-Pieresławcew. Zapiski w księgach drukowanych cyrylicą w oficynach Wielkiego Księstwa Litewskiego w XVI–XVIII wieku // Acta Baltico-Slavica. t. 37, 2013. s. 251)

Запіс 1730 года ў служэбніку, друкаваным у Вільні і Супраслі між 1692 і 1695 гг.

Во імя Отца і Сына і св. Духа, амінь.
Сію кнігу глаголемую Служебнік і со інымі благопотребнымі отправамі купіла раба божыя Евдокія за золотых одінадцать доброй монеты на польскія рахуючы золотых двадццать і два за свою суму власную і за свое здравіе і наіпаче душевное спасеніе такожде і сынов своіх (...), кторая по моей голове могут ся до ней прызна(...) і о ней старанія найпілнейше меті, которую кнігу отдаю (...) на вечные часы і абы ей не могл нехто отдаліті (...) от кревных моіх жадных под клятвою (...).
Року 1730 месяца іюня дня 29.

## 15. З Ковенскага зборніка, 1731 г.

(Brückner A. Polnisch-russische Intermedien des XVII. Jahrhunderts. // Archiv für Slavische Philologie. Bd. 13, 1891. S. 232-235)

З зместу Ковенскага зборніка відаць, што ў 1731 г. ён належаў Ковенскаму Езуіцкаму ліцэю (lycaei Caunensis Soc. Jes. 1731). Інтэрмедыя з гэтага зборніка – прыклад камічнай п’есы, папулярнай у тагачасных тэатрах. Дзейныя асобы – Мужык (Colonus) і Студэнт (Studiosus). Мужык мовіць па-беларуску, а Студэнт па-польску.

| | |
|---|---|
| C.(olonus): | Мужык: |
| – Achcie mnie ż! ludziey, ludziey, iak wady, ale tam rabiata żewżyki, uiechier ich nosić, krućiatsa; heto każuć szto ich na pahulanku raz u hod puszczaiuć; tam że to tam ni ładu ni paradku: adzin druhoho pichić nosem na ziamlu, u czubki, na kułaczki iak zapaluć. Ach, daroha, daroha praklataia, samyie piekieliszki, utamiusa iak sabaka, paszanawauszy iasnoho Soniayka, krasnoho miesieczyka y was Panou; pryśiadu trochu. Maśpanowie, at na paciechu waszuiu y swaiu pryznaiu się wam, szto ieść u mienie doma Bastruk bastruk, da żal sia Boże, szto mużykom vradziusa; takaia praszkuda pramyślnaia, da Bakiłamara iak na pirahi z maśliczkam napiraiacsa; kalib hetta rozum na niaho nabyć, poruszyby ia swaiey maszny, a ćiepier iak hetye zeuzyki razlezućsa, y za hraż ho mohby dastać. | – Ахце мне ж! людзей, людзей, як вады, але там рабята жэвжыкі, віхер іх насіць, круцятса. Гэто кажуць, што іх на пагулянку раз у год пушчаюць; там жэ то там ні ладу, ні парадку: адзін другого піхіць носэм на зямлю, у чубкі, на кулачкі як запалюць. Ах, дарога, дарога праклятая, самые пекелюшкі, утаміуса як сабака, пашанаваушы ясного соняйка, красного месечыка і вас паноу; прысяду троху. Масьпанове, ат на пацеху вашую і сваю прызнаю се вам, што есьць у мене дома баструк, да жаль ся Божэ, што мужыком врадзіуса; такая прашкуда прамысьльная, да бакіламара як на пірагі з масьлічкам напіраяцса: калі б гэта розум на няго набыць, порушыу бы я сваей машны, а цепер як гэтые жэужыкі разлезуцьса, і за гразь го мог бы дастаць. |
| S.(tudiosus): | Студэнт: |
| – A ty mużyk, co tu masz za sprawę? | [*па-польску:* – А ты, мужык, што тут маеш за справу?] |
| C.: – Nie muzyk, Moś Panie, a ni dudar, paroiu u kułak zatrublu, kali | М.: – Не мужык, мосьпане, ані дудар, парою у кулак затрублю, |

| | |
|---|---|
| dzietki u chacie zubami zwoniac. | калі дзеткі у хаце зубамі звоняць. |
| S.: – Ale co ty masz za sprawę? | С.: [Але што тут маеш за справу?] |
| C.: – Niet mośpanie, niepiśmienny czaławiek, prawowacsa ni umieiu, a chaćby paswaryusa z Susiedami, to zaraz uradnik razsudzić sprawu pastronkam. | М.: – Нет, мосьпане, непісьменны чалавек, правовацса ні умею, а хацьбы пасварыуса з суседамі, то зараз урадні́к разсудзіць справу пастронкам. |
| S.: – Czy masz iaką potrzebę? | С.: [Ці маеш якую патрэбу?] |
| C.: – Kudy moy ty sławieyku patreby, ia y kutysza nie maiu, dabro kab suitka była na chrybcie. | М.: – Куды, мой ты салавейку, патрэбы, я і кутыша не маю, дабро каб світка была на хрыбце. |
| S.: – Głupi chłop iak ciele. | С.: [Глупы мужык, як цяля.] |
| C.: – Było adno cielato, y toie zdochło. | М.: – Было адно целято і тое здохло. |
| S.: – Dyszkuruie iak grochu się obiadszy. | С.: [Размаўляе, як гароху аб'еўшыся] |
| C.: – U mienie, paniczu, dzieciey iak bobu, a harochu y asminki nietu. | М.: – У мене, панічу, дзецей як бобу, а гароху і асмінкі нету. |
| S.: – Darmo, iako widzę, groch na scianę rzucam. | С.: [Дарэмна, як бачу, гарох на сцяну кідаю.] |
| C.: – I ty maś Panie, wielmi szumisz, haroch u harszczok, nie na scienu kiday. | М.: – І ты, масьпане, вельмі шуміш, гарох у гаршчок, не на сцену кідай. |
| S.: – Chłop rozumu y za szeląg niema. | С.: [Мужык розуму і за шэлег не мае.] |
| C.: – Da taki v mienia barada iak les a rozumu by nie było, a heto znaiesz moy lebiedziu, szto każuć: kali b na Pańskuiu mudrość nie mużyckaia chytrość, dauno b muzyki pahybli. da maiu Synka zeyżyka, taki iak paraśiatko swaiawolneie. | М.: – Да такі в меня барада як лес, а розуму бы не было, а гэто знаеш, мой лебедзю, што кажуць, калі б на панскую мудросьць не мужыцкая хітросьць, дауно б мужыкі пагіблі. Да маю сынка жэужыка, такі як парасятко сваявольнее. |
| S.: – Teraz iak prosię zwyczaynie, a iak wyrośnie będzie z niego swinia. | С.: [Зараз як парася звычайнае, а як вырасце, будзе з яго свіння.] |
| C.: – Da nu Maś Panie y paliciki nia umieiesz. | М.: – Да ну, масьпане, і паліцікі ня умееш. |

| | |
|---|---|
| S.: – Mnieyszaż oto, coż z tego, że masz Syna? | С.: [Менш аб тым, што ж з таго, што маеш сына?] |
| C.: – Ei chacieu by dla niaho rozumu bolsz wytarhawać, czy nia budziećia darazyćsa? | М.: – Эй, хацеу бы для няго розуму больш вытаргаваць, чы ня будзеця даражыцьса? |
| S.: – Moy mużu, wy czasem za kwartę gorzałki rozum przedaiecie, a za co się my mamy drożyć; dostaniesz y v mnie za bity talar dostatkiem, tylko w coż weźmiesz? | С.: [Чалавечку, вы часам за кварту гарэлкі розум прадаяце, а за што мы маем даражыцца; атрымаеш і ў мяне за біты талер з дастаткам, але ў што возьмеш?] |
| C.: – Kazuć maś Panie, szto rozum da haławy idzieć; to heto waszeć mnie u ucho nakładzi, a ia Synku swaimu u doma uśio trasu. | М.: – Кажуць, масьпане, што розум да галавы ідзець; то гэто вашэць мне у ухо накладзі, а я сынку сваяму удома усё трасу. |
| S.: – Dobrze y tak, tylko czy poimiesz ty sam? | С.: [Добра і так, толькі ці займееш ты сам?] |
| C.: – I paymaiu Maśpanie, nie ucieczeć, nie. | М.: – І паймаю, масьпане, не уцечэш, не. |
| S.: – Słuchay że: Verbis caepi novi. | С.: [Слухай жа: “вербіс цэпі нові”] |
| C.: – Szto? szto? z uierby cepy nowyie, nie, moy hałubczyku, z uierby ladaszto cepy; uczy czaho inszoho. Parusz y rozumu łacińskoho. | М.: – Што? што? з вербы цэпы новые? Не, мой галубчыку, з вербы лядашто цэпы; учы чаго іншого. Паруш і розуму лацінского. |
| S.: – Czy nie chcesz być Matematicus? | С.: [Ці не хочаш быць матэматыкус?] |
| C.: – Heto, heto matać na us; hawary bolsz. | М.: – Гэто, гэто матаць на ус; гавары больш. |
| S.: – Dobrze, są tam duo cardines coeli. | С.: [Добра, ёсць там “дуо кардынэс цэлі”] |
| C.: – Szto? szto? dzuie karbony cełye, niemaiu baczysz, ni adnoy cełey, wytraśli uradniki. | М.: – Што? што? дзве карбоны цэлые? Не маю, бачыш, ні адной цэлэй, вытрасьлі ураднікі. |
| S.: – Nie rozumiesz y tego. | С.: [Не разумееш і гэтага.] |
| C.: – I razumieiu maśpanie, kały cełye karbony, a kali niacełye. | М.: – І разумею, масьпане, калы цэлые карбоны, а калі няцэлые. |
| S.: – Poydziemy do Loiki, tylko mowią, że tam caligo Spinosa. | С.: [Перайдзем да логікі, толькі кажуць, што там “каліго Спіноза”.] |

| | |
|---|---|
| C.: – Zhiń, prapadzi z rozumam, niechay idzieć kałom u ziemlu, nie chaczu, nia chachu Pania Szpiektar. | М.: – Згінь, прападзі з розумам, нехай ідзець калом у землю, не хачу, ня хачу, паня шпектар. |
| S.: – Ale nie rozumiesz. Ja mówię caligo spinosa. | С.: [Але не разумееш. Я кажу: “каліго Спіноза”.] |
| C.: – Da znaiu, szto każesz kałom pa spinie szuplu. Ja toie, kudy ty waszeć krucisz, nia chaczu. | М.: – Да знаю, што кажэш калом па спіне шуплю. Я тое, куды ты вашэць круціш, ня хачу. |
| S.: – Otoż doydziesz z nim sprawy. Ja mowię caligo spinosa a on mowi kolem po spinie. | С.: [Хіба ж дойдзеш з ім да справы! Я кажу “каліго Спіноза”, а ён кажа “колам па спіне”.] |
| C.: – Hodzie, hodzie taho, uielmi piarauczuśia. | М.: – Годзе, годзе таго, вельмі пяраучуся. |
| S.: – Poczekaj chłopie, trzeba ći wbić y to dobrze w głowę, żeby nie wypadło, trzeba ci dać po uchu. | С.: [Пачакай, мужык, трэба табе ўбіць то добра ў галаву, а каб не выпала, трэба даць па вуху.] |
| C.: – Nie ważsa, zaraz rozumam nazad addam. | М.: – Не важса, зараз розумам назад аддам. |
| S.: – Odday że talar bity, iakoś obiecał. | С.: [Аддай жа талер біты, як абяцаў.] |
| C.: – I nie maś Panie, Ja ad Ciebie z nauczyusa, szto karbony nie cełye, a do taho uiedaiesz Paniatko, szto hłupi daieć a mudry biareć, a Ja ciapier maiu rozumu, z twaiey nauki; nie dam, nie dam ni Szełaha. | М.: – І не, масьпане, я ад цебе ж научыуса, што карбоны не цэлые, а до таго ведаеш, панятко, што глупі даець, а мудры бярэць, а я цяпер маю розуму з тваей наукі; не дам, не дам ні шэляга. |
| S.: – Jak chłopie? by cie zabito, daway talar bity. | С.: [Як, мужык? каб цябе забіла, давай талер біты!] |
| C.: – Pastuy moy Spadaru, Szto talara nie maiu, a bitoho kali choczesz, aźmi pa chrybćie. | М.: – Пастой, мой спадару, што таляра не маю, а бітого, калі хочэш, азьмі па хрыбце. |
| S.: – Zgin, przepadni z taką zapłatą. | С.: [Згінь, прападзі з такой заплатай!] |
| C.: – Uiarnisię Paniatko, niedobre prybiu, pastoy, pazdry! nie zapłaćiu sausim. | М.: – Вярнісе, панятко, недобрэ прыбіу, пастой, паздры! Не заплаціу саусім. |

## 16. З песенніка “*Куранты*”, 1733 г.

(A.B. McMillin, C.L. Drage. Kuranty: an unpublished Russian song-book of 1733. // Oxford Slavonic Papers. Vol. III, 1970. №4, №36, №37)

Гой-гой, сядем в коло,
А весёло,
Выпіваймо, размовляймо,
Панове суседзе,
Нех нам добре будзе.

Гой-гой, чему бавіш,
Мой товарыш,
Хочеш піті,
Толко ся стыдіш попросіті,
Бо грошы не маеш.

Гой-гой, я заправду
Люблю жажду, яко матку,
Ю бо в достатку
Не маю на брагу
Загасіті смагу.

Гой-гой, торгуй рыхло,
Мыслі[л]іхмо
Перестаті торговаті,
Колі д[м]улі піво,
Піво ж ево жыво.

Гой-гой, і суседа
Нехай беда
Отдать ныне,
Як ветр згіне,
Піймо піво ныне
В счaслівой годзіне.

* * *

Через речку по помості
до девчыны пойду в гості,
дам ей день добры
в любві прывітаті.
Ставшы на дворе, с поклоном скоре
Дам ей рученьку, свою міленьку
Там поздоровлю, з нею ся розмовлю.

В’ежжаюшчы в ворота,
Поставлю коня у плота,
А сам скоренко в хату поспешаю
Там же і матка моя коханка
Мене встречает, шчыре вітает,
Ручкі мне обе просіт ко собе.

Прошу, сердце, до покою
Побеседуем с тобою,
Чем’ ты не ласкав,
же давно не бывал.
Прыді в мясопуст, также в сыропуст,
В неделю сырну, радость всемірну,
Мілы, хоч в велікі пост,
Вдзячны мне гость.

Сердце, вніді в мою хату,
Буду рада яко брату,
Жэм ся коханну свою не віділем.
Сядь же, коханче, мой ты братанче,
По конец стола, і я весёла
С тобою сяду размовлять поряду.

Сядь же девчыненко блізко,
Поклонюся тебе нізко,
Нех ся утешу с черных твоіх очей.
Красна девчына, бела рыбчына,
Дай же мне піва, ты чернобрыва,
З твоей ручэнкі напійся міленкі.

Выпівай полны стаканы
За здоровье своей панны,
Нех ся дознаю твоей зычлівості,
А я в веночку, мой коханочку,
С тобою танец пойду в шквадранец,
Нех музыканты заіграют куранты.

Выпівай же і остаткі
За здоровье паны маткі
За доче, братья, за вся прыятелі.
Мы на отходе пры доброй згоде
Потанцуемо, погуляемо,
Мой коханочку, напьемся медочку.

* * *

Была панна мнішка во кляштору
І муровалася во комору
Для свего для мілего душевного поцішченя.

Был же там едін ксіонж Бартломей
І спушчался оконечком до ней
Для свего для мілего душевного поцішченя.

Убрыла панна мнішка что сірота,
Дала доткнуть до свего жывота,
Для свего для мілего душевного поцішченя.

* * *

## 17. Тэстамент магілёўскага мешчаніна, 1735 г.

(Н.С. Можейко, А.П. Игнатенко. Древнерусский язык. Минск, 1978. с. 92)

Я, Мікітій Подлобко, чыню тым моім тестаментом, іж я будучы пры хоробе смертелной лягую мой дом із грунтом нікому ні в чым незаведеный сыну моему Тімофею Подлобце, жебы ніхто не мел протенцыі до него і шчоб он мое тело многогрешное ведлуг порядку хрыстіанского з молітвамі як тем през четыре десять дній хвала бозкая за мою душу не уставала і в прытомные часы жебы молітва божая не уставала. Мейсце землі застаючым в сітном ряду сыном моім первоі моеі жоны, на імя едіному Уколу і другому Вас[і]лію Подлобкам, которое мейстце локоть едін з едной стороны Васілія Шчанкового, а з другой стороны Максіма, а тылом от цекавзы, то ім запісую і лягую. А другій локоть запісую і лягую сыну моему Тімофею Падлобце з прылавком, который з едіной стороны Тімофея Моцнага, а з другой стороны Алексея Цыруты, і то вечне запісую і лягую.

Я теж прытомный будучы пры тым тестаменте упрошоны будучы от п[ана] Нікітія Подлобкі подпісуюся рукою моею власною іеромонах Іоіл Дзюка.

Подпісуе для свідетельства яко духовный іеромонах Теофіл Деяновіч.

Іван Ладнак подпісуюся.

Евфіміч Секірскій подпісуюся.

Грыгорый Секірскій подпісуюся.

Васілій Мелнік подпісуюся.

Року 1735 м[еся]ца мая 11 дня на уряде его королевской мілості меском могілевскім постановівшысе очевісто учтівый Тімофей Подлобка м[ешчанін] м[огілевскій], тот тестамент отца своего през особ духовных спісаный до актыкацыі до кніг меских могілевскіх подал. Прынял Генрый Трубніцкій регент канцелярыі м[еста] м[огілевского].

## 18. Чын шлюбу з трэбніка 1736 г.

(Евхологион, си есть Требник языкославенский. – в Лавре Супраслской, 1736. с. 56-69)

Афіцыйная формула чыну шлюбу з уніяцкага трэбніка.



ЧИНЪ ТАЙНЫ

СУПРУЖЕСТВА.

Сїесть: Законнагѡ Брака.

Парохъ оувѣщанїе прїемъ въ своей Парохїи, ѿ нѣкихъ хотящихъ Бра-

ку сочетатися: въ первыхъ да оу-

Формула пачынаецца з “*заповеді*” (абвесткі аб шлюбе):

> Вступует в стан святый малженскій младенец імярек: з парохіі імярек: з панною імярек: з парохіі імярек:

Падчас першай і другой “заповеді” святар пытае сведкаў:

> Который бы з вас ведал о яковой перешкоде, до сего малженства, повінен знать даті, до пароха.

Падчас таемства шлюбу святар пытае жаніха, потым нявесту:

> Маеш добрую а не прымушоную волю, і постановленный умысл, тую панну імярек: которую тут пред собою відіш, за малжонку собе поняті.
>
> Ответ: Маю.
>
> Не шлюбовалесь которой іншой веры малженской.
>
> Ответ: Не шлюбовалем.
>
> Таж, і панны пытает:
>
> Также і ты панно імярек: Маеш добрую, а не прымушоную волю, і постановленный умысл того імярек: котораго тут пред собою відіш, за малжонка поняті.
>
> Ответ: Маю.
>
> Не шлюбовалась кому іншому веры малженской.
>
> Ответ: Не шлюбовалам.

Святар разам з жаніхом, потым з нявестай, мовіць “велегласно і поятно” шлюбную прысягу:

> Я імярек: беру тебе собе імярек: за малжонку, і шлюбую тобе мілость, веру і учтівость малженскую, а іж тебе не опушчу аж до смерті, так мі Боже помозі в Троіцы Святой едіный і всі святыі.
>
> Таж с девіцею мовіт.
>
> Я імярек: беру тебе собе імярек: за малжонка, і шлюбую тобе мілость, веру, учтівость і послушенство малженское, а іж тебе не опушчу аж до смерті, так мі Боже помозі в Троіцы Святой едіный і всі святыі.

Потым святар мовіць да сведкаў:

> Вас которые тут есте обецныі, беру собе за сведкі, еслібы того где была потреба, абысте сведчылі, о нынешнем малженстве доброволном, меж особамі тымі прыстойне завартом, і от святыя Церкве потвержденном.



Супружества.

По семъ глетъ къ людемъ.

Васъ которіе тутъ есте ѡбецныи, беру собѣ за свѣдки, еслибы того где была потреба, абысте свѣдчили, ѡ нынѣшнемъ малженствѣ доброволном, межь ѡсобами тыми пристойне завартом, и ѿ стыѧ Цркве потвержденом.

* * *

У рукапісным зборніку №096/98 у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ёсць падобны чын вянчання першае паловы 18-га стагоддзя, у якім “иерей рече *простым языком*”:

> Маеш добрую а непрымушоную волю і статечны умысл тую імярек: которую перед собою відіш, за малжонку собе взяті.
>
> Маю.
>
> Не шлюбовалесь которой іншой веры малженской.
>
> Не шлюбовалем.

Потым святар “такожде вопрошает и невесту”. Пасля загадвае мовіць жаніху шлюбную прысягу “*простым языком*”:

> Мов за мною: Я імярек: беру себе тебе імярек: за малжонку і шлюбую тебе мілость, і веру, і учтівость малженскую. А іже тебе не опушчу аж до смерті, так мі Боже во Троіцы едіной поможы і все святые.

Потым святар загадвае мовіць шлюбную прысягу нявесце, дадаючы пасля “учтівость малженскую” словы “і послушенство малженское”.

Потым святар мовіць да сведкаў:

> Вас, которые есте тому прыслухалісе, беру на сведецтво, еслі того колі потреба будет, абысте о порядном і доброволном сконченю того малженства ведалі.

* * *

## 19. Вершы Дамініка Рудніцкага, між 1726 і 1739 гг.

(Дзяржаўны гістарычны архіў Летувы, фонд 1135, рукапіс №147, с. 34-35, 173, 182, 185)



Гарадзенскі Езуіцкі калегіюм (17 ст.) на малюнку Н. Орды

Дамінік Рудніцкі ад 1720 г. займаў пасаду пракуратара Літоўскае правінцыі Езуіцкага ордэна. Імаверна, Рудніцкаму належыць верш 1726 года на пахаванне гетмана кароннага Адама Сяняўскага, графа на Шклове і Мышы. Адзіная спадчынніца Сяняўскага – дачка Зоф'я – выйшла замуж за князя Аўгуста Чартарыйскага, прынесшы яму ў пасаг вялікія маёнткі бацькі. Відаць, да яе звернуты словы верша аб тым, каб яна не дала "загібаці" сваім слугам у новага гаспадара:

Neszczasliwy mesecz luty
w tym nastaet Roku,
Koli ż Pana Sianiauskoho
odbiehaiem kroku.

W den czternastoho lutoho
nedela miiaiet
Hetman Koronny Sianiauski
z switom się żehnaiet.

Oy minuła ż Nedelanka, w
poniediłok rano:
Nema sz pana Sianiawskoho –
usim znaty dano.

Chodiat słuhi po pokoiach,
a oczy do Nieba,
Horkim żalem promowlaiut:
rozystysia treba.

Użе ż my z toboiu pospołu
ne budem hulaty,
Hde ż by nam takoho pana
w czużynie szukaty.

Ne day ze nam zahibaty,
nech twa budet sława,
Iasneoswietynnaia Pani,
budź na nas łaskawa.

Нешчаслівы месеч люты
в тым настает року,
Колі ж пана Сяняуского
одбегаем кроку.

В день чтэрнастого лютого
неделя міяет,
Гетман Коронны Сяняускі
з світом се жегнает.

Ой мінула ж неделянка,
в понеділок рано:
Нема ж пана Сянявскаго –
усім знаті дано.

Ходят слугі по покоях,
а очы до неба,
Горкім жалем промовляют:
розыстіся трэба.

Ужэ ж мы з тобою посполу
не будем гуляті.
Где ж бы нам такого пана
в чужыне шукаті.

Не дай же нам загібаті,
нех тва будет слава,
Яснеосветінная Пані,
будзь на нас ласкава.

У алегарычных вершах Рудніцкі кпіў з заган тагачаснае шляхты. Гэтак, у вершы пра ваенны паход грыбоў вобразна выяўлена безадважнасць і бязладнасць шляхты, якая рознымі спосабамі ўнікала ўдзелу ў ваенных выправах:

**Expedito bellica Fungerum**
**(Ваенны паход грыбоў)**

Rozkazau kniaź Borowik,
sieżuczy pod sosnoiu,
Wsem Hrybem isty na waynu,
wsiem isty do Boiu.

Adkazau iamu Kazlak:
ja choć dobry iunak
Da samapała ne maiu,
Zastanusia u haiu.

Adkazali Apienki:
My hryby słabienki
My u poli nie rasli,
Da pry dzierawie skisli.

Adkazali im Ryszki:
my ne barawyie szyszki,
Naszto ż nam szyszak nosyty
koli ne umieomose bity.

Adkazali Lisiczki:
Nie choczom toy potyczki.
Idzi ty sam, Barawiku,
stań za nas u szyku.

Adkazali Pieczary:
ne smakuiut nam waiennyie mary
Niechay za nas mużyki
pobiutsia, Ryżyki.

Adkazali y Hruzdy:
my nie durnyie drozdy
Bez krup, bez soli isty
I trascu z nieczym iesty.

Розказау князь Боровік,
сежучы под сосною,
Всем грыбэм істі на вайну,
всем істі до бою.

Адказау яму Казляк:
– Я хоць добры юнак,
Да самапала не маю,
застануся у гаю.

Адказалі Апенькі:
– Мы грыбы слабенькі,
Мы у полі не раслі,
да пры дзераве скіслі.

Адказалі ім Рышкі:
– Мы не баравые шышкі,
Нашто ж нам шышак носіті,
колі не умеемо се біті.

Адказалі Лісічкі:
– Не хочом той потычкі,
Ідзі ты сам, Баравіку,
стань за нас у шыку.

Адказалі Печары:
– Не смакуют нам ваенные мары.
Нехай за нас мужыкі
поб’ются, Рыжыкі.

Адказалі і Грузды:
– Мы не дурные дрозды,
Без круп, без солі істі
і трасцу з нечым есті.

Adważywsia Muchamor
Da zhinuu że, iak kamor.
Łaży ż ty, hrybie, bez ducha,
szczo porwausia iak mucha.

Адважывся Мухамор,
да згінуу жэ, як камор,
Ляжы ж ты, грыбе, без духа,
што порвауся, як муха.

У вершы "Птушыны сход" Рудніцкі паказвае побытавую сцэнку з жыцця шляхты. У гратэскным стылі выяўлена, як шляхецкая пыха вымушае гаспадара (худака-вераб'я) справаваць пышныя учты, якія сканчаюцца свавольствам.

## Comitium Papens
## (Птушыны сход)

Da uczyniu Werebiey
na prypiezcku Żniwo
Zmołociwszy uwaryu
pszenicznie Piwo
Pou tyczyny chmielu dau
welmi ż toho żałowau
Dumnych mieu prochaty,
Hostey czastowaty.

Na muzyku Poutarak
wielikuiu sumu
Odliczywszy na kozak
szczo b zahrali Dumu
Ia chudak Werebiey
zaprosiwszy Hostey
Muszu wiesioł byty
z nimi wespoł pity.

Oy prylecieu Snihirok
Skrypaczok nie prosty
Skazać Panu Werebieiu:
Ieduć k tobie Hosty.
Iedzieć pan Żurawiel
y Dziaćka Twoy Chrusciel
I Pani Sinica
rodnaia siestryca.

Skoczyt chutko Wierebiey
Hosty spotykaty
Hlanie w pole bystrym okiem –

Да учыніу Верэбей
на прыпечку жніво,
Змалацівшы, уварыу
пшэнічне піво.
Поутычыны хмелю дау,
вельмі ж того жаловау,
Думных меу прохаті,
госцей частоваті.

На музыку поутарак,
велікую суму,
Одлічывшы на козак,
шчо б загралі думу.
Я, худак-Верэбей,
запросівшы гостей,
Мушу весёл быті,
з німі вэспол піті.

Ой, прылецеу Снігірок,
скрыпачок не просты,
Сказаць пану Верэбею:
– Едуць к тобе гості,
Едзець пан Журавель
і дзяцька твой Хрусцель,
І пані Сініца,
родная сестрыца.

Скочыт хутко Верэбей
гості спотыкаті,
Гляне в поле быстрым окем,

aż ich nie widaty.
Tolko dwa Puhaczy
sławnyie Trubaczy
I Pan Kruk Basista,
Bocian Worhanista.

Moie miły susiedy
Pany muzykanty
Zahraycie ż mnie tańcy,
wiesiołe drabanty.
Miły Kruczku zaspieway,
Snihiroczku zaskrypay,
A ty Panie Bocianie
zaihray na Worhanie.

Iak Wierebiey Hospodar
wiesioło tańcuie
Zaproszonych do sebe
Hostey ne pilnuie.
Zamki biiuć, odmykaiuć
samy Piwa nalewaiuć.
Wierebiey ne baczyć,
wiesioł w Domu skaczet.

Iak Wierebiey Hospodar
perestau skakaty
Stanuuszy pry porozie
poczau pryimowaty
Oy maia ż ty miłaia
drużeczka lubaia
Ia Wierebiey Słuha wasz
czekau dotul usich was

I tak dumnych ion Hostey
sadzić koło stoła
Pasadiwszy byu im rad
niezmarszczywszy czoła.
A Soroki i Halicy
sieli razom na palicy.
Sieła i Warona
chocia ż ne proszona.

Na ton Bankiet kamara
z muraszkaiu zabili,

аж іх не відаті.
Только два Пугачы,
славные трубачы,
І пан Крук басіста,
Боцян ворганіста.

– Мое мілы суседі,
паны музыканты,
Заграйце ж мне таньцы,
весёлэ драбанты.
Мілы Кручку, заспевай,
Снігірочку, заскрыпай,
А ты, пане Боцяне,
зайграй на воргане.

Як Верэбей-господар
весёло таньцуе,
Запрошоных до себе
гостей не пільнуе.
Замкі біюць, одмыкаюць,
самі піва налеваюць.
Верэбей не бачыць,
весёл в дому скачэт.

Як Верэбей-господар
перэстау скакаті,
Стануушы пры порозе,
почау прыймоваті:
– Ой, мая ж ты мілая,
дружэчка любая,
Я Верэбей, слуга ваш,
чэкау дотуль усіх вас.

І так думных ён гостей
садзіць коло стола,
Пасадівшы, быу ім рад,
не змаршчывшы чола.
А Сорокі і Галіцы
селі разом на паліцы.
Села і Варона,
хоця ж не прошона.

На тон банкет камара
з мурашкаю забілі,

Z kamareńka try połci
słaniny złupili.
Sto kiełbas narobili
y try kumpi uwędzili.
Schaby prypiekano,
do stołu dawano.

I tak dumnych Hostey
usich częstowali,
Kamara z muraszkoiu
smaczno używali.
Za zdorowie Wierebia
ieli pili aż do dnia.
Nieczyniwszy zdrady,
niedaznawszy zwady.

Koli blizko pounoczy
Sowa prylecieła,
Tak cicheńko pod stałom
na zdradu usieła.
Starszy Hość Żurawiel
kazau sobie słać pasciel.
Chruscielok upiwsia,
Pad stoł padwaliusia.

Paruieć Sawa Chrusciela,
upuł rozedrała,
A spiaczomu Żorawlowi
horło prekusała.
Hospodara ne zhoniła,
Muzykantow poraniła.
A Soroki z Pieczy
musieli ucieczy.

З камарэнька тры полці
сланіны злупілі,
Сто келбас наробілі
і тры кумпі увэндзілі.
Схабы прыпекано,
до столу давано.

І так думных гостей
усіх чэстовалі,
Камара з мурашкою
смачно ужывалі.
За здоров’е Верэб’я
елі, пілі аж до дня,
Не чынівшы здрады,
не дазнавшы звады.

Калі блізко поуночы
Сова прылецела,
Так ціхенько пад сталом
на здраду усела.
Старшы госць Журавель
казау сабе слаць пасцель,
Хрусцелёк упівся,
пад стол падваліуся.

Паруецъ Сава Хрусцеля,
упул розэдрала,
А спячому Жоравлёві
горло прэкусала.
Господара не згоніла,
музыкантов пораніла,
А Сорокі з печы
муселі уцечы.

У вершы “Камара цяжкі з дуба ўпадак” Рудніцкі выяўляе настроі былых удзельнікаў казацкіх войнаў.

## Komora cięszki z Dębu upadek
## (Камара цяжкі з дуба ўпадак)

Stuknuło, hruknuło w lesie
Szcze ż nam nowoho pryniesie?
Upau komarec z duba
Szukaiuczy Hołuba.

Upau na koreniszcze,
Stouk sobie koleniszcze.
Da prylateła tam Mucha
Do Komarowoho ucha

Hukaiuczy iamu: Miły Kamaru,
Żal mene tebie ne pomału,
Szto dla toho Hołuba
Upau z toustoho Duba.

Taia sieła rohowaty,
Hde by Kamara zchowaty.
Zachaway mene u poli
Pry zieloney Roli

Natykay mene Stryłami
Z ostrymi żelazcami
Samopał pałaży pry boku,
Maszna, rezak niechay na oku.

Kali prydut kazaki
Choroszyie iunaki
Budut kamara płakaty
I horko żałowaty.

Da y zapiszy na mohile
Ku wiekopomnoy chwile:
Tut leżyt komaryszcze
Choroszoie iunaczyszcze.

Niechay każdy wedaiet,
Hde kamar spaczywaiet.

Стукнуло, грукнуло в лесе,
Шчэ ж нам нового прынесе?
Упау комарэц з дуба,
Шукаючы Голуба.

Упау на корэнішчэ,
Стоук собе коленішчэ.
Да прылятела там Муха
До Комарового уха,

Гукаючы яму: – Мілы Камару,
Жаль мене тебе непомалу,
Што для того Голуба
Упау з тоустого дуба.

Тая села роховаті,
Где бы Камара сховаті.
– Захавай мене у полі
Пры зелёнэй ролі.

Натыкай мене стрылами
З острымі желязцамі
Самопал палажы пры боку,
Машна, рэзак нехай на оку.

Калі прыдут казакі
Хорошые юнакі,
Будут камара плакаті
І горко жаловаті.

Да і запішы на могіле
Ку векопомной хвіле:
Тут лежыт комарышчэ,
Хорошое юначышчэ.

Нехай кажды ведает,
Где камар спачывает.

## 20. З метрычнай кнігі, 1741–1744 гг.

(Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Фонд 136, вопіс 13, справа 306)

Запісы з метрычнай кнігі шлюбаў царквы вёскі Гарадзец (Піншчына).

**Метрыка церкві Городецкой, року 1741, месяца октомбра дня 6**

Я Теодор презбітер церкві Городецкой дав шлуб през тры заповеді Леону і Ганні [Осн]уку у церкві, светкі былі Кірыло Сімонцук, Іван Зурудчук із села Уголца.

Я Теодор, презбітер церкві Городецкой, року 1743 месяца февраля дня 1 дав слюб у церкві през тры заповеді Іванові Ганні Кіслюку із Березного, з дому Барылова, светкі былі Степан Карповіц, Васіл Бортнік з села Березного.

Я Теодор презбітер церкві Городецкой року 1744 месяца октомбра дня 7 дав шлюб, през тры заповеді, Леону із Думною, Ушку з Янцыков дому, сватове былі Іван Кравцык, Грыц Вінік із села Орлув.

(...)

## 21. З песеннікаў, 1740-я гады

У песенніку, складзеным каля 1746 г. (Віленская бібліятэка Урублеўскіх, фонд F19, зборнік №233, л. 37v), знаходзіцца “***Песнь Емпіру горняго***”:

**Песнь без початку**
**Емпіру горняго**

Ідет с крестом Пан наш смутне,
Збітый от жыдов окрутне,
Агнца, Агнца на крест распінают,
гвоздмі в рукі прыбівают.
Потом с крестом поднесенный,
желчю з оцтом напоенный.
Матка, Матка гды тое узрела,
падшы, падшы на землю умлела,
Лзы з очый выліваючы,
шчо момент умлеваючы,
З жалю, з жалю так ламентовала,
з Сыном умреті жадала.
Матку учневі зліца[ет],
в том духа Отцу отдает,
Нагій, нагій Сын на кресте вісіт,
а жыд, а жыд себе з него шыдіт,
Тростію бок му пробіто,
Кровь з него текла обфіто.
Тое, тое матка его зряше,
жалем наполнена бяше.
Солнце промень свой закрыло
і во тму ся пременіло.
Луна, луна в крові ся обернула,
ясность, ясность свою спустіла.
Звезды вшлі отмененны
і в жалобу облеченны,
Земля држала, скалы ся падалі,
в церкві, в церкві завесы [ся] дралі.
Мы з очый слезы точемо,
на умершаго глядемо,
Хрыста, Хрыста для нас распятаго,
бы нам взычыл Царства Небеснаго,
Абы всем дал доступіті,
з нім вечне на векі жыті
В хвале, в хвале раю пресветлаго,
Хрысте, Хрысте взыч нам добр[ый] того.

У тым жа песенніку знаходзіцца песнь “***Господь Бог Адама сотворыв рукама***” з вельмі старажытным апакрыфічным сюжэтам аб Адамавым запісе д’яблу (падаем паводле публікацыі Пераца: В.Н. Перетц. Историко-литературныя изследования и материалы. т. I, ч. 1. Санкт-Петербург, 1900. с. 119-120):

Господь Бог Адама сотворыв рукама
во образ славы его,
Дал ему жену на імя Еву
з боку ребра его.
Обецяв ему, обецяв ему
раскошы в раю з женою.
Заказав тылко одного древа райскаго
не казав рухаті.
А враг злослівый а не зычлівый
так Еву намовляет:
“Возьмі тылко яблоко, моя коханко”,
так ей поражает.
Взяла Ева от того древа, рукою урвала,
шкоду Адамові подала.
Адам прыймает, яблко вкушает,
наготу познавает.
Ева познала, же нага стала,
сама ся завстыдала.
Сошылі з лістя, чекалі прыстя
самого Хрыста Творца.
Сталі гадаті, где ся ховаті,
мусілі завстыдаті.
Творец прыходіт, до ніх говорыт,
гласом своім іх волает.
Адам стенает, слезы вылівает,
на Еву все складает.
Рече Бог змію: “Тебе бо мовлю,
ораз тя проклінаю.
Ползай на чреве, а не шкодь Еве,
преч там з раю”.
Бог в раі ходіт, Ангел прыходіт,
Адама выгоняет.
Почав фукаті, мечем дмухаті,
Адам з страху начав уміраті.
Во мерстей реце, во воде горце
там покутовалі,
А потом роділі сына Каіна,

цыро́граф запісалі.
А взявшы запіс, до ада занеслі,
в камень замуровалі.
Абы Адам і народ его
до пекла порывалі.

У песенніку, складзеным каля 1740 г. (Віленская бібліятэка Урублеўскіх, фонд F19, зборнік №234, л. 129v-130v), знаходзіцца свецкая народная песня "***Гэй, сам жэ я не знаю, шчо так барзо нудно***":

Hei sam że ia ne znaiu
szczo tak barzo nudno
tylko tebe serce baczu
wymowity trudno

Ach polubiw ne zbludyw
hodnas byty chorosza
chocz straczusia do hrosza

A staratysia budu
aby poiskaty
łasku twoiu moia pani
koli b otrymaty

Hei a zaczym y pryczim
doswitczenia rycz hodna
moia mysli nezbłudna

Do nuh twoich upadaiu
ne odminiai tomu
szczom pryichaw poiskaty
łasku w twoim domu

Hei wirnomu twoiemu
słuzi kotoryi wik ciłyi
prahnet bity ziczliwyi

Trudno Dunai pereplysty
syły ne stomiwszy
Jeszcze trudnii druha mity
krypko ne lubiwszy

Гэй, сам жэ я не знаю,
шчо так барзо нудно.
Тылько тебе, сэрцэ, бачу,
вымовіті трудно.

Ах, полюбів, не зблудів,
Годнась быті хороша,
Хоч страчуся до гроша.

А старатіся буду,
абы поіскаті,
Ласку твою, моя пані,
колі б отрыматі.

Гэй, а зачым і пры чым,
досвітчэня рыч годна? –
моя мысль незблудна.

До нуг твоіх упадаю,
не одміняй тому,
Шчом прыіхав поіскаті
ласку в твоім дому.

Гэй, вірному твоему
слузі, который вік цылый,
прагнет быті зычлівый.

Трудно Дунай переплысті,
сылы не стомівшы,
Ешчэ трудній друга міті,
крыпко не любівшы.

Hei kochaiu ne dbaiu
Bohu peczal oddaiu
na nim żytie składaiu

Hei poidu poraiusia
staręnkoi matki
Hei czi kazet czy ne kazet
tebe serce wziat

Hei poidzi odwidzi
ne stratysz tam sławonki
pociłuiesz ruczenki

Worozenky osuždaiut
wzyali z mene mowy
A wżeż mene osudyli
od nuh do hołowy

Hei kochaiu ne dbaiu
Bohu peczal oddaiu
na nim żytye składaiu

Гэй, кохаю, не дбаю,
Богу печаль оддаю,
на нім жытье складаю.

Гэй, пойду пораюся
старэнькой маткі.
Гэй, чы кажэт, чы не кажэт
тебе, сэрцэ, взять.

Гэй, пойдзі, одвідзі,
не стратіш там славонькі,
поцылуеш ручэнькі.

Ворожэнькі осуждают,
взялі з мене мовы,
А вжэж мене осуділі
од нуг до головы.

Гэй, кохаю, не дбаю,
Богу печаль оддаю,
на нім жытье складаю.

* * *

## 22. Верш Яўхіма Храптовіча, каля 1745 г.

(Курніцкая бібліятэка Польскае акадэміі навук, рукапіс №1280, л. 113r–114v)

Верш напісаны маладым Яўхімам Храптовічам каля 1745 г. на чэсць уходзін яго дзеда і бабкі Казіміра і Тэафілі Несялоўскіх у іх новы палац у Ясенцы на Наваградчыне.



Яўхім Храптовіч, апошні канцлер
Вялікага Княства Літоўскага (1793–1795)

Wsem mnohi wiek w nowoy chaty
Pry hoynoy neba zapłaty
Zywite bez wsakoi tuhy
Y iak Pany takoz y słuhy
Pry nowoy hodynie.

Pałac hoyny w nym prychozo
Poubirano wsiudy hozo
Hde poydesz napasesz oczy
Hledeubys az do ciemney noczy
Poczawszy od swita

W seni wchożu pohladaiu
Hde Panom czołom bity maiu
Y wchozu w tyie pokoie
Hde z hostmi Panowie dwoie
A z nymi druzyna.

Poprysachby szczo iak w raiu
Oka swoho ne strymaiu
Hlanuwszy na wse storony
Ne naydesz tolko korony
Wseho podostatku

Bohmiaż zytło tam hospodne
Pry wsakoy doli swobodne
Niet tuhi i lichoy chwili
Bo dobro z sczastem prybyli
Do seho pałacu

Всем многі век в новой хаті
Пры гойной неба заплаті.
Жывіте без всякої тугі,
І як паны, тако ж і слугі.
Пры новой годіне.

Палац гойны, в нім прыгожо,
Поубірано всюды гожо.
Где пойдеш, напасеш очы,
Гледеу бысь аж до цемнэй ночы.
Почавшы од світа.

В сені вхожу, поглядаю,
Где паном чолом біті маю.
І вхожу в тые покое,
Где з гостьмі панове двое,
А з німі дружына.

Попрысяг бы, шчо як в раю!
Ока свого не стрымаю,
Глянувшы на все стороны,
Не найдеш только короны,
Всего подостатку.

Бог мя ж, жытло там господне,
Пры всякой долі свободне.
Нет тугі і ліхой хвілі,
Бо добро з шчастем прыбылі
До сего палацу.

Pan uwazny welikoie
Sławy s paneiu oboie
Kazimer y Teofila
Mnohi wiek dobra im chwila
Hospod blogoslowit

Plemia onych syn jedyny
Adam ymia s polowiny
Wieku zasczyt ac[k]tu spory
Sczo iak doydet wieku pory
Nadeia to sprawit

Chto z wyliczyt wsyie cnoty
Y mnohyie statku kwoty
Chto z ich moze tolko znaty
Ne prestanie weliczaty
Za wsych ruku daiu

Ja sam pierwszy wnuk wasz mały
Budu w swoim słowie stały
Powiek Waszy ne zabudu
Łaski pokul zyty budu
I pieczołowania

I ia z bratom nachylaiu
Swu hołowu y spiewaiu
Babce y diedu z druzynoiu
Pry zdorowiu y pokoiu
Wsym mnohie leta

Brat z siostroiu adno zdanie
Was sławity ne prestane
Bez rozłuki iak czytaiut
Nasze imiona spominaiut
Joachim y Anna

Zaczynayte z leta nowy
W nowoy chate wse zdorowy
Swych worohow pominite
W krasnoy doli wse zywite
Wnuk z wnuczkoiu zyczy.

Пан уважны, велікое
Славы с панею обое –
Казімер і Тэофіля.
Многі век, добра ім хвіля,
Господ благославіт.

Племя оных, сын едіны,
Адам імя с половіны,
Веку зашчыт [акту] споры
Шчо як дойдет веку поры
Надея то справіт.

Хто ж вылічыт всіе цноты
І многіе статку квоты?
Хто ж іх можэ только знаті,
Не прэстане велічаті.
За всіх руку даю.

Я сам первшы внук ваш малы,
Буду в своім слове сталы.
Повек Вашы не забуду
Ласкі, покуль жыті буду,
І печ[а]лованя.

І я з братом нахіляю
Сву голову і спеваю
Бабцы й деду з дружыною
Пры здоровью і покою
Всім многіе лета.

Брат з сёстрою, адно здане,
Вас славіті не прэстане.
Без розлукі, як чытают,
Нашэ імёна спомінают –
Йоахім і Анна.

Зачынайте ж лета новы
В новой хате все здоровы,
Свых ворогов помініте,
В красной долі все жывіте.
Внук з внучкою зычы.

## 23. Запіс рэчыцкага гродскага суда, 1746 г.

(У. Анічэнка. Некаторыя пытанні развіцця беларускай мовы ў XVIII стагоддзі // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. 1961, № 4. с. 128-129)

Прыклад запісу ва ўрадавай кнізе па-беларуску (кірыліцаю).

На враде его мілості Короля гродского повяту Речыцкого передо мною Антоном Казімером на Хлевне Хлевінскім войскім і подстаростям судавым повяту Речыцкого од его сіятелства князя Албрехта Радівіла старостя судового повету Речыцкого уставленным, ставшы очевісто его мость пан Слугановскі, екстракт коробацянного прывілею на рузные грунта в старостве Пропойскім будучые собе іх мость паном Міколаю, Міхаілу, Станіславу, Андрею, Захару, Героніму Случанскям служачы і належачы, до акт кніг гродскіх повяту Речыцкого подал, которое так в себе імет:

[далей актыкацыя старога дакумента]

## 24. Прамова Літвіна з п’есы Георгія Каніскага, 1746 г.

(Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. / укл. А.Ф. Коршунаў; пад рэд. І.П. Яроміна, В.В. Барысенкі. Мінск, 1959. с. 376)

У інтэрмедыях рэктара Кіеўскае духоўнае акадэміі Гяоргія Каніскага да драмы “Уваскрасенне мёртвых” (1746 г.) пад імем Літвіна выступае праваслаўны беларускі селянін. У інтэрмедыях кожны персанаж размаўляе на сваёй мове: Русін (украінец) па-ўкраінску, Лях па-польску, а Літвін па-беларуску.



Георгій Каніскі, біскуп Беларускі (Магілёўскі) (1755–1795)

**Літвін**

Слава цебе, Госпадзі, свяціцелю Боже,
Што з ласкі твоей святой паводзітся гоже
Высокім властям, панам і нам, людзям грешным.
Всё харашенко твоім промыслом паспешным!

Хвалю цебе, Господзі, што ті спорядзілі
На хвалу тваю церкав як змаглі нам сілі,
І званіцу новую, і чатыры звоны:
Всі прыдаліся, звонять харашо в разгоны.

Імеім папа себе честнаго старого,
Імеім панамара і дзяка молодого,
Але добрый і ціхій, всіх людей шануець
І церкві светой всёгды дзень і ноч пільнуіць.

Ні гарелкі, ні бражкі пяной, ані мёду,
Нічого хмелного не пьець, апроч воду.
А што салавей у церкві людзем спеваець,
А дзіцей харашенко в школе обучаець.

Дай же, Боже, здарове і шчасте всяму міру,
Штоб неслі цебе в церков ладан на офіру,
Свечы, красное віно, чыстой столко мукі,
Штоб с праскур осталось і папу на шулікі.

## 25. Актыкацыя фундуша на царкву, 1747 г.

(Историко-юридические материалы, извлеченные из актовых книг губерний Витебской и Могилевской. вып. 15. Витебск, 1884. с. 146-147)

Актыкацыя 1747 г. фундушавага запісу епіскапа Беларускага Серафіона Палхоўскага для Шклоўскай Васкрасенскай царквы 1700 г.

Божыею мілостью православный епіскоп Мстіславскій, Оршанскій, Могілевскій, архімандрыт Слуцкій, святого апостолского екзаршеского Константінополского трону метрополіі Кіевской наместнік, сміренный Серафіон Полховскій, всім вобец і каждому з особна, кому о том ведаті будет потреба, теперешнего веку і на потым зостаючым, так духовного, яко і свецкого стану хрыстоіменітым людем, благодать, мір, благословенье от Наівысшаго Архіпастыря Хрыста Спасітеля і Бога нашего, здіж і моего сміренья препославшы, ізвестно творю,

іж славетный его мілость пан Васілій Овсеевіч і прочыі панове брацтво церкві брацкой Воскресенья Господня, Шкловской, прыходілі до катедры Могілевской і покладалі передо мною права, прывілее ясне велможного его мілості пана Адама Міколая, з Гранова, Сінявского, воеводы Белского, старосты Лвовского і Рогомынского, і его мілості антецессоров, которые права, прывілее в тых пунктах і клявзулях завераються, же до волі іх добровольной складають, люб законніков, люб свецкіх, реліі грецкой православных позволілі трымать свяшченніков в церкві своей выш реченной, ажебы в ней шчоденное набоженство, шчоденная служба божыя отправовалася, для болшаго помноженя і розшыреня хвалы божой, просілі абым позволіл пры церкві брацкой Воскресенья Господня Шкловской монастыр новофундоваті, за старанем, горлівостю, коштом і накладом славетного его мілості пана Васілія Овсеевіча, ктітора новофундованой обітелі і ея церкві святой, і законніков, под владзою і послушаньем епіскопіі моей Белоруской оным меті.

Претож я, пастырь, стосуючыся до выразное волі і фундушов ясне велможного его мілості пана воеводы Белского, моего мосцівого пана, і его мілості антецессоров, а відячы іх быть прозбу слушную, поблагословілем оным монастырь фундоваті і законніков іскусных і мудрых в слове і в веры чынных жытіем іноков меті; ізвеснейшого раді пішемых уверенья, сіе мое архіерейское благословенье, пры звыклой печаті епіскопіі Белорусской, подпісом рукі моее ствержаю.

Пісан пры церкві Преображенья Господня первопрестольной Могілевской, дня двадцать шестого Апрыля, року от Воплошченья Господня тысяча семісотного.

Вышей менованый епіскоп рукою власною.

## 26. З Жыровіцкага зборніка, першая палова 18-га ст.

(Бібліятэка Акадэміі навук Беларусі, рукапіс Фр446, с. 57, 346-348, 405, 89-96)

З казання на Ўспенне Прачыстае:

КАЗАНЕ НА УСПЕНІЕ ПРЕСВЯТОЙ БОГОРОДІЦЫ

“Востані, господі, во покой твой, ты і кіот святыня твоея”: псалом 131.

Духом пророцкім наполненый а кролевскім маестатом увелбеный спевал негдысь царствуюшчый пророк Давід в песні своей 131: “Востані, господі, во покой твой, встань (...)*”, которою не шчо іншого хотел выразіті і оповесті, тылко трыумфальное Хрыстово до неба отшествіе і наславнейшее Пресвятой Девы с телом увелбеным до неба взятіе албо пренесеніе, которое церковь матка наша днесь дорочна обходіт, целебрует і празнует, яко тот день, которого з велікім веселем Пречыстая Панна і годіны пременення своего з жывота дочасного на вечный, і пренесеня з земլі до палацов небесных духом святым предувідела і познала, абы ставшыся на землі маткою царя небесного юж теж з нім вечне в небе могла зоставаті і кролеваті, в которей собе найвышшый мешкане уподобал, як псалом 45 спевает: “Освятіл ест селеніе свое вышшній, Бог посреде его і не подвіжытся”. Выразіл то народов кроль Давід: z Reg 6: гды скрыню прымеря з велікою помпою і трыумфом з дому (...)*, відячы дом его ублагославеный, в дом свой проваділ, і іграл, і скакал, вдячным будучы, так велікого клейнот і скарб неошацованого, за которым благославенство Божого на людех Ізраілскіх зоставал.

Прысмотрыся тут, хрыстіанін православный, як сын правдівый Давідов кроль жыдовскій спасітель наш Хрыстос Господь святую оную скрыню деву Богородіцу, в которой чловеченства нашого манна опочывала, з дому (...)*, але сына еі прыобшченнаго Іоанна евангелісты, который невыповедімых потех з еі потешеня і обецності зажывал, а она з его послушенства опекунства і услугі мела, ныне переносіт і провадіт; якого на тот час не еден Іоан, сын еі укоханый і опекун, але всі апостолове, духом святым от конец землі зобраны і прынесеныі, веселя і утехі зажывалі. (...)

* адно слова не расчытана

*   *   *

**Вершы на рождество Хрыстово**

Во дны Ірода цара Іудейского,
Во царство кесара рымского,
Народілся царь вечной славы,
Во Віфлеоме дому Давідове,
О котором здавна пророкі пророковалі,
І прыход его людем на землю поведалі.
Там пастыре былі часу того,
Стережучы сторожу ношчную стада своего.
Аггел же к ным тогда мовіл:
“Не бойтеся, не бойтеся”, – смеле к нім промовіл, –
“Ідете спешно во Віфлеом ко Хрысту,
Поклонетеся его пресвятому Рождеству”.
Іде же поклонішася со радостью велію,
І наставлены быша ко неізреченому веселію,
Того і ваш мості зычу і желаю.

* * *

Гды юж было месяца девятаго,
Як носіла во чреве зачатаго,
В той час Іосіф прышол во Віфлеом,
Абы был попісан на кождый дом.
Іосіфь ведлуг того [л]істу,
Ішол на попіс к Віфлеому месту,
З обрученою ему,
І не знайшол спокойного дому,
Для людского множества,
Гды юж прышол час рождества,
І там уроділа Емануіла,
Во убогіе пелены его повіла,
Абым того могл пана гойне выхваляті,
І звычайным способом вас всех поздоровляті,
Того рождшагося Хрыста прославляю,
А рождеством Хрыстовым всех вас поздоровляю.

* * *

Я студент малый,
як квет недозрелый,
у школе недавно
2 літы явно
почал ся учыті,

шчоб ся не помыліті.
Мало ешче умею,
перед вамы, добродею,
который ся явіл,
абы з намі пожыл,
Хрыста прославляю.

* * *

## НАУКА ЯК ПЧЕЛЫ КУПОВАТІ

Ідь возом а прыіхавшы заберы на воз, а не беры за полы, беры зверху, нахіліся на землю, озмі трома персты земле і мовь так: "Святая земле, не тебе то я беру, едно сверху і сведры з пчеламі і з іх частымі роямі і з густым медом і з жолтым воском, божыю помошч'ю і всемі святымі небеснымі сіламі і действом святого Зосіма". А еслі уже повезеш і мовь так: "Як сей воз стучыть і грыміть, так бы моі пчелы стучылі і гремелі і зовжды веселы былі". Озмі ж тоей ж земле і мовь: "Господі, стань мне на помошч со всемі святымі небеснымі сіламі і с пресвятою Богородіцею і преснодевою Марыею, як тая земля по всему свету богата і весела не сама от себе но от Отца і Сына і Святого Духа, амень".

І посія тую землю под улем, поставлявшы пчелы, пойді ж на поле, где найпервее узрыш камень, нахіліся і озмі его зубамі і снесі его в пасеку і вкопай его посеред пасекі, шчоб есі знал где, і мов так: "Як той камень не может сам през себе, так бы моі пчелы не моглі пойті до іншой пасекі от мене раба божыя Іоана, Божыю помошч'ю і всемі святымі небеснымі сіламі і действіем святого Зосіма". А по трех днех выймі той камень і вмаж в челюсті. Пойді ж достань олівы святой і міра і обнесі трыжды коло пасекі і внесі в пасеку і мовь так: "Як мір хрыстіянскі не может обыйтіся без святой олівы і без міра, так бы не моглі пчелы обойтіся без моей пасекі і без мене раба Божыя Іоана, Божыю помошч'ю і всемі святымі небеснымі сіламі і действіем святого Зосіма".

Достань черепаху і спалі на уголь, а еслі будеш паліті, палі ж ей так: накладі огонь велікій і скінь ей на огонь і ізыжді от того месца жебы ей гласу не чул есі, а еслі спаліш на уголь, то ізотры на муку і просей на сіто, і заховай. А гляді шчоб есі посаділ оробіну в пасеце. А колі узрыш на жыте цвет уперше, і мовь так: "Як тое жыто наполняется от влагі земныя, і от росы земныя Божыею помошч'ю, як тот цвет отпадаеть во время свое доброволне од колоса своего пры своей ніве, пры своем корене, так бы моі пчелы доброволне (...) пчелы на тые зеленые поля сілным і лютым зверем, волчым горлом, поіде теж на той свет ясный і украшеный, на всякій цвет, на белый і

на багровый і на всякіе цветы, Божыею помошч'ю і всемі святымі небеснымі сіламі ізбранымі Божымі, і зберете ману от росы небесныя і от влагі земнія по всему свету а на каждом цвету, на котром вам Бог росказал браті, на добрых полях і на дубровах, на лесах і на лугах.

Ідете ж до святой рекі, соколімі крыламі, лютым звером, медвежою сілою і Божыею помошч'ю, где сам Сын Божый крестілся, от Іоана во Іорданстей реце, і где белые лебеде плаваюць, берете ж на своі ногі жолтый воск а вовчым горлом солодкій і густый мед, пійте а ідете до улев і до моего обходу, і до мене раба Божыя Іоана, крешченаго Божыею помошч'ю і предстателством святого Алексея человека Божыя, і всемі святымі, і ты святая кануніце, в сосоте, і в меду по колена ходіла, а я у вашем меду по локте вс[е]гда, ныне і пресно і во векі веком, амень.

Молітва 2

Як на громы і на бліскавіцу не может человек смотреті, а як грыміть і древожеть, так бы чужая пчела на моі пчелы не могла находіті, а не вдарыті на мою пчелу і на мой обход, і на мене іменованаго і крешченаго раба Божыя Іоана.

І як гром страшен і нехто не можеть стерпеті сіле его, так жебы моі пчелы булы страшны і грозны чужым пчелам, і чужому человеку, от мене іменованаго і крешченаго раба Божыя Іоана.

Як на шыпшыне не можеть птіца гнезда ізвіті і детей плодіті і весті, так бы на мою пчелу не могла чужая пчела находіті і на моі обходы і на мене іменованаго і крешченаго Іоана.

Поберы ж тую вовьну которою вучка позатыканы булы, і затешы кол осіновый, а не тешы зысподу, тешы зверху і пробій деру где над водою тымь колом і вложы тую вовьну, і прыстромі, опять, і мовь так: "Як на тую овчыну не можеть очый подвесті упір і пірыца ведьма і чародейкы говорыті не могуть, так бы не могл нехто злых помыслов меті на мою пчелу, і не потерает моей пчелы і мого обходу і мене раба Божыя Іоана, Божыею помошч'ю і святым Алексеем человеком Божыім і всемі святымі небеснымі сіламі і действом святаго Зосіма".

І нехай облетае дный два албо і тры дны.

(...)

* * *

## 27. З Жыровіцкага ўпамінніка, першая палова 18-га ст.

(Віленская бібліятэка Урублеўскіх, фонд F19, зборнік №91)

Упамліннік з Жыровіцкага манастыра. На 1-ым лісце запіс: “Сей помінник церкві Жыровіцкой 1763 апрыля 21 подпісаны”. На 4-ым лісце запіс: “Сія кніга з закрыстіі церкві Жыровіцкой ч.(ыну) с.(вятого) В.(асілія) В.(елікого) 1763 anno подпісана”.

[на лісце 17r]:

**Род і фамілія змерлых особ**
**дому пресветлаго велможных**
**іх мілості панов Солтанов,**
фундаторов і ктіторов церкві і монастыра Жыровіцкаго,
выпісана з справ і документов і до того помінніка
подана в року 1718.

Іосіф метрополіта жыл около року 1511.
Александер подскарбі надворны Вел.(ікого) К.(нязства) Л.(ітовского). Першы фундатор за которого цуд се показал в Жыровіцах лета Хрыстова 1549.
Іван Александровіч, Іван, Ярослав, Давід, Александер, Івановічы жылі лета Хрыстова 1588.
Данііл Давідовіч, лета Хрыстова 1620 зрекся з коляторства.
Которых всіх ктіторов нашых да поменет Господь Бог во царствіі своем небесном. Амін.

[на лісце 17v]:

**Род і фамілія пресветлого дому**
**велможных іх мілості панов Мелешков,**
**впісана в помміннік року 1717.**

З которого дому найпершым был ктітором закону нашего в Жыровіцах ясне велможный его мілость пан Іоан Мелешко каштелян Смоленскі, і он з часті своей половіцы Жыровіц фундацыю Солтановскую потверділ і в року 1613 за старшенства блаженаго свяшченно-мученіка Іосафата законніков впроваділ, отдалівшы презбітеров свецкіх, которые по той час в посесыі своей тое месце, Солтановской негды фундацыі, државчымі былі. Прето хотячы мы абы его памятка, яко святобліваго пана і фундатора і горліваго едності святого



промотора, і кревных его, нігды в том монастыры не уставала, яко нас в той ей мілость пані Богуміла Мелешковна Андреевая Преславская цорка его мілості особлівым фундушом своім обліговала, і той же фундуш отца своего потверділа і всіх своіх сродніков і повіноватых жывых і змерлых молітвам нашым залецівшы, до помінка церковнаго імена іх впісаті казала. Теды в той церковный упоміннык род іх мілості і фамілію на вечную память впісуючы, і зачынаючы от самаго святоблівой памяті фундатора жыровіцкаго выражаем іх імена тымі словы.

**Род і фамілія того дому пресветлого**

Помяні Господі раба своего Іоанна фундатора жыровіцкаго
Помяні Господі рабу свою Анну жену его.
Помяні Господі рабу свою Богдану.
Помяні Господі раба своего Андрея, Матфея, і Анну.
Помяні Господі раба своего Георгія, і прочыіх зде лежашчых, і на всяком месті спочываючых, буді ім вечная память.

[з ліста 19r ідзе памінанне розных родаў]:

Род Кароля Ходкевіча і гетмана Велікого Князства Літовского, воеводы Віленского. (...) Род князя Любецкого (...) Род панов Тышкевічов (...) Род панов Буховецкіх (...) Род пана Трызны (...) Род панов Загоровскіх (...) Род пана Воловіча старосты Кунявского (...) Род князя Александра Полубінскаго (...) Род княгіні Ліходіевской (...) Род князя Жеславского, князя Александра Глязіны (...) Род пані Агафы Сапежанкі добродейкі нашей Пацовны подкоморой Бреской (...) Род пана Яхімовіча (...) Род з Кобрыня Войніловічов (...) Род з Кобрыня Верешчагін (...) Род пана Есмана пісара земского Слонімского (...) Род панов Угліков (...) Род Завішы воеводы Вітепскаго (...) Род пана Сенкевіча (...) Род Яромовічов з Меленчына з под Берестя (...) Род з Мышы Таросовіча (...) Род Сакевічов с края ставу (...) Род Міхалов з Рожаноі (...) Род Трохіма Черніковіча з Белска (...) Род з Мінска Халезы (...) Род Юражыч Хоміча з Кобрыня (...) Род Міхалов з Рожаноі (...) Род Сімеона войта Жыр.(овіцкого) (...) Род Керножыцкіх з воеводства Новагороцкаго (...).

## 28. Песня “*Маеш в собе прычыны много*”, сярэдзіна 18-га ст.

(Курніцкая бібліятэка Польскае акадэміі навук, рукапіс №1280, л. 116v–117r)

Узор гарадской барочнай песні 18-га стагоддзя. Песня запісана ў рукапісе побач з вершам Я. Храптовіча, які датуецца прыблізна 1745 г.

Choroszoho humu,
odwahi, rozumu
Te twoie obroty dodaiut
Jak ne wzliczati
ohoty ludiom uwazaty

Ey maiesz w sobie
pryczyny mnoho
Odnoho teszysz
a smutisz druhoho
I smerti nabawisz

Wspaniałoie miny
wsio s teie pryczyny
Szczo te weliczaiut
Zadney wzaiemnosti
ne daiesz lubosti
Szczo tebe kochaiut

Ey maiesz w sobie...

Berut serce oczy
ne daiut spat w noczy
Ach iakaia muka
Ty taho ne znaiesz
ieszcze prosmiewaiesz
Takaia wsia sztuka

Ey maiesz sobie pryczyny...

Хорошого гуму,
одвагі, розуму,
те твое обороты додают,
Як не взлічаті,
охоты людём уважаті.

*[прыпеў]*
Эй, маеш в собе
прычыны много,
Одного тешыш,
а смутіш другого,
І смерті набавіш.

Вспанялое міны,
всё с тэе прычыны,
шчо те велічают.
Жаднэй взаемності
не даеш любості,
шчо тебе кохают,

*[прыпеў]*
Эй, маеш в собе...

Берут сэрцэ очы,
не дают спать в ночы,
ах якая мука...
Ты таго не знаеш,
ешчэ просмеваеш,
такая вся штука.

*[прыпеў]*
Эй, маеш собе прычыны...

Bud że sława tobie
chocia s tuha w żalobie
chocia z ze niewdiaczna
Szczo ty dosyc krasna
dla mene neszczasna
na tuhu ne baczysz

Ey maiesz sobie...

Budz że zdorowaia
hodina dobraia
Nechaj tobe budet
Chot niewdiaczna słuhom
odnak z milym druhom
Ne u douhi wiek budesz

Ey maiesz sobie pryczyny...

Будь жэ слава тобе,
хоця ж туга в жалобе,
хоця ж жэ невдячна.
Шчо ты досыць красна,
для мене нешчасна,
на тугу не бачыш.

*[прыпеў]*
Эй, маеш собе...

Будзь жэ здоровая,
годіна добрая
нехай тобе будет.
Хоть невдячна слугом,
однак з мілым другом
не у доугі век будеш.

*[прыпеў]*
Эй, маеш собе прычыны...

## 29. З варажбітнай кнігі “*Загадкі царя Давыда*”

(Белорусский сборник. вып. 5. Заговоры, апокрифы и духовные стихи. / собр. Е.Р. Романов. Витебск, 1891. с. 213-233)

Варажбітныя кнігі такога роду былі вядомы пад назвамі “*оракулов*” і “*соломонов*”: на круг з акрэсленымі сектарамі кідалі пшанічнае зерне і паводле лічбы сектара, на якое яно трапіла, глядзелі ў кнізе адгадку. Падаем асобныя артыкулы з кнігі.

12. Обачыл цар фараон побігшых жыдов з Егіпту і побег во слід іх, прышол к морю; а жыды перейшлі через моря, упал цар фараон в море і затонув со всім войском своім, так і ты человече не почынай дела сего делаті, што мысліш і загадуеш, недобро ест.

16. Неякая жена волфа окаяная, дела ее темная, в себе мает д’явола, а д’явол ее водіт на желізном ланцузе, по одной стороне огонь а по другой бездна велікая, которая тебе зло мысліт, ты не творы зла, сего нет помочы в нем, недобро ест.

20. Росказал Господ Бог Мойсею пророку ізвесті жыдов з землі обітованной, і невдячны жыды былі ласкі божой, жебы ім добре і роскошне жыті, ізвел іх Мойсей із добра, так і ты человече не горді ласкою божжою і кайся грехов своіх, часто споведайся, до прычасті ході, то будеш тое меті, на што есі задумал і загадал, а еслі не будеш от всей пілності старатіся, то того меті не будеш, чого жадаеш, недобро ест.

23. В нікотором царстві седіт цар на золотом креслі, піючы віно веселітся з велможамі своімі, так і ты человече рад і весел будеш о помыслу своем, на што есі задумал і загадал, добро ест.

25. Святый апостол Варфоломей мовіт: “Хто хочет верен быті Господу Богу, тот розышчет чого жадает от Господа Бога, а еслі хто неверно Господу Богу молітся, то гневом божым навежен будет”. Так і ты, человече, моліся Богу, абы не был навежен от человек, або лютых звірей пакост прымеш, человече не творы орудія сего, недобро ест.

28. Явілася звізда на востоцы трем царем, а оні мелі знаменье такое по звіздах, колі явітся таковая звізда тогды Хрыстос цар небесный народілся. Слышавшы тые тры цары і пошлі поклонітіся ему і даті дары, ліван, злато і смірну, яко царю і Богу безсмертному. І росказал Господ Бог аггелу своему, абы шлі іншою дорогою в свою сторону і возрадовалісяцары відівше царя Хрыста небеснаго, так і ты человече возрадуешся о своей мыслі, добро ест.

31. Воскрес Хрыстос із мертвых, і воскресів с собою Адама і Евву і сотворыл всіх царей і царыц, князей і княгінь, і всіх людей, і возрадоваліся Адам і Евва, што позбылі пекло, так і ты человече естес тепер у веліком фрасунку і утрапенню от злых людей, і так до радості велікой прыдеш, і будеш радоваті ся з жоною і з деткамі своімі на многія лета, добро ест.

33. Человече, злую мысль маеш на бліжняго своего друга, і ты ж не чыні зла бліжнему своему, не отдавай зла за зло, жебы тебе Бог не скарал, лепей тебе хлеба і солі не жаловаті, ніжелі зло мысліті, перестань человече, бо недобро ест.

39. Святый Нестор молітвамі святаго Дімітрыя поразі велікаго борца Лія, з высокаго змаху зрутів і скрушыв его, і царя посрамів, і скочыв цар для встыду з места, і всі велможы его розбегліся розно, так і твоі человече ворогі разбегутся розно, а с тобою Господ Бог, добро ест.

41. Якоже затягнут рыбы в потоцы на жолтом пяску, і почнут рыбы крычаті голосом велікім, мовячы: “Господі, выдал есі нас на покарм орлем, звірем і птаству”, і услышал Господ Бог іх крык, і росказал тучы пустіті дожд, і наполніті водою, і пошлі рыбы в море, рады былі рыбы волі божой, так і ты человече естес в прыпадку веліком, але не за долгій час прыдеш до радості велікой, добро ест.

44. Человече, недалеко ворог твой жывет от тебе, стережыся его, бо тебе зло хочет учыніті, бо у вочы с тобою добре говорыт, а за очы ліхо мысліт, воруйся человече, бо барзо недобро ест.

45. Святый апостол Петр заперся Хрыста трыжды покі кур запев, і вспомянув словеса Хрыстова заплакал Петр горко, а Господ Бог услышал молітву і слез Петровых, отпустіл ему согрешенья его і возрадовался святый Петр Господню отпушченью грехов, так і ты человече покайся грехов своіх с плачем пред Господем Богом і учыні покуту грехов своіх і прымет тебе Господ Бог, і будеш завше весел і в радості жыті со всім домом своім, добро ест.

49. Стоіт град каменный, а в нем дверы железныя, і верыгі мідяныя, і твердо замкнутыя, і дорогі до ніх немаш, ані жаднаго прыходу, человече, той мыслі на што есі тепер замысліл і загадал дай покой, не добро ест.

53. Мовіла пресвятая Богородіца человеку: колі печаль або фрасунок на тебе якій будет, то учыні оброк к пресвятой Богородіцы, тры залцы, і прынесі на офіру до церкві ладун, свечу і проскуру, человече, ізбавіт тя Господ Бог от всякаго фрасунку і печалі і до радості велікой прыведет, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

54. Стоіт одно дерево посеред поля, велмі зелено і красно, всякім пташком на отпочынок, где колвек летавшы, то мают там отпочываті тыі пташкі, так і ты человече ходівшы по розных сторонах і містах, там і сям лучаеш мыслямі своімі, еднак маеш на одном статі, на своей ойчызні, Господ Бог тебе на помошч, а Міхаіл архангел на радость, добро ест.

58. Лежыт змія под каменем, ховаючы голову свою ліхую, человече, так і на тебе важыт ліхая змія ведма, хочет тебе з'есті, заволей не наступуй на нее, бо жыв не будеш, недобро ест.

61. Святый Нікіта мовіт: "Человече, не прысегай на крывді своей у креста Хрыстова віноват будучы, не потворяй жены і детей своіх", человече не творы орудія сего, злый час маеш, недобро ест.

66. Неякій человек хітрый, добраго роду, і богобоязный быв хрыстіянін, і запрадан в него быв татарын на тры лета, і мінула ему тры лета, спытал в него хрыстіянін: "Докуль тебе в мене быті?", оказал ся теж татарын: "Не маю по собі парукі даті", і мовіл ему хрыстіянін: "Дам тебе на паруку святому Ніколаю, тот тебе на паруку озміт, і мне грошы за тебе отдаст". І отпустіл его от себе на роботу, а колі скарб грошей тот татарын собрал, і не хотел отдать тому хрыстіяніну, тогды святый Ніколай вложыв поганому в сердце его страх, і прынес святому Ніколаю грошы, а святый Ніколай отдав тому хрыстіяніну грошы, і рад быв хрыстіянін тым грошем, так і ты человече рад і весел будеш, і одышчеш долг свой, добро ест.

68. Человек неякій богач збудовав себе дом коштовный і собрав велікую маетность, с чужых слез, і прогневіл на себе Господа Бога і не воспомянув ласкі его святой бозской, і мовіл Господ Бог: "Всякое собранье несправедлівое прахом оборочается", і ты человече дай покой загодце сей, бо недобра ест.

70. Человек неякій богач быв, велмі роскошне себе пів і ев з другамі своімі, завше весел быв і накладал на себе шаты коштовныя і Бога забыв, так же і его Бог забыв, і послав Господ Бог аггелов взяті душу его, і воверзті во огонь неугасімый, так же і ты человече не забывай Господа Бога своего, і моліся Господу Богу, а сей мыслі не чыні, недобро ест.

73. Стоіт дерево на распуті, а под него збіраются звіры выют і землю когтемі своімі дерут, так і тебе человече недоброе окрыет, смуток, печаль і рыданье, дай покой загодце сей, бо барзо недобрая ест.

74. Птах жоров велікій і высокій, ногі і шыю мает долгою, высоко летает і далеко відіт, так же і ум твой человече высоко ходіт, і очы твоі много відят, але не может на том статі, на чом хочеш, только

ты Господу Богу верно моліся, то тебе Господ Бог даст чого от Господа Бога жадаеш і просіш, добро ест.

75. Послав Господ Бог ангела Гаврыіла в Назарет к деве Марыі благовестіті зачатіе от Духа Святаго, і прышел к Марыі глаголя: “Радуйся обрадованная, Господ с тобою”, она тое слышавшы завстыділся, і нізко голову схіліла, і мовіл до нее Гаврыіл: “Дух Святый найде на тя і сіла Вышняго осініт тя”, і мовіла к нему Марыя: “Колі есі от Бога прышол, нехай будет по глаголу твоему, і рожду безплотнаго”, і то пало на доброе насенье на землю, і рада была Марыя благословенью ангелскому; так і ты человече рад і весел будеш ведлуг мыслі своей, добро ест.

76. Пошол Ісус Хрыстос іграті з дітмі жыдовскімі на гору Ягодішчу, і ставшы пред німі взял пяску, і поробів пташкі, і сплеснув рукамі Ісус Хрыстос, і полетілі пташкі, і побегшы деті жыдовскія поведілі отцем своім, і рад быв Ісус Хрыстос своему делу, так і ты человече рад і весел будеш, мыслі своей, на што есі себе задумал і загадал, добро ест.

77. Святый Іосіф прывел Ісуса Хрыста до школы пісма учытіся, і отдав в рукі учытелю, і тот учытель пісмо вказуючы Хрысту, вдарыв Хрыста по голове, Хрыстос же отказав учытелю: “Для чого ты мене б’еш, а сам того не ведаеш часу, же не будеш жыв”, і зараз пад на землю і умер, так і ты человече не почынай того замышляті і загодоваті, не добро ест.

79. Прывел Іосіф Ісуса Хрыста к майстру учыті ся сукон красіті, і росказал майстер Ісусу Хрысту украсіті сукна по розных цвітах, а сам на час малый отышол з дому, Ісус Хрыстос вклал во одну кладь фарбу чорную, і прышол майстер став тужыті, і розгневался на Ісуса Хрыста, а Хрыстос ставшы над кладью, мовіл до майстра: “Якого цвіту хочеш меті?”, майстер мовіл до Ісуса Хрыста: “Дай мне розных цвітов”, Ісус Хрыстос вымал с той кладі і фарбы чорной на всі розныя цвіты, рад быв майстер божжому делу, так і ты человече рад і весел будеш, на што есі себе замысліл і загадал, добро ест.

80. Обачыл Ісус Хрыстос што жыдове на него ліхімі словамі клевешчут і ледашто говорят на Ісуса Хрыста, Ісус Хрыстос мовіт до жыдов: “Для чого вы на мене клевешчете?”, і так ледво доворожывся і своего дошол, і зараз тей жыд здох, так і ты человече не дойдеш того чого себе жадаеш, дай покой, недобро ест.

83. Святый Савва пустелнік мовіт: “Человече што ты мысліш, сам не чыні, і другому не кажы, бо с того клевета і сварка велікая бывает”, человече не почынай дела того, недобро ест.

84. Святый Лука евангеліст мовіт: “Человече, не лукавнуй мыслямі своімі і умом своім, озмі себе мысль добрую, то добре і тебе будет, только ты уховай на Бога”, а чого себе жадаеш, то тебе Господ Бог даст, добро ест.

86. Явілася фалш на светі, человече, што думаеш злыі учынкі, і злыя мыслі твоі, бесу а не Богу угодныі, чыніш неправду, ведлуг мыслі і волі своей, недобро ест.

87. Што мысліш человече в сердцы своем, а што ты замысліл, просі ж Господа Бога шчырым сердцем і мыслію і держыся того, чого жадаеш, даст тебе Господ Бог всего добраго, добро ест.

89. Человече, як камень млыновый легко его на шыі человеку носіті, также ест і твоі мыслі легко знесті, заволей, покінь мысліті і загодоваті, недобро ест.

90. Человече, мысль твоя за морем, а смерть за плечыма, ходіт за тобою, не мысль человече на тое, што есі задумал і загадал себе, бо недобро ест.

92. Человече, мысліш пойті в дорогу далекую, але лепей пожыві ешче тут з намі на одном месті, то тебе лепей будет, добра загадка твоя ест.

94. Человече, маеш потаемного ворога, стережыся его, бо хочет тебе убіті, не чыні ему зла, заволей, вдайся до Господа Бога, і збавіт тебе от всякаго зла, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

96. Што згубіл есі человече, то і найдеш, только уповай на Господа Бога, і моліся ему, то і збавіт тя от смутку і до радості велікой прыведет тебе, добро ест.

97. Человече, ласка божая і мілость велікая на тебе прышла, только моліся Господу Богу своему часто, а чого просіш, то з ласкі божой меті будеш, на што есі себе задумал і загадал, добро ест.

98. Человече, чому Господа Бога своего не боісся, і обетніцы своей не сполніш, што обецав оброк учыніті, і за тое розгневался на тебе Господ Бог велмі і ты человече отдай обецность свою Господу Богу, то будеш тое меті, што мысліш, а еслі не отдасі обетніцы своей Господу Богу, то зараз умреш, недобро ест.

99. Зараз тое, человече, меті будеш, што мысліш, только разумно почынай, а нікому не зверайся, то будеш тое меті, што мысліш і о чом себе загадуеш, добро ест.

103. Не почынай человече ледачого мысліті, штобы тебе горшаго клопоту не было, остав тую мысль на уме не держы себе, бо злый час маеш, заволей покінь тепер, не добро ест.

106. Святое Евангеліе сведчыт, остав мыслі свої злыя і учынкі, а покайся грехов своіх, то будеш ізбавлен. Человече тую мысль можеш початі іншаго часу, а тепер дай покой, недобро ест.

108. Летіт голуб с чужой землі с покарму ко дікім голубом в свою сторону і землю, так же человече і твоя мысль ідет скоро, на велікую радость, человече што найрыхлей мысль справуй, добро есть.

110. Человече, прыходіт к тебе злая фортуна, покінь тыя злыя мыслі свої, штобы тебе не споткало шчо горшое, злый час маеш, недобро ест.

111. О чом ся печаліш і чого жадаеш, того ніколі меті не будеш, а што мысліш, то себе горшаго достанеш, недобро есть.

112. Человече, мысль твоя ліхая а не пожытечная, а на што мысліш і стараесся, так лепей перестань того делаті, то лепей позышчеш бо недобро ест.

115. Человече не може так тое статі як мысліш, бо злых людей на перешкоде маеш, і нічого тепер не справіш, заволей, дай покой, барзо недобро ест.

116. Мовіл Господ Бог человеку: “Человече, фрасуесся і тужыш барзо о жытіі своем”. Человече і ты помоліся Господу Богу верно, ізбавіт тя Господ от печалі і до радості велікой прыведет, добро ест.

118. Человече, злый час маеш умом своім, для того нічого добраго не справіш, і не держы того на мыслі, бо не можеш того себе меті, не добро ест.

122. Человече, шчасте себе доброе маеш, а непрыятелей своіх переможеш, а чого жадаеш то меті будеш, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

124. Человече, робіш і працуеш до поту і правдою на светі жывеш і шчыростью ідеш, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

126. Святый Ніколай, теплый заступнік, і скорый помошчнік, і велікій оборонца, ізбавіл трех мужей от напрасной смерті, так і ты человече ізбавлен будеш от печалі і от смутку і до радості велікой тебе прыведет, добро ест.

128. Человече, мысль твоя велікая а непожытечная, заволей, перестань мысліть тое і загадовать, то лепей зышчеш, недобро ест.

132. Человече, ты шчыростью с кождым обходісся, а ворозі твоі хітростью с тобою жывут, ото правда, іх хітрость, хлеб і соль вся от тебе, а с тобою Господ Бог, добра загадка твоя ест.

133. Человече, што мысліш і чого жадаеш, то сам відіш, же в рукі твоі ідет, і жаданье твое наполнітся, і будеш добр і здоров со всім домом своім, на многія лета, добро ест.

134. Рече святый евангеліст Матфей человеку: “Человече, кідаеш свой ум туды і сюды, і многімі мыслямі ворочаеш, а не ведаеш ні дня ні ночы, бо день часу а час дня ждет”, і достігнет тебе невідімая смерть, человече, што есі задумал і загадал того часу, недобро ест.

137. Человече, Господу Богу не леніся, і в леності не ході, грехов своіх часто споведайся і Хрыстовы тайны прымуй, а ты человече Господа Бога не боісся і в леності ходіш, грехов своіх до свяшченніка не прыносіш, і Хрыстовых тайн не прымуеш і гнев божый на себе носіш, оброку жаднаго не справіш, человече, незадолго сподевайся прыпадку от Господа Бога на себе, бо барзо недобрая загадка твоя ест.

139. Человече, што мысліш, то шчырым сердцем роб і працуй, в славу божыю, то тое будеш меті, чого жадаеш от Господа Бога, добро ест.

141. Фома апостол неверный вложыв палец свой у Хрыстов бок і прободе, і тогды уверыв, так і в твоіх мыслех неверность якая ест, еслі не будеш верыті Господу Богу верно, як Фома, то будеш тое меті, чого жадаеш от Господа Бога, добро ест.

144. Окаянныя бабы завше ворожут, і люді в іх ворожкі веруют, і ешче оны волово вылевают, а ніколі в себе правды не мают, і всегда лгут, і людей до своіх ворожак прыводят, так і ты человече от людей злых велікую перешкоду маеш, лепей тепер покінь, недобро ест.

145. Весна прыходіт, людіе радуются, цвіт зацвітает, пташкі спевают, земля траву выпускает, і рад быв скот землі і траві, так і ты человече рад і весел будеш, на што есі себе замысліл і загадал, добро ест.

146. Осень прыходіт, і так мовіт: “Беда моя не старость, богатства многа маю”, так і ты человече упор маеш, а своего добра нікому не даеш, і так барзо недобро ест.

147. Лето мовіт: “Я навару піва, нап’юся, і веселюся, покі прыде старость моя, і тогды прыму невпокой”, а тепер ты человече веселіся і радуйся в молодых летах своіх, добро ест.

148. Зіма прыходіт, смутно прыносіт, і велікую тяготу человеку подымает, не мысль человече сего, ані загадуй, бо барзо недобро ест.

149. Трубный гук на войні і радный час до споткання потребует, і додает сілы конем і смелость военным людем, так і ты человече ідеш на войну бітіся, а непрыятеля своего звытягнуті, а на што есі себе замысліл і загадал, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

151. Человече, што есі замысліл, то тебе Господ Бог даст с корыстю і з радостью велікою, толко Господу Богу молібся шчырым сердцем, то даст тебе Господ Бог, вже несет божая ласка, і будеш с того тешытіся, але злыя люді ест в тебе на перешкоде, а с тобою Господ Бог, добро ест.

155. Кого пытаеш і чого прягнеш себе, того меті ніколі не будеш, бо злых людей на перешкоде маеш, і так человече не помышляй дела того делаті, о чом думаеш і загадуеш, недобро ест.

156. По обедвах сторонах велікія рекі і поля ест, і там в полях велікіх огонь горыт, а над огнем котел кіпіт, повен ведмав і чаровніц лютых, около того котла стоят лютыя зверы стерегут огня і того пекла, человече дай покой загадце той, недобро ест.

157. Прыде аггел Господен к человеку, мовячы ему: “Встань, Господа Бога просі”. Человече, ці ведаеш ты же тебе хочут злыя люді зло учыніті, але ешче Бог тебе не выдает за твою правду, же ты Бога боісся і Бога не забываеш і нікому зла не чыніш, ешче человече стой на правді, і заступіт тебе Господ Бог от злых людей, і святый архангел Міхаіл тебе на помочы станет, добро ест.

159. Святый евангеліст Матфей мовіт: “Человече, што творыш суседу, тое і творы, толко в правді мешкай”, а злого не мей ні на кого, еслі он тебе мысліт добро, то і ему добро, а еслі зло, то і ему зло, толко молібся Господу Богу верно, то даст тебе Господ Бог всего добраго, добро ест.

160. Человече, не збірай себе тысячу скарбов, але збірай одного вернаго друга, который тебе будет стоять за тысячу скарбов, друг верный нетленныя скарбы, а друга невернаго стережыся як пса людей ядучаго, да і тебе лестью своею ізгубіт, бо барзо недобро ест.

164. Одному человеку прыдалася ніва велмі добра, на кождый рок збожжа роділа ему многа, он мовіт сам себе: “Побудую себе велікія гумны, бо маю добра многа, не маю где ховаті его, разберу гумны мої і болшыі созіжду і мовлю душы своей “маеш добра многа, еж, пі і веселі ся, душа моя, на могія лета”.

А Господ Бог зараз к нему рек: "Человече безумны, ты радуесся і веселісся, на многія жытія своя, а того не ведаеш: в сю ношч душу твою выму с тела твоего". Так і ты, человече, не дуфай на богатство свое, а не злуй на людей, лепей покінь сію мысль мысліті і загадаваті, недобро ест.

166. Было веселле в Кані Галілейском, і там і Господ Бог наш Ісус Хрыстос зван быв на веселля со Пречыстою Богородіцею і апосталамі, і не стала віна, того часу росказал Господ Бог апостолом, воды наносіті, і сосуды наполніті, і перевернул Господ Бог воду во віно, і рады булі всі апостолы і люді на веселлю будучыя напітку вінному, так і ты человече рад і весел будеш, во вся дні жывота твоего, і наполнітся всякаго добра многа дом твой с корыстю і з радостью, і будеш здоров з жоною і з деткамі і со всею сем'ею, а в том Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

167. Человече, еслі будеш смірен, тогды своею покорою прыдеш к тому чого жадаеш от Господа Бога, то все будеш меті, а еслі не будеш покорыті то нічого не справіш і не будеш тое меті, на што думаеш і загадуеш, і так, человече, будеш покорным і тіхім, протів кождаго, а до того помоліся Господу Богу, абы тебе помагал і бороніл в кождой потребе твоей, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

168. Як сініцы не быть журовом, так тебе человече навежаючы карчмы часто не быть господаром, бо около людей п'еш, а своего не ставіш, і затым нічого добраго не маеш, і так человече недобрая загадка твоя, бо немаш шчастя, недобро ест.

169. Тры святітелі Васілій Велікій, Грыгорый Богослов, Іоан Златоустый, служылі Господу Богу мілостівому шчыре, так же і ты человече послужы Господу Богу, і людем добрым, шчыре і справедліве, то будеш паном, і здоров, со всею сем'ею і з домом своім на многія лета, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

170. Святый Гегоргій ізбавів царевну от лютаго смока, і копьем пробів его на смерть, так і ты человече маеш на себе велікаго ворага, который тебе хочет зло вчыніті, але ты Господу Богу і святому Гегоргію учыні оброк к нему, то ізбавіт тя Господ Бог от злога человека і будеш здоров со всім домом своім, Господ Бог тебе на помошч, а святый Гегоргій на велікую радость, добро ест.

171. Святый Грыгорый Богослов мовіт человеку: "Человече, не тужы і не фрасуйся велмі, бо відіш іж небесный цар ваш пітает іх", так же і тебе, человече, Господ Бог мілостівый напітает і поздоровіт ласкою своею святою і добрым здоров'ем, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

173. Мовіт Господ Бог в Евангеліі: “Наследніче бісерю перед светкамі, бо оні святітеля распялі, і пры смерті не превозносітся”, і сам такій ты человече, маеш пыху велікую, але превозносісся, і так до пекла зыдеш, недобро ест.

174. Святый апостол Павел, колі быв взят до камедіі небесной, то ест до треттяго неба, і відів там невымовную радость, которую уготовал Господ Бог любяшчым его, так і ты, человече, чыні волю божыю, ведлуг заповедей его ході, а на што задумал есі, чыні с радостью велікою, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

175. Святая царыца Елена з сыном своім царем Константінем была в Ерусаліме, і царствовалі над хрыстіяны, і росказала жыдом святая царыца, абы жыдове знашлі крест честный на горы Голгофе: “Ідіте на гору Голгофу і там крест честный знайдіте”, который жыды, едінаго жыда выдалі, іменем Кірыяка, мовячы, іж он мел знайті крест честный Господен на горы Голгофе, который жыд дяк знашовшы і тры гвозды пры кресте честном Хрыстовом знашлі, которыі тыя тры гвозды едінаго прыбівалі, і рада была царыца Елена кресту Господню і гвоздям, так і ты человече помоліся кресту Господню, што бы тебе ізбавіл Господ Бог от тугі і печалі, і до радості велікой прыведет тебе, Господ Бог тебе на помошч, добро ест.

176. Окаянный Іюда продав Хрыста за трыдесят сребреніков, взял в жыдов грошей, потом раскаявся што недобре учынів, покінув же сребренікі жыдом, потом пошол до пустыні і удавіся, Хрыстос же все дерево уклонів на землю, а Юда обвесівся на осіне, а Хрыстос тое дерево заклял: “Богдай ты, осіна, тряслася в дні і в ношчы без ветру завсегды”. Так і тебе человече прыведет твоя мысль к недоброму, не мыслі сего, ані гадай умом своім на што думаеш, бо того ніколі меті не будеш, бо барзо недобро ест.

* * *

## 30. Калядная песнь “*В неделю рано нім зора засвітіла*”

(Описание рукописнаго отделения Виленской публичной библиотеки. вып. 5. Вильна, 1906. с. 105-106)

Калядная песнь з зборніка Глыбоцкага кляштара кармелітаў.



Глыбоцкі кляштар кармелітаў (фота 1878 г.)

В неделю рано, нім зора засвітіла,
Дева Марыя нам Бога повіла.
*[прыпеў]*
Ну же, ну же, ну же людіе,
Пречыстую Матухну велічайте
Іозоп здалека на то поглядает,
Прыступівшыся нізкій поклон дает.
*[прыпеў]*
Красная Дева Сына обмывает,
В шорсткіе плаціны крепко увіяет.
*[прыпеў]*
Радостным глосэм обое спевают,
Рожденство Хрыста устамі велічают.
*[прыпеў]*
Дітя малое, наш велікій Боже!
Чом’ так убого? Чом’ лежыш негоже?
*[прыпеў]*
Як квіток у полі ветром уломаный,
Под шчырым небом і буры посланый
*[прыпеў]*

Однак, Дітятко, ты небом владаеш,
Землею яко яблычком кідаеш.
*[прыпеў]*
Бык з ослом немый – то твої дворяне.
Чы уже ж тобе на іных не стане?
*[прыпеў]*
То ж твое кресло, маестат высокій,
Жолоб з соломы на пядь не шырокій.
*[прыпеў]*
Отец наш небесный, чым тобе голдует?
Твоя моц землі царом росказует.
*[прыпеў]*
Анелы сей глос только што учулі,
Хутенько з неба на землю рынулі.
*[прыпеў]*
Гетман велікій Міхайло небесный,
З нім Благовестнік, ангел вельмі чесный.
*[прыпеў]*
Іде до стайні Міхайло з княжаты,
А Благовестнік з другімі паняты.
*[прыпеў]*
Вельмі нізенько Хрысту поклекают,
Матухну ёго з Іозопом вітают.
*[прыпеў]*
Тай загрымело солодке пеянье,
Як улетку пташкі пеють на світанье.
*[прыпеў]*
О Пречыстая, дай правно веселе,
А з Сыном Твоім прыйм нас нерозделе.
*[прыпеў]*

## 31. Запіс аб пасвячэнні святара, 1751 г.

(Рукописное отделение Виленской публичной библиотеки. / сост. П. Гильтебрандт. Вып. 1. Вильна, 1871. с. 13)

Запіс на старонках Валкавіцкай Евангеліі:

Року 1751 месеца мая 10 дня посвяшчен есмь в Струню от преосвяшченнаго архіепіскопа метрополіты всея Россіі Флорыана Гребніцкого, Архіепіскопа Полоцкого, за панованья короля его мілості Августа І, за ктітора его мілості пана Казімера Корсака, суды гродского Новогродского. Отец Іоанн Савіч, презвітер церкві Волковіцкой, імея в том часе лет 30.

## 32. З Барунскіх інтэрмедый, 1752 г.

(А.Ф. Брыль. Барунскія святочныя маналогі // Роднае слова. 2020, №3. с. 13;
Віленская бібліятэка Урублеўскіх, фонд F17, рукапіс №210, л. 60v)

Святочныя інтэрмедыі базылянскага манаха ў Барунах Нікадыма Грыневіча.

### Стрэлец

Chopaju mołczac
howoryc niesmiej[u]
Szto ja za czołowiek
y sto ja umieju
W sławnom mesci
Szmorgoniach
kolis to uczyłsia
A szto umieł u tom
nigdy niepomyliłsia

Bili tam mienie czasto
połozyłszy na stolec
Ot z mienie mudry
uczyniłsia strelec
Zaraz kupiłem sobie
zelizni pistolety
I dwa staroswiecki
nabyłem muszkety

Niemal na sazen
była rusznica
Kowanaja z spizu
odna hakownica
Także dostałsia
mnie karabiniszcze
Atoho uciekajuczy
zhubił cyhaniszcze

Ale najlepiej ja
tohdy strelaju
At koli trochi
sobie podhulaju
Jak wypiu piwa
choc odnu szklanicu
Zaraz u ruku

Хопаю молчаць,
говорыць не смею,
Што я за чоловек
і што я умею.
В славном месці
Шморгонях
колісь то учылся,
А што умел, у том
нігды не помылілся.

Білі там мене часто,
положылшы на столец,
От з мене мудры
учынілся стрэлец.
Зараз купілэм собе
жэлізні пістолеты
І два старосвецкі
набылэм мушкеты.

Немаль на сажэнь
была рушніца,
Кованая з спіжу
одна гаковніца.
Такжэ достался
мне карабінішчэ,
А того уцекаючы
згубіл цыганішчэ.

Але найлепей я
тогды стрэляю,
Ат колі трохі
собе подгуляю,
Як выпью піва
хоць одну шкляніцу,
Зараз у руку

chapaju rucznicu

Koli horelkoju
zmoczytsia czupryna
Tohdysia mocno
dzierzu karabina
Skoro mienie ludzi
prosiac na banket
Wnet ja na pleczy
wkładaju muszket

Ale pry swiatach
ot tuju ptaszynu
Kuli i gloty
hdziekolwiek pokinu
Nie budu bolej
z oruzia strelac
Wolu po ludziach
wołoczebnoho prohac

Dajcie sztokolwiek
mnie ciepier u ruky
Budu wam rubac
ja drowa na sztuky

хапаю ручніцу.

Колі горэлкою
змочытся чупрына,
Тогды ся моцно
дзержу карабіна.
Скоро мене людзі
просяць на банкет,
Внэт я на плечы
вкладаю мушкет.

Але пры святах
от тую пташыну,
Кулі і глёты
гдзе-кольвек покіну.
Не буду болей
з оруж'я стрэляць,
Волю по людзях
волочэбного прохаць.

Дайце што-кольвек
мне цепер у рукі –
Буду вам рубаць
я дрова на штукі.

**Кухта кухенный**

Na ławkach ludzie
trocha posiedzicie
Słuchaycie borzo
a nie howoricie
Morda moja
howorici budzie
Szto moi majstry
sut dobry ludzie

Panas z Polesia
z tym zmojdzinom Frankom
Futrujuc mienie
wieczorom i rankom
Skoro zaswieczu rano
do dnia łuczynu

На лавках людзе
троха поседзіце,
Слухайце борзо
а не говорыце.
Морда моя
говорыці будзе,
Што мої майстры
суть добры людзе.

Панас з Полеся
з тым жмойдзіном Франком
Футруюць мене
вечором і ранком.
Скоро засвечу рано
до дня лучыну,

Jon bierec mienie za łob
a toj za czuprynu

Jak pojdu koli
w cepłuju chatu
Kladuc na mienie
pomieło i łopatu
A nadaduc
zakrylisia trochy
Biuc tołkuc
horczki y warochi

Ktos tam na ziemlu
wylew z cebra kwas
Ot wshodziwsia
na mienie Panas
Kinuł na mienie
wałkom y praczom
I chcieł zarubac
ostrym siekaczom

Ot ja na piecz
trocho sia schopił
I tam mienie
mało nie zabił
Chcieł sia na folwarku
skojci do komory
Ale zniał z mienie
lapci y obory.
Taki zawzięty
jak udarył po kurkach
Aż sia opali
w kuchni na prymurkach.

Dajcie z mnie
za kazku kolady
iakujukolwiek recz
Pobiehnu do piekarni
da borzej za piecz.

Ён берэць мене за лоб,
а той за чупрыну.

Як пойду колі
в цеплую хату,
Кладуць на мене
помело і лопату.
А нададуць –
закрыліся трохі,
Б'юць, толкуць
горчкі і варохі.

Ктось там на землю
вылев з цебра квас –
От всходзівся
на мене Панас.
Кінул на мене
валком і прачом,
І хцел зарубаць
острым секачом.

От я на печ
трохо ся схопіл –
І там мене
мало не забіл.
Хцел ся на фольварку
[скойці] до коморы
Але знял з мене
лапці і оборы.
Такі завзенты,
як ударыл по курках,
Аж ся опалі
в кухні на прымурках.

Дайце ж мне за казку коляды
якую-кольвек рэч,
Побегну до пекарні
да борзей за печ.

## 33. Інтэрмедыя “Селянін у споведзі”, 1755 г.

(Перетц В.Н. К истории польского и русского народного театра. // Известия отделения русского языка и словесности. т. 10, кн. 1. 1905. с. 59-61)

Інтэрмедыя складзена Мануілам Базілевічам, які чытаў курс паэтыкі ў Смаленскай семінарыі. Інтэрмедыі Базілевіча ставіліся ў гэтай семінарыі ў 1752–1755 гг.

Змітрок:

Челом, пане Свірыдзе!

Свірыд:

Здаров, кажу, Змітруче!

Змітрок:

Як цебе ета ліха даспелася?

Свірыд:

Охці мне, Змітруче, усе то от детак! Ой, дзеці, як з батькавага кашелька, дзеткі: ну, ну, ну, бацька. Заглянь жа бацька у дзіцячы кашелькі, і не саромяся кажуць: не, не, не, бацька. Усе к себе мазаным горнуць: дай яшчо, дай яшчо – і облупівшы, а нам на старасці і на ногаць не облупіць; каб іх кат лупів! Толька кажуць: “Ідзі, бацька, ку спаведзі, ты ні разу в церкві не быв”, – да і упіхнулі бацьку, як дурня, в церкву, “кажы дзе, бацька, тоя, што поп будзіць казаць”. Вот поп кажыть: “Ці быв ты хуть раз ву споведзі?” – І я папу: “Ці быв ты хуть раз ву споведзі?” – “Што ты, знать, нехряшчонік?” – І я папу кажу: “Знаць, ты нехряшчонік”. Поп кажыть: “хрясціся”, – і я папу кажу: “хрясціся!” Вот за тое поп на мене і маністы наложыв, а я іх отроду не насів! А цяпер мне іх чорт нагадзів.

Змітрок:

Ох, Свірыдухна, маю цябе веры, што там гаворыць і дзетак браніць: тяпер стала не по-старому, стала все по-пісмянному, чынашы насталі, все с хітрашчамі да з мудрашчамі, все стала навыварат; учуць, голубя, не учяць, голаву турбують, языком не вверніш; ішча як нашему брату галавы не высушыць? У мяне то дзіця, Свірыдухна, к усячыне смысліць, усі каляды, масляніцу і радуніцу, товстую субоду – усе на памяць, а кавярзень спляцет, як душы не влепіт; а другі – сабака, весь у матку удався: людзі да зары

блінов наядуца, а яна спіць патуль, пакуль сонца бок прыпічець, – тагды ужа якога хварыша прыскварыць, паскудніца, кагды б прапала; а цяпер мой сынок унегався, сапачыць лягло. Однаго толька ліха, недамысліть, што па беламу чорна есць. Хвала Богу берясцень мязгі, хуць то людзіом узычю, а яго такі вывучу.

Свірыд:

Што нашы бацькі і предкі жывалі, хлеб раблялі, землю пахалі, а етай успаведзі павек яны не знавалі, а такі ж благадарны бывалі.

Змітрок:

Так, Свірыдухна, так, так, голубятак, – яны маліваліся по-прастацкому, а не по-пісмянному, без чанашов, што падняв, то знашов, як устав, так і зачав! "Слава цябе, Господзі, сушчую, часнейшую, ізбранны ваявода, радуйся нявеста, усі чыны манашескія, святая трапеза, іскрясенья побядзітелю, Міхайлы пророка і Міколы мученіка, трех Свяціцелей, Кузму і Дзяміда, заступі на царства мяне, Змітрака, і надружніцу, Пеклу Несцеравну, і кала і двара, і скацінкі і шарсцінкі, алалуй нас да канца века. Амінь. І шарпні, Господзі, па душы і па целу, па жонкі і па дзеткам, святое сягодні, святое і завтре".

Свірыд:

Ах, Змітруче, не патрапіш: аж мароз па касцям, аж да сліоз праймаіт бацьков нашых богамолья!

Змітрок:

Ну, Свірыдухна, заставайсе здаров, слабані цебя Господзі: як ты папався, дак і выдзірайсе.

Свірыд:

Ах, Змітруче, калі Бог тваю галовку назад заверніт, наведайсе мяне!

* * *

## 34. З зборніка “*Краткое сословіе наукі хрыстіянскія*”, 1759 г.

(Краткое сословіе науки христіанскія. Кафолическому человеку много полезное и зело потребное. В Лавре Супраслской, 1759)

Катэхізіс уніяцкае царквы 1759 года станавіў сабой дужа перароблены катэхізіс 1722 года (гл. “Собраніе прыпадков...”). У мове зборніка з’явілася больш царкоўнаславянізмаў і паланізмаў, а тэкст засяродзіўся на тлумачэнні прынцыповых тэалагічных пытанняў (грэх, пакута, адпушчэнне грахоў, тлумачэнне малітвы “Ойча наш”).

Падаем асобныя ўрыўкі з кнігі.




Берасцейская зборная царква св. Мікалая на вокладцы кнігі 1759 г.

### Краткое сословіе науки христіанскія. Кафолическому человеку много полезное и зело потребное.

#### НАУКА Хрыстіанская.

Вопрос: Чы естесь ты Хрыстіанін.

Ответ: Естем з ласкі Божой, а не з жадных заслуг моіх, іліотца моего ілі матере моея.

В: Что ест Хрыстіанін.

О: Хрыстіанін ест учень Хрыстов, который прынявшы Крешченіе, верыт і вызнавает тое все, что верыті росказует Церков святая.

В: Что за пожыток ест быті Хрыстіаніном.

О: Хрыстіанін стается Сыном Божыім і наследніком Царствія Небеснаго, а той который не ест Хрыстіанін, ест неволніком шатанскім, і наследніком Пекла.




Філіп Валадковіч, каад'ютар мітрапаліта (1753–1762)
мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі (1762–1778)

В: От кого нарыцаешыся Хрыстіаніном.

О: Нарыцаюся Хрыстіаніном от Господа нашего Ісуса Хрыста.

В: Для чого жегнаемся правою рукою, а не левою.

О: Бо правая рука ест старшая і досконалшая над левою.

В: Когда треба жегнатіся.

О: Маемо жегнатіся встаючы, спаті ідучы, пред обедом, і по обеде, пред вечерею, і по вечеры, ідучы до Церквы, входячы в Церков, выходячы з Церквы, на початку, і на концы кождой працы, і во всякой потребе, а найбарзей когда до ума прыходят якіе мыслі злые.

В: Опроч Хрыстіан суть лі иніе якіе людіе на свете.

О: Суть, неверныі яко то Жыдове, которыі веруют в Бога правдіваго, но не вызнают святой Троіцы і Воплошченія Сына Божыя, Господа нашего Ісуса Хрыста, которого, як на сем свете жыл, іх научал, і науку свою рожнымі чудамі, хорых уздоровляючы, мертвых ожывляючы, слепым, навет от рожденія, взрок прывврашчаюшчы, утверждал; не хотячы за правдіваго Мессію узнаваті, тыранско катовалі, і на Кресте распялі. Суть

Правдівую покуту чыніті значыт: до Бога знову навернутіся, от которого чрез грехі отвернулісмося; своімі грехамі брыдітіся, правдіве жаловаті, іх споведатіся, і за ніх досыт чыніті.
До сакраменту покуты ест пять речый потребных; сія сут:
1. Рахунок сумленя.
2. Жаль і скруха за грехі.
3. Статечное предсявзятіе.
4. Іповедь.
5. Задосыт учыненіе.

О рахунку сумленя.
Рахунок сумленя есть прыпомненіе собе, шчо от остатной іповеді, ілі от того часа, когда грехі познаваті зачалісмо, согрешылося.
Пры рахунку сумленя треба насамперед духа святаго прызваті, абы он осветіл, і дал познаті, шчо і якім способом согрешылісмо. Потом уважаті в повшехності:
Чы мыслямі, і пожадлівостямі, словамі, ілі самімі учынкамі согрешылісмо; треба также прыпомінаті себе родство і лічбу грехов смертелных, так теж і околічності, которыі помножают ілі отменяют грехі.
В шчегулності уважаті:
1. Ежелі протівко десятем заповедем божыім, ілі протівко пятем заповедем церковнім не учынілося чого.
2. Чылі едного, ілі многіх своіх, ілі чужых грехов прычыною не сталісмося.
3. Ежелі учынков мілосердніх взглядом бліжніх, ілі ініх дел, до которых чыненія обовязаніі есмі, не опустілісмо.
4. Ежелі повінності своего стану выполнялісмо.
Пры розважанію злых мыслей треба уважаті чы не імелісмо доброволного в ніх уподобанія: пры розважанію пожадлівостей треба уважаті, ежелі на ніх не зозволілісмо, хоц бы учынок не наступіл.
Пры рахунку сумленя, лічбу смертелных грехов прыпомінаті латво можна, ежелі уважымо: чылі тыі грехі кождого дня, кождого тыждня, кождого месяца, пополняліся, і як часто едного дня і едного месяца.

О жалю і скрусе.
Жаль і скруха есть обрыдлівость грехов яко найболшаго зла і внутрная болезнь з образы божой, з статечным постановленіем Бога болше не ображаті. Жаль і скруха повінна буті: 1. внутрна, 2. наднатуралная, 3. над все, 4. повшехная.
Жаль есть внутрный, ежелі не толко в устах, но і в сердцу будет, то есть: ежелі грешнік не самімі токмо словамі жаль выражает, но і внутрне сердцем боліт.
Жаль наднатуралный есть, ежелі грешнік чрез ласку духа святаго, і з наднатуралных околічностей до жалю взбуджается.

Жаль натуралный есть: егда грешнік з натуралных прычын за грехі жалует, і німі брыдітся: напрыклад, ежелі запевне знает, же нешчаслівым станется, ілі до шкоды прыйдет.

О статечном постановленію.
Статечное постановленіе есть шчырая воля свое жытіе поправіті, а болше не согрешаті.
Кто шчырую волю мает поправітіся, повінен предсявзяті:
1. Всех грехов, такожде блізкіх околічностей, і небезпеченств греховных стеречыся.
2. Всем склоностем до грехов спротівлятіся, а всех до отрыманія ласкы потребных средствій держатіся.
3. Бліжняго добро вернуті, згоршеніе которое грехом учынів, і шкоду, которую бліжнему на его славе, на его маетках, ілі іншым якім способом учыненую, надгородіті.
4. Всем непрыятелям, і тым которыі нас образілі, з сердца дароваті.
5. Все повінності своего стану верне выполняті.

О сакраменте малженства.
(...)
Малженство в повшехності для умноженія рода человеческаго есть потребное, еднакже не для каждаго человека в шчегулності, понеже волный стан для поедінчых особ есть досконалшый.
Сакрамент малженства прыносіт, опроч помноженія посвяшчаюшчой ласкы, ешче і тое шчегулне:
1. Же малжонкове побожне аж до смерті з собою жыют.
2. Же своі деті в боязні Божой воспітуют.
Церковь вымагает от особ которыі в стан малженскій вступуют:
1. Жебы между німі жадной перешкоды не было.
2. Дабы на той конец до того стану вступовалі, который установленію его прыстоіт.
3. Дабы з боязнію Божою і чыстым сумленьом до того сакраменту прыступалі: і для того, абы першеісповедаліся і прычашчаліся.
Тыі, которыі до стану малженского забіраются, повінны собе по вышлых трох заповедех в прытомності двох сведков перед своім власным парохом верность малженскую, решчы слюб, обешчаті, і благословеніе отрыматі.
Повінності малжонков взглядом себе самых суть:
1. Абы спокойне по-хрыстіанску з собою жылі.
2. Дабы муж свою жену яко свое власное тело любыл, жывіл, і бороніл. А жена мужеві в справедлівых вешчех послушною дабы была.
3. Дабы едно другаго в нешчаслівостях і нуждах не опускало, і дабы пребувалі в верності, аж до смерті.

Повінності малжонков взглядом детей своіх суть: дабы іх по-хрыстіанску воспітовалі, о іх вечное і дочесное спасеніе стараліся.

Вторая часть хрыстіанской справедлівості: чыніті добре.
Тое доброе есть, шчо з заповедмі божыімі згажается. З заповедмі божыімі цноты і добрыі дела згажаются.
Многіі суть родства цнот, в которых хрыстіанін цвечытіся повінен: суть божыі і обычайніі цноты.
Божыі цноты суть тыі, которыі Бога за посредствуюшчое побужденіе імеют. Вера, надежда, і любовь, тыі суть тры божественніі цноты.
Человек повінен под грехом смертелным в тых же трох божественных цнотах цвечытіся: 1. Як тылко до досконалості розуму прыйдет, 2. Часто в своем жытіі, 3. Под час велікой покусы протівку тым цнотам, 4. В небезпеченстве жытія, і в смертелной хоробе.
Акт веры наступуюшчым способом взбудітіся может:
Верую, Господі Боже мой, в тебе едінаго в трыех особах Бога; верую, яко вторая особа Троіцы пренайсвятейшой, то есть Сын Божый, будучы Богом стался человеком, то есть, злучыл натуру божую с натурою человеческою; таже верую, же тойже Сын Божый, в будушчем веку будет воздаятелем справедлівым, по делом коегождо, то есть, же добрым і справедліве жывушчым, воздасть царство небесное, а злых будет караті пеклом вечным. Пакі верую сія вся, яже вероваті повелевает святая маті церковь: сіе же все верую для того едіне, же ты Боже неомылная правдо, так мне об'явілесь.

До хрыстіанской справедлівості належат ешче повінності, которыі Іісус Хрыстос особліве прыказал.
Тыі повінності, которыі Іісус особліве прыказал, суть наступуюшчыі:
1. Прежде царствія і правды его шукаті,
2. Себе самаго запертіся.
3. Крест свой носіті.
4. Хрыста наследоваті.
5. Лагодным і побожным быті, непрыятеле любыті, чыніті добре тым, которыі нас ненавідят, за тых молітіся, которыі нас ображают, і поносят нам.

Небо есть найшчаслівшым помешканіем святых, где Бог себе своім верным слугам твар в твар оглядаті дает, і сам іх найболшою надгородою будет.
Тыі все до неба пойдут, которыі в ласце Бога умірают. І тыі которыі за пополненіі грехі в сем ілі в будушчым веце отпокутовалі.

* * *

## 47. Песнь паўстанцаў “*Пойдзем жыва да Касьцюшкі...*”, 1794 г.

(Трафімчык А. “Наш Касцюшка слаўны!”: гістарычная постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры. Мінск, 2017. с. 164-166)

Існавалі варыянты гэтае песні для розных правінцый (вядомы варыянты для казакоў і палякаў). Песня з зваротам да “Беларусаў”, відаць, была створана для жыхароў “Белае Русі” (падняпроўскія землі з Віцебскам, Магілёвам, Гомелем, што апынуліся ў Расеі пасля першага падзелу Рэчы Паспалітае 1772 г.)



Якуб Ясінскі, старшыня паўстання 1794 года ў Літве

Woźmiem kosy dy ianczarki,
Poydziem hordyie hnuć karki.
Niechay Maskal ustupaie,
Niechay Biełarusou znaie.

Užo Mazury ich pabili,
S swaiey ziamli wyhanili,
Poydziem z imi i złuczymsia
Maskwie, niemcam nie damymsia.

Nuže chłopcy! nuže žywa
Ciapier maiem dla nas žniwa.
Haspodź Boh nam u pomoc staieć
Naszu sławu nam wiertaieć.

Nuže žywa wy Sotniki
Wy Małoycy Dziesiatniki
Damo sabie ruki uzaiem
Baćkauszczynu adzyskaiem.

Atamany i Kazaki
Biymo Maskwu i Prusaki
Kali usich ich wytauczemo,
Tahdy u siało pawierniemo.

Pomnim dobra szto rabili
Jak nas dziorli, jak nas bili.

Возьмем косы ды янчаркі,
Пойдзем гордые гнуць каркі.
Нехай Маскаль уступае,
Нехай Беларусоу знае.

Ужо Мазуры іх пабілі,
З сваей зямлі выганілі.
Пойдзем з імі і злучымся,
Маскве, Немцам не дамымся.

Ну жэ, хлопцы! ну жэ жыва:
Цяпер маем для нас жніва.
Гасподзь Бог нам у помоц стаець,
Нашу славу нам вертаець.

Ну жэ, жыва вы, сотнікі,
Вы, малойцы-дзесятнікі:
Дамо сабе рукі узаем,
Бацькаушчыну адзыскаем.

Атаманы і Казакі,
Біймо Маскву і Прусакі.
Калі усіх іх вытаучэмо,
Тагды у сяло павернемо.

Помнім добра, што рабілі,
Як нас дзёрлі, як нас білі.

Dakul budziem tak mauczaci?
Hodzi nam siadzieć u chaci.

Kaniey nam pazaieždžali
Szto chacieli, to i brali
Poydziem żywa da Kaściuszki
Rubać budziem Maskaluszki

Naszto ziamlu nam zabrali?
Naszto u puty zakawali?
Daczki, żonki nam hwałcili,
Tre kab my im zapłacili.

Pahulaiem, pahukaiem,
Kamendantau usich paznaiem.
Maskalou, Niemcou u bałoci
Budziem rezać i kałoci.

Ci użo my usi sabaki?
Haspadarzy – nie Burłaki
Zaszto maiem kryudu znaci?
Zaszto cierpić nasza Maci?

Pradawaymo aucy, woły,
Žyta s świrna dy usie doły,
Niechay Ksiondz nas paswiencaie,
Niechay Boh nam pamahaie!

Bywai zdrowa Hrypina!
Paraska! maia dziauczyna!
Ad was ciapier odyeżdżaiem
Da Kaściuszki usi prystaiem.

Kali nazad pawierniemsia
Tahdy z wami uscisniemsia.
Wolnasc dla nas Pany daiuć
I za ludziey nas pryznaiuć.

Zdrada iość użo u Senacie
A my budziem hnić u chacie?
Woźmiem kosy dy ianczarki,
Paczniem hordyie hnuć karki!

Nuže chłopcy, nuże żywa
Pahulaiem, maiem żniwa.
Pahulaymo! Pahulaymo!
Dy Maskala wraz prahnaymo.

Дакуль будзем так маучацi?
Годзi нам сядзець у хацi.

Каней нам пазаежджалi,
Што хацелi, то i бралi.
Пойдзем жыва да Касьцюшкi,
Рубаць будзем Маскалюшкi.

Нашто зямлю нам забралi,
Нашто у путы закавалi?
Дачкi, жонкi нам гвалцiлi,
Трэ’, каб мы iм заплацiлi.

Пагуляем, пагукаем,
Камэндантау усiх пазнаем.
Маскалёу, Нямцоу у балоцi
Будзем рэзаць i калоцi.

Цi ужо мы усi сабакi?
Гаспадары – не бурлакi.
За што маем крыуду знацi?
За што церпiць наша мацi?

Прадаваймо ауцы, волы,
Жыта з сьвiрна ды усе долы.
Нехай ксёндз нас пасвенцае,
Нехай Бог нам памагае!

Бывай здрова, Грыпiна!
Параска! мая дзяучына!
Ад вас цяпер од’ежджаем,
Да Касьцюшкi усi прыстаем.

Калi назад павернемся,
Тагды з вамi усцiснемся.
Вольнасць для нас паны даюць
I за людзей нас прызнаюць.

Здрада ёсць ужо у сэнаце.
А мы будзем гнiць у хаце?
Возьмем косы ды янчаркi,
Пачнем гордые гнуць каркi!

Ну жэ, хлопцы, ну жэ жыва,
Пагуляем, мае жнiва.
Пагуляймо! Пагуляймо!
Ды Маскаля ураз прагнаймо.

## 48. Чын асвячэння царквы, канец 18-га ст.

(Віленская бібліятэка Урублеўскіх, фонд F19, зборнік №230, л. 1r–3r)

Уніяцкі чын асвячэння царквы, запісаны ў 1800 г. Сам чын складзены ў царкоўнаславянскай мове, а ўступная частка і тлумачэнні ў змяшанай народна-царкоўнай мове.



Феадосі Растоцкі, апошні мітрапаліт Вялікага Княства Літоўскага (1788–1805)

### Чын освяшченія церкве і потребы до того, сія суть

Престол поставлен в олтару на месцу звыклом, не поколебім быті мает.

На табліцы у престола дырок чворогранястых, по одной на рогу кождом не на скрозь, потреба пяті, где мают быті укладаны четыры Евангелісты малеваные углясто, і колодочок чтыры, которымі мают зашпунтоваті з мастікою. Пятая дырка не наскрозь в середіне быть мает, в которую мают мошчы святых, і скрынечку з воску до мошчей положыті, также з мастікою зашпунтоваті.

В церкві самой, Крестов деветь, на розных месцах, в кругах малеваных, а в олтары тры; всіх дванадцать быті мает; по которых Крестах сам Святітель міром печатоваті мает. І пред каждым Крестом ліхтарык і свечка, а так высокій, жебы могл рукою досягнуті. Евангелістов чтыры намалеваные, невелікіе, углястые, кліноватые нехай будут.

Мірры, Кассіі, мастікы і мармуру: Тое все у можджеру стовчы, і з воском горячым роспустіті: І нехай то будет в горшчку чыстом пры огню, абы не застыгло, аж колі того потреба будет.

Престол потреба мыті разов тры. 1. Водою посвяшченою. 2. Віном. 3. Водкою рожаною і шпіканардом. Все тое за часу наготовано быті мает. Воды посвяшченое, віна полкгарца, водкі рожаное кварта, шпіканарду келішков два, мыла барского брусов тры, ручнічков тры для стіраня престола. На престол убер весь новый і чыстый хорошый. 1. Капа з полотна на увесь престол аж до землі, або з іншое якое матерыі ведлуг можності потреба меті. Обрусов честных новых два по капе послаті. На тых обрусах антыміс положен быті мает. Товален по обрусах послаті две. На товалнях хусточка новая, чыстая белая положена быті мает, на которой лежаті мает літон. Всі тые речы порадком Архідіакон мает до убіраня престола святітелю даваті. Святітель сам мает на престол вскладаті всі речы, і мовіті: Во імя Отца і Сына, і святаго Духа.

Полотна коленского штучок тры на саваны Святітелю і пресвітерем і Архідіакону потреба: Которое полотно порезаті мают на чтыры части, на перед і на зад і на рукава: до чого і шнурков белых локтей двадцать потреба. Тое все пред зачатіем літургіі с.(вятой) готово быті мает, і уложоно в олтару на местцу своем.

Пред посвяшченіем в той церкві, мается отправоваті, вечерня, утреня, все Освяшченію, ішчы в Мінеі месяца Септембра дня.

Рано того дня которого посвяшчаті маеш церков, пред зачатіем літургіі по звоненю: Прыходіт Святітель в церков, отправует Молітвы входу обычныя, і благословляет Пресвітерев, посем восходіт на Амбон, і возлагают нань вся святітельская одежда: на одежду воскладает архідіакон саваны на перед і на зад і на рукі. Украшену бывшу святітелю, ісходіт з амбона в олтар, і начынает освяшченіе.

[далей уласна чын асвячэння ў царкоўнаславянскай мове]

# Чинъ ѡсвѧщенїѧ церкве

И потребы до того, сїѧ сутъ

Престо́лъ поставле́нъ въ ѡлтарꙋ на мѣст-
цꙋ звы́клом, не поколеби́м бы́ти мает.
На табли́цы оу престо́ла дырок чворо-
граня́стыхъ, по ѡдно́й на рогꙋ кождом
не на́скрозъ, потре́ба пя́ти, где маютъ бы-
ти оукладаны четыри Еѵа҆гг҃лїсты малева-
ные оугля́сто, і коло́чокъ чтыры, кото-
рими ма́ютъ зашпу́нтова́ти змастикою.
Пятая дырка не наскро́зъ всере́дине бы́ти
ма́етъ, вкото́рую ма́ютъ мо́щи с҃тыхъ, и скри-
нечъкꙋ звоскꙋ до мо́щей положити, та-
же змасти́кою зашпу́нтова́ти в Цр҃кви
само́й, Кресто́въ деветь, на ро́вныхъ мѣстцахъ,
вкругахъ

## Слоўнічак адметнай лексікі 18-га стагоддзя

**аж:** *датуль, пакуль* (аж колі того потреба будет)

**барское мыло**: *туалетнае мыла* (мыла барского брусов тры)

**барылка:** *бочка* (войт казал наліть меду гарцев пять у барылку)

**бачыть (на)**: *мець увагу, заўважаць* (на тугу не бачыш)

**богдай**: *бадай, каб* (богдай ты, осіна, тряслася в дні і в ношчы)

**брак**: *рэшта* (отобралі браку копейкамі)

**буката**: булка (резового хлеба букат пять далі)

**бытность**: 1) *наведванне, пастой* (под час бытності іх у пана Докшевіча); 2) *прысутнасць* (немаш того месца гдебы сіла і бытность его не засягнула)

**важны**: *дзейсны* (важный ест шлюб)

**важытіся**: *намервацца, пастанаўляць* (кто зась важылбыся болш браті; не важса)

**вароваті**: *пастанаўляць, абумоўліваць* (варуем і то, абы жаден з братіі нашой)

**вароватісе**: *асцерагацца* (потребно стеречы очый і іншых смыслов, вароватісе для устереженя сердца)

**векуістый**: *вячысты* (там дом наш векуістый)

**веры годный**: *варты веры, верагодны* (для учыненія чого веры годным)

**взбераті**: *намнажаць, запасаць* (хоть слёз рэкі взберают, огня пак не залевают)

**віна**: *штраф* (по заплаченю він)

**власномыслны**: *выдуманы з уласнай галавы* (на власномыслном, особлівом і необычайном жытія способе)

**встыд**: *сорам* (для встыду)

**втручатіся**: *умешвацца* (в чужую парохію втручатіся)

**вывод**: *звесткі аб рэпутацыі* (а еслі бы о собе выводу не дал)

**выгубляті**: *вынішчаць* (для ухроненіяся грехов треба, зараз іх в своім іх початку, которым есть злая похоть, выгубляті)

**выдать**: *выдаткаваць* (што выдал своімі грошмі, стравуючы коні і челядь)

**выішчываті**: дамагацца (той Подляше і Волынь выішчывал)

**выйсте**: *сканчэнне, сход (тэрміна)* (а по выйстю року)

**выкрочыть (проті)**: *парушыць* (не выкрочыл протіво которому прыказаню)

**вылученіе**: *вылучэнне, вынятак* (без жадного вылученія)

**вымагать (по)**: *патрабаваць ад кагосьці* (чыні шчо наука Ісуса Хрыста по тебе вымагает)

**вымовіть**: *вызначыць, вылучыць* (справы задворныі, которыі себе вымовіл до своего суду епіскоп)

**вымовка**: *падстава для выбачэння* (абы вымовкі не мелі)

**выплывать**: *вынікаць* (з той главной цноты выплывают іншы)

**выпроваженны**: *праведзены (аб працэдуры)* (за выпроваженную інквізыцыю)

**выступный**: *правапарушальнік* (*які выступіў з права)* (также і выступных судіть мают)

**выступок**: *парушэнне* (за выступок грывны две до скрынкі брацкой отложыть)

**вытягать**: *вымагаць* (что сумленіе і заповеды Божыя от нас вытягают)

**вышпісаны**: *вышэй згаданы* (дня выш пісанного)

**вышпоменены**: *вышэй згаданы* (отобралі од панов дозорцов вышпомененых)

**гладітіся**: *скасоўвацца, ануляваться* (колі прысяга гладітся)

**глёт**: *крупінка шроту* (кулі і глёты гдзе-кольвек покіну)

**годный**: *варты, дастойны* (вечнаго жытія годніі суть)

**гоіть**: *лячыць* (злості і наметносты гоіт)

**гойны**: *шчодры, раскошны* (пры гойной неба заплаті; абым того могл пана гойне выхваляті)

**господа**: *кватэра, жытло* (купілі дров у господу пана Пузыревского)

**господою стоять**: *быць на пастоі* (для пана Петровского, который стоіт у дому кравецкім господою)

**готоватіся**: *рыхтавацца* (не может розмысляті о Богу, до которого готуется)

**готовые (грошы)**: *наяўныя грошы* (готовых грошей далі пану Базылію Хомутовскому у дорогу)

**грунтовный**: *асноўны* (опроч той грунтовной наукі)

**даражыцьса**: *патрабаваць дарагую цану* (чы ня будзеця даражыцьса?)

**дбаті (на)**: *клапаціцца, дбаць* (а я бынамней на тое не дбаю)

**дедічны**: *спадкаемца* (дедічнымі вечнаго спасенія стаемся)

**день**: *число (месяца)* (року 1735 месяца мая 11 дня)

**деітіся**: *адбывацца* (навет шчо в нашых сердцах деется)

**дзень на дзень**: *адзін дзень за другім* (мы дзень на дзень грашым)

**дмухаті**: *махаць* (почав фукаті, мечем дмухаті)

**добре зычыті**: *зычыць дабра* (бліжніх любіті, есть добре зычыті бліжнім)

**добрыдень**: *вітанне зранку* (зора засвітала, добрыдень тобе давала)

**довесті**: *давесці, аргументаваць* (зде довесті належыт)

**додаваті**: *узычаць, надаваць* (оружыя до забойства додаваті)

**дозорца**: *інспектар, кантралёр* (отобралі од пана Кгабрыеля Королкевіча, райцы, і колегов его, дозорцов)

**доклад**: *умысел* (з тым докладом в сердцы своем)

**досконалітіся**: *удасканальвацца* (як досконалітіся повінны смо в богочестіі)

**досконалость разума**: *поўналецце, здольнасць адказваць за сябе* (до досконалості разума прыходіт)

**достать**: *атрымаць, набыць* (а што мысліш, то себе горшаго достанеш)

**доступіті**: *дасягнуць, атрымаць* (вечнаго жытья доступіті не может)

**досыть чыніті**: *задавальняць, кампенсаваць* (своімі грехамі брыдітіся, і за ніх досыт чыніті)

**досягнуті**: *дастаць* (так высокій, жебы могл рукою досягнуті)

**дотрымоваті**: *трымаць,ісціць* (обетніц дотрымовалі)

**дотыкать**: *кранацца* (когда нас Господь Бог дотыкает і посешчает якім фрасунком)

**доходіть**: *зысківаць, спаганяць (праз юрыдычную працэдуру)* (на нім він, урядові тамошнему прыпалых, доходіть будемо повінны)

**душный**: душэўны (*небеспеченства душныі і телесныі отдаляет*)

**еднать, поеднать**: *уступіць (у арганізацыю)* (до реестру цехового впісаться і цех поеднать мает; а еслі бы не захотел цеху еднать)

**жало́ба**: *траур* (в жалобу облеченны)

**желязец**: *металічны наканечнік, джала* (стрыламі з острымі желязцамі)

**з сердца**: *шчыра* (як мы з сердца отпускаем)

**з целой душы**: *ад усёй душы* (повінны есмы его любіті над все з целого сердца, з целой душы)

**за ведомостю**: *з ведама* (з росказання пана войта і за ведомостю пана райцы скарбового)

**за доводом**: *пры наяўнасці адпаведных довадаў* (теды таковый каждый, за доводом, на уряд мескій грывен пять заплатіть мает)

**за картою**: *пад распіску* (за росказаннем і за картою пана войта)

**за непрыбытем**: *у выпадку неяўкі* (а за непрыбытем котораго на погреб брата нашего)

**за померкованнем**: *па ўзгадненні з* (за померкованнем пана райцы Габрыеля)

**за часу**: *загадзя* (все тое за часу наготовано быті мает)

**забавлятіся**: *займацца* (побожнымі деламі забавлятіся)

**забіраться (до)**: *важыцца, збірацца* (тыі, которыі до стану малженского забіраются)

**заваляті**: *засціць, быць на перашкодзе* (камень месту заваляет)

**заволеть**: *адпусціць, пакінуць (думкі)* (заволей, дай покой)

**завстыдаті**: *саромецца* (сталі гадаті, где ся ховаті, мусілі завстыдаті)

**загадовать**: *задумваць, намервацца* (покінь сію мысль мысліті і загадаваті)

**загадка, загодка**: *намер, задума* (дай покой загадце той)

**задаване**: *чыненне* (оружыя до забойства албо ран задаваня; без задаваней одін другому перешкоды)

**задавать**: 1) *чыніць, прычыняць* (якую трудность задавать мел);
2) *пакладаць, падаваць* (шчо часу права обшырней будет тебе задавано од поводовой стороны)

**зажывать**: *займацца* (а зась знову бы хотел зажывать ремесла)

**заісте**: *сапраўды* (правдіве, заісте)

**заказоваті**: *забараняць* (в кождой заповеді шчось прыказуется а шчось заказуется)

**заклік**: *абвяшчэнне афіцыйных пастаноў* (клікуну Ерему, за заклік, горелкі далі)

**залежать (на)**: *асноўвацца* (богочестіе залежыт на познанію)

**замыкать**: *улучаць* (что повшехне богочестіе замыкает в себе)

**замыкаться**: *улучацца, складацца* (в молітве господней замыкается)

**запіратіся**: *адмаўляцца* (родітелей убогіх не запіратіся)

**запровадіті**: *прывесці, даставіць* (абы нас грешных до Неба запроваділ)

**застыгнуть**: *астыць, застыць* (нехай то будет в горшчку чыстом пры огню, абы не застыгло)

**засягнуть**: *дастаць, дасягнуць* (немаш того месца гдебы сіла і бытность его не засягнула)

**затінать**: *пачынаць граць на музычным інструменце* (в кобзы затінайте)

**затягнуть**: *здабыць* (новый бы грех затягнул святокрадства)

**заховаться (в)**: *трымацца нейкіх паводзін* (а ежелі бы спокойным быть не хотел, і в молчаню заховатся не мел)

**зашкодіть**: *учыніць шкоду* (і нам зашкоділ)

**зашпунтоваті**: *заштукаваць, замазаць* (которымі мают зашпунтоваті з мастыкою)

**збыт**: *надта, вельмі* (наготуют чашу збыт горкаго трунку)

**збытный**: *збытны, надмерны* (збытное желаніе помсты)

**зважаць**: *мець увагу, пераймацца* (як мне не зважаць)

**зверыться**: *даверыцца* (нікому не зверайся)

**звлока**: *маруджанне, прабаўка* (не пушчаяся в далшую звлоку)

**згоршеніе**: *пагаршэнне* (згоршеніе которое грехом учынів)

**здеіть**: *учыніть, зрабіць* (добро я тібе все здею)

**змазоватіся**: *згладжвацца, нейтралізавацца* (грех учынковый змазуется і отпушчается през Споведь)

**зніматіся (здыймоватіся) в товарыство**: *укладаць таварыскія зносіны* (а еслі бы брат который наш захотел зніматіся в товарыство)

**зносіті**: *трываць* (скромне все зносіті)

**зыскать, позыскать**: *атрымаць, дапяць* (перестань мысліть тое і загадовать, то лепей зышчеш; перестань того делаті, то лепей позышчеш)

**зычыті**: *зычыць, жадаць (камусьці іншаму)* (мы будем зычыті век Тобе длугі; того і ваш мості зычу і желаю);

**карта**: *распіска, вексель* (кто што вінен мне на облікгі, і на церокграфы, і на запіскі кніжные, і на карты розные)

**квет**: *кветка* (як квет недозрелый)

**квота**: 1) *памер, абсяг* (многіе статку квоты); 2) *належная сума выплаты* (на заплаценне квоты ксендзом Кармалітом)

**келішок**: *кілішак* (шпіканарду келішков два)

**кладь**: *пасудзіна, рэзервуар* (вклал во одну кладь фарбу чорную)

**клікун**: *асоба, якая абвяшчае афіцыйныя пастановы* (клікуну Ерему, за заклік, горелкі далі)

**клінаваты**: *клінападобны* (Евангелістов чтыры намалеваные, невелікіе, углястые, кліноватые)

**конечне**: *канечна, неабходна, абавязкова* (повінен конечне ведаті)

**крам, крама**: *крама (лаўка, дзе гандлююць дробнымі рэчамі)* (за розне речы, набраные з краму; крама мурованая у варенде)

**крест**: *крыж* (в церкві самой, Крестов деветь, на розных месцах)

**ладоваті**: *грузіць, ладаваць* (возы ладоваті на ярмарк)

**ледашто, лядашто**: *абы-што* (клевешчут і ледашто говорят); 2) *дрэнь* (з вербы лядашто цэпы)

**лічбу учыніть**: *скласці справаздачу* (лічбы всей братіі цеховой учыніть повінны будем)

**лучать**: *засягаць, трапляць* (там і сям лучаеш мыслямі своімі)

**ляговать**: *адпісваць тэстаментам* (лягую мой дом із грунтом)

**меть на бачності**: *мець на ўвазе* (імел всегда на бачності)

**меть на перешкоде**: *спатыкаць перашкоду ў асобе кагосьці* (злых людей на перешкоде маеш)

**міловаті**: *любіць* (муж мает міловаті і меті в учтівості жону)

**мілость**: *любоў* (шлюбую тобе мілость, веру і учтівость малженскую)

**многі**: *доўгі, вялікі* (всем многі век в новой хаті)

**мовіть**: 1) *гаварыць* (он мовіт сам себе); 2) *прамаўляць* (мов за мною)

**можджер**: *ступа* (тое все у можджеру стовчы)

**можность**: *можнасць, здольнасць, магутнасць* (можность сіл тела і душы)

**мысліть**: *думаць* (што ты мысліш, сам не чыні)

**на вакацыі**: *незаняты, незадзейнічаны* (крама мурованая у варенде, на вакацыі)

**на всякі час**: *у любы час, заўсёды* (тому святы Ніколай на всякі час помагай)

**на імя**: *менавіта* (сыном моім первоі моеі жоны, на імя edіному Уколу і другому Васілію Подлобкам)

**набавіті**: *прынесці, надаць* (за роскошы набавят срогого фрасунку)

**навертатіся (до)**: *вяртацца, паўтараць* (до тых грехов не навертатіся)

**наворочатіся**: *прыймаць веру* (так теж, абы Церков святая розмнажалася, Погане, Жыдове, Еретікі і Схізматыкі наворочаліся)

**надаремно**: *дарэмна* (взываня імені Божого надаремно)

**надгорожать**: 1) *узнагароджваць* (за доброе надгорожает); 2) *кампенсаваць, адплачваць* (почыненніі шкоды надгорожаті)

**надпрырожоный**: *звышпрыродны* (дар Божый надпрырожоный)

**назбыт**: *занадта* (ані назбыт караючы, ані назбыт роспушчаючы)

**належать (до)**: *мець дачыненне да чагосьці* (четвертая заповедь не токмо належыт до детей і родітелей; лепей каб я того глядзеу, што да мяне належыць)

**напасті́**: *нацешыцца* (где пойдеш, напасеш очы)

**напірацься**: *імкнуцца, дамагацца* (да бакіламара напіраяцса)

**направа**: *направа, рамонт* (за направу колясы)

**насамперед**: *перадусім* (пры рахунку сумленя треба насамперед духа святаго прызваті)

**насмеваніе**: *кпіны* (погорденія, насмеванія)

**натыкать**: *нашпігаваць* (натыкай мене стрыламі)

**небачность**: *няўважлівасць* (чрез небачность)

**недбалство**: *няўважлівасць, нядбайнасць* (з своего недбалства)

**незаведеный**: *не абцяжараны ўгодай ацяжэння (“заводам”)* (лягую мой дом із грунтом нікому ні в чым незаведеный)

**неомылны**: *беспамылковы* (ты Боже неомылная правдо)

**несказітелный**, **неказітелный**: *не паддадзены скажэнню* (вечного і неказітелного веку дары)

**нескончоны**: *бясконцы* (бог есть вечная правда і нескончоная мудрость)

**неучтівый**: *непачэсны, нязбожны* (хотяйбы дшчер была з неучтіваго ложа)

**обавлятіся**: *асцерагацца* (не треба ся нам жадноі прыгоды на свете ніже іскушеній шатанскіх обавляті)

**обачыть**: 1) *аглядзець* (обач наш край, обач своі слугі); 2) *убачыць* (обачыл Ісус Хрыстос што жыдове на него ліхімі словамі клевешчут)

**обернутіся**: *ператварыцца* (луна в крові ся обернула)

**ображеный**: *уражаны, уцяты* (не будет ображеный от смерті второй)

**обход**: *дзяльніца* (ідете до улев і до моего обходу)

**оказать**: *з’явіцца, запатрабаваць* (гды якая потреба окажет)

**окрывать**: *надыходзіць, агортваць* (так і тебе человече недоброе окрыет)

**омылны**: *аблудны* (презыраючы омылную і здрадлівую в жытію людзком дочасность сего света)

**оповядаться**: *даваць паведамленне (аб сваёй прысутнасці)* (цехмістру оповядатся мает)

**опроч**: *акрамя* (опроч того)

**опушчаті**: 1) *дараваць* (уразы опушчаті); 2) *пакідаць, адмаўляцца* (тебе не опушчу аж до смерті)

**остатный**: *апошні* (по остатной споведі)

**от всей пілности**: *з усёй пільнасцю* (а еслі не будеш от всей пілності старатіся)

**от памеці одыйсті:** *страціць памяць* (от памеці одшлі)

**отвертать**: *адварочваць, устараняць* (дабы Бог недостаток, голод от нас мілосердне отвертал)

**отворысты**: *адкрыты, расчынены* (дерево едно фіговое от самого сродку аж до верху роздвоеное, яко бы отворыстое)

**отменне**: *інакш, іншым чынам* (егда словесе Божыя албо фалшыве, албо отменне ужываем)

**отменять**: *змяняць, перайначваць* (околічності, которыі помножают ілі отменяют грехі)

**отпушчать**: *дараваць* (він без позволеня нашого отпушчать не мають)

**отуха**: *падтрымка* (абы нам учыніл отуху добрую)

**патрапіть**: *патрапіць (дагадзіць словам)* (ах, Змітруче, не патрапіш)

**перевернуть**: *ператварыць* (перевернул Господ Бог воду во віно)

**перекуповать**: *таргаваць праз перакуплянне* (не повінен і пірогамі і хлебом перекуповать)

**перекупство**: *перакуплянне* (перекупство збожа)

**переставаніе**: *абхаджэнне, паводзіны* (збыт волное переставаніе з особамі іншаго пола)

**перешкоджать (до)**: *перашкаджаць* (до святості іх перешкоджают)

**печалованье**: *клопат, апека* (повек вашы не забуду ласкі ... і печалованя)

**пілнованне**: *адсочванне, кантроль* (за пілнования справ месківх в трыбуналах)

**поборовые (грошы)**: *грошы, што збіраюць у якасці падатку* (отобралі поборовых грошей)

**повага**: *аўтарытэт* (стверждаем і повагою нашею королевскою апробуемы)

**поведаті, поведіті**: *апаведаць, распавесці* (поведілабы, же ест богатая, волная; прыход его людем на землю поведалі)

**поверховный**: *вонкавы, павярхоўны* (нашыі тылко поверховніі дела, а не внутрніі)

**поводовая сторона**: *існец* (обшырней будет тебе задавано од поводовой стороны)

**погоршеніе**: *абраза* (погоршенія і все ненавісті бліжніх)

**под совітою заплатою сумы**: *на грунце поўнай выплаты належнай сумы* (за которую то суму золотых четыреста маю і повінен буду отдать і выставіть юхту добраго ... под совітою заплатою сумы)

**поднесеніе**: *узняцце* (молітва залежыт на поднесеніі духа до Бога)

**поднесті**: *узняць, павысіць* (поднесті цену)

**подпілый**: *выпіўшы* (абы жаден з братіі нашой на схажку подпілый не прыходіл)

**пожаданіе**: *спадзяванне* (которая пожаданіе святых і выбраных божыіх досконале наполныт)

**пожадлівость**: *хаценне, юр* (удержуют нашыі пожадлівості)

**пожытечный**: *карысны* (ест реч барзо пожытечная людем слухаті службы Божыя; мысль твоя ліхая а не пожытечная)

**пожыток**: *карысць* (пожыток который люде з богочестія імеют)

**позбыть**: *пазбавіцца* (возрадоваліся Адам і Евва, што позбылі пекло)

**поздоровляті**: *віншаваць* (звычайным способом вас всех поздоровляті)

**позыскане**: *вяртанне, аднаўленне* (одежда бо новая ест знаком позысканя утрачоной невінності)

**поклекать**: *укленчыць* (вельмі нізенько Хрысту поклекают)

**поменіть**: *зрабіць заўвагу* (а поменіоны од братіі своей, спокойным быть не хотел)

**помешканіе**: *памяшканне, месца жыцця* (небо есть найшчаслівшым помешканіем святых)

**понехать**: *адмаўляцца, пакідаць* (понехай того, что ему протівное)

**поніжаті**: *прыніжаць* (заказуется детем родітелей поніжаті)

**поносный**: *які лаіць або крыўдзіць* (словамі люб деламі поноснымі)

**пооображать**: *папашкодзіць* (много самі себе поображалі)

**поправа**: 1) *выпраўленне* (постановіті шчырую поправу жытія своего); 2) *направа, рамонт* (за поправу замка до стайні)

**порахунок**: *разлік (з работнікам)* (далі Мартіну, дворнему, понеделшчыны, до порахунку)

**порывать**: *гвалтам забіраць, хапаць* (абы Адам і народ его до пекла порывалі)

**посвар**: *зачэпка да сваркі* (посвары, досады уймуюшчыі славы)

**потомный**: *які будзе потым* (в потомные часы)

**потычка**: *бойка* (не хочом той потычкі)

**похлебство**: *ліслівасць* (заказуется легкомыслное посужденіе, похлебство, і пліоткі)

**похотны**: *прагны* (Крешченіе похотное есть в той час колі кто ... хошчет Крестітіся ... і в такой похоте умрет без воднаго Крешченія)

**прамысьльны**: *хітры* (такая прашкуда прамысьльная)

**през**: *на працягу* (як тем през четыре десять днїй хвала бозкая за мою душу не уставала)

**прожнованіе**: *марнае баўленне часу, гультаяванне* (до нечыстоты прыводят вымыслы і не прыстойность в одежде, прожнованіе)

**просмевать**: *насміхацца* (ты таго не знаеш, ешчэ просмеваеш)

**прохаць**: *прасіць* (волочэбного прохаць)

**прывязаніе**: *прывязанасць* (з збытным прывязаніем)

**прыгода**: *здарэнне* (светом і всемі прыгодамі на нем будушчымі владеет)

**прыкрость**: *цяжкія абставіны, прыкрасць* (безчестія, і інныі прыкрості)

**прыможеніе**: *можнасць, магчымасць* (ялмужны даваті ведлуг прыможенія)

**прыпадок**: 1) *выпадак* (суть еднак два прыпадкі, в которыі волно поедінковаті); 2) *непрыемнае здарэнне, нядобрае становішча* (ты человече естес в прыпадку веліком)

**прыпадок телесный**: *хвароба цела* (жебы нас Бог от прыпадков телесных уволніл)

**прыпалый**: *належны, адпаведны* (він, урядові тамошнему прыпалых)

**прыпустіті, прыпушчаті**: *дапусціць* (прыпустіті до шлюбу; мілостівно его к себе прыпушчает)

**прыслуга**: *прыслужванне* (для твоёй прыслугі)

**прыслухатіся**: *слухаць у якасці сведак* (вас, которые есте тому прыслухалісе)

**прыставца**: *наглядчык* (прынялі жыта од Афанаса Сенковіча, прыставцы)

**прыступ**: *доступ* (до которых может меті прыступ)

**прытомность**: *прысутнасць* (в прытомності двох сведков)

**прытомный**: 1) *прысутны* (на кождом месцы прытомный); 2) *цяперашні* (і в прытомные часы жебы молітва божая не уставала)

**прыход**: *доступ* (дорогі до ніх немаш, ані жаднаго прыходу)

**прыхожы**: *не мясцовы чалавек* (любо мешчанін, альбо прыхожы)

**прычына**: *здольнасць прычыняць* (маеш в собе прычыны много)

**прышлый**: *будучы* (шчо нам на прышлый час потребно есть)

**прэволока**: *затрымка* (да ужо ж годе прэволокі)

**пушчатіся (в)**: *аддавацца (чамусьці)* (не пушчаяся в далшую звлоку)

**ра́деніе**: *клопат, кіраванне* (раденію церкве покорне поддаемся)

**радіті**: 1) *чыніць, упраўляцца* (гаразд не гаразд – што ж з тым радіті); 2) *засядаць на нарадзе* (прышло міні з вамі радіті); 3) *раіць* (заказует ... забойство радіті);

**радный**: *прыдатны, належны* (радный час до споткання)

**разлезтіся**: *разбегчыся* (як гэтые жэужыкі разлезуцьса)

**рачыть**: *учыніць ласку, дазволіць* (обороніті теж нас рачыл от всякаго зла)

**робіті**: *працаваць* (гды бы пан прымусіл подданого в день святый в полю робіті)

**рог**: *вугал* (дырок чворогранястых, по одной на рогу кождом)

**родство**: *разнавіднасць* (многіі суть родства цнот, в которых хрыстіанін цвечытіся повінен)

**рожаны**: *ружовы* (водкі рожаное кварта)

**розказ**: *загад* (подлуг розказу цехмістра)

**розказать**: *загадаць* (розказау князь Боровік)

**рынуть**: *рынуцца* (хутенько з неба на землю рынулі)

**самохотный**: *учынены з уласнай ахвоты* (самохотный учынок)

**сегосветный**: *з гэтага свету* (сегосветную светлосць)

**сказа**: *загана, хіба* (повінен ознайміті, ежелібы тая реч, которую продает, мела якую сказу)

**складанка**: *узнос* (до скрынкі брацкой всякія складанкі мает давать)

**складать** (штосьці на кімсьці): *даручаць* (Богу печаль оддаю, на нім жытье складаю)

**слюб, шлюб**: 1) *зарок* (егда учынены Богу слюбы ломім); 2) *шлюб* (верность малженскую, решчы слюб, обешчаті)

**смотреніе**: *провід* (наука о смотреніі божом)

**смысл**: *канал пачуццёвага ўспрымання* (потребно стеречы очый і іншых смыслов)

**спіж**: *бронза* (кованая з спіжу одна гаковніца)

**сподар, спадар**: *ветлы зварот (скарочана ад "господар")* (гдзе наш сподар; пастой, мой спадару)

**спорадіті, спорядіті**: 1) *спарадкаваць, вызначыць* (спорядівшы жебы взятое з землі тело, з землі походячымы зёлкамі лечылося); 2) *аформіць* (не могучы тестамент спорадіті правный);

**справованне**: 1) *вядзенне спраў* (на выправу до Вільня, на справованне); 2) *здзяйсненне* (в справованю учынков мілосердных);

**справовать**: 1) *устройваць, арганізоўваць* (нічого тепер не справіш); 2) *ажыццяўляць* (што найрыхлей мысль справуй);

**справоватіся**: *устройваць сваё жыццё/работу* (яко імамы справоватіся; мают ведлуг порядку звыш опісаного во всім ся справовать)

**спречный**: *які выпіраецца (правілам)* (еслі бы был который спречный)

**спроваженне**: *правядзенне, арганізацыя* (за спроваженне ексекуцыі)

**спусціць**: *паваліць (дрэва)* (аднаму сосну спусціць трэба)

**стать (на)**: *хапаць* (чы уже ж тобе на іных не стане)

**статься**: *стаць, зрабіцца* (гостем і пелгрымом сего света стался)

**стосоватіся (до)**: *прыстасоўвацца* (стосуючыся до выразное волі)

**стовчы, стоучы**: 1) *стаўчы* (тое все у можджеру стовчы); 2) *сцерці, уцяўшы* (стоук собе коленішчэ)

**стоплятіся**: *раставаць* (соль в воду се стопляет)

**страва**: *харчаванне, жыўленне* (на дорогу пану бурмістру Кузевце, до Шклова, на страву, далі)

**стравітіся (на)**: *засноўвацца, зажываць* (мел бы се тот день стравіті на речах которые належат ку Службе божой)

**стравоване**: *харчаванне, жыўленне* (былабы велікая крывда монастыреві, з такого непотребнаго стравованя)

**стравовать**: *карміць, жывіць* (выдал своімі грошмі, стравуючы коні і челядь)

**стягать**: *спрычыньваць, цягнуць за сабой* (такіі кары за собою стягают)

**схаб**: *свіная грудзінка* (схабы прыпекано)

**схажка**: *сход, збор* (на схажку прыходіть повінен будет)

**сход**: *сканчэнне, сход (тэрміна)* (пры сходе третттей чверті сего року)

**тачыць**: *спускаць, адсыпаць* (збожа тачыць учылі)

**товалня**: *ручнік* (товален по обрусах послаті две)

**торгнуться**: *лаяцца* (гды ся торгнул словы ушчыплівымі)

**точыть**: *ліць* (мы з очый слезы точемо)

**тручать**: *папіхаць* (аггел мя под бок тручает)

**убезпечыть**: *запэўніць, забяспечыць* (нас о прышлом воскресеніі убезпечыл)

**убер**: *аздоба* (на престол убер весь новый і чыстый хорошый)

**убрынуть что сірота: ***наіўна даць сябе абшукаць* (убрыла панна мнішка что сірота)

**уваженье**: *рэпутацыя* (есть цнотлівого уваженя человеком)

**уважны**: *паважаны* (пан уважны)

**уважать**: 1) *мець увагу* (бо кто правдіве уважает тые речы); 2) *прасачыць, высветліць* (на схажце уважыть мает, еслі есть способным до того ремесла)

**уварованесе**: *засцеражэнне* (для уварованяся покус, треба часто споведатіся)

**увароватіся**: *засцерагчыся* (бо мы не можем самі без ласкі Божой, непрыятеля нашего сатаны увароватіся покус)

**углясты**: *вуглаваты* (Евангелістов чтыры намалеваные, невелікіе, углястые, кліноватые)

**удаватіся (до)**: *займацца* (ані до таковых удаваліся)

**удома**: *удома* (я сынку сваяму удома усё трасу)

**узычать**: *надаваць* (тых лекарств сегосветным і обчым людем узычыл; хуць то людзіом узычю)

**уймоваті**: *адбіраць, шкодзіць* (честь уймоваті)

**укарать**: *пакараць* (грешныков укарает пеклом)

**укрывжоная сторона**: *пацярпелы* (справы задворныі, которыі албо себе вымовіл до своего суду епіскоп, албо которыі хошчет сторона укрывжоная, осужденны быті пред епіскопом)

**уломность**: *уразлівасць, уцятнасць* (з уломності в якій грех впал)

**умлеті**: *самлець* (падшы на землю умлела)

**упісатіся (до)**: *запісацца (у арганізацыю)* (также мает упісатіся до реестру)

**уподобаніе (в)**: *схільнасць, згода* (треба уважаті чы не імелісмо доброволного в ніх уподобанія)

**упор**: *упартасць* (з упором)

**ураза**: *крыўда, абраза* (желаніе помсты за лядаякую-колвек уразу)

**усілне**: *моцна, заўзята* (мает усілне старатіся)

**усмарованы**: *памазаны* (древом усмарованым в елей на концы)

**уставать**: *спыняцца, сканчацца* (жебы молітва божая не уставала)

**утекатіся**: *знаходзіць прытулак* (до его теды мілосердія утекайся)

**утрапленіе**: *цяжкія абставіны* (терпел велікіі нужды, утрапленія)

**утрыманіе**: *падтрыманне, спраўленне* (шчо нам до утрыманія нашего телеснаго і душевнаго жытья есть потребное)

**утрымоватіся (от)**: *устрымлівацца* (утрымуючыся от работ тяжкіх)

**участнік**: *удзельнік* (тепер сталемся участніком тела і Крові его)

**учашчаніе (на)**: *часты ўдзел у чымсьці* (учашчаніе на набоженство)

**учстівость**: *шанаванне* (абы в пошанованю і учстівості дні святыя зоставалі)

**учыніться**: *стаць, зрабіцца* (з мене мудры учынілся стрэлец)

**ушчаслівіть**: *учыніць шчаслівым* (дабы нас вечне ушчаслівіла)

**ушчыплівый**: *абразлівы* (гды ся торгнул словы ушчыплівымі)

**фукаті**: *лаяцца* (почав фукаті, мечем дмухаті)

**футровацъ**: *футраваць*; (перан.) *дапякаць, дацінаць* (футруюць мене вечором і ранком)

**хвіля**: *хвіліна, пара часу* (ку векопомной хвіле)

**хібать (термін)**: *прапускаць, не пільнаваць* (не хібаючы того терміну)

**хуть**: *жаданне, ахвота* (кгды будет сукрушеніе і хуть споведатісе)

**цырограф, церокграф**: *рукапісны дакумент* (кто што вінен мне на облікгі, і на церокграфы)

**частокроть**: *часта* (а до того частокроть трафляется)

**чворогранясты**: *чатырохгранны* (на табліцы у престола дырок чворогранястых)

**чыніть**: 1) *рабіць, здзяйсняць* (нікому зла не чыніш); 2) *пастанаўляць, вызначаць* (Я, Мікітій Подлобко, чыню тым моім тестаментом); 3) *складаць разам* (чыніт все талеров сто двадцат, што чыніт шелегамі)

**чыніть ведомо**: *паведамляць* (чыню ведомо тым моім лістом)

**чыніть голос**: *падаваць голас (на галасаванні)* (і жадных голосов не чыніл)

**чынность**: *здзяйсненне, працэс* (внутрніі нашыі чынності)

**шпіканард**: *лаванда* (престол потреба мыті водкою рожаною і шпіканардом)

**шпіталь**: *лякарня, шпіталь* (до шпіталев отданый быть мает)

**шчаслівость**: *стан шчасця* (долгое жытье і шчаслівость обешчана есть)

**шчо-колвек**: *што-кольвечы* (все шчо колвек до нечыстоты прыводіт)

**шчось**: *штосьці* (в кождой заповеді шчось прыказуется а шчось заказуется)

**шчырый**: *сапраўдны, рэчаісны* (душа ест шчырый Дух)

* * *

## Ужытая літаратура

Мальдзіс А.І. На скрыжаванні славянскіх традыцый. Літаратура Беларусі пераходнага перыяду (другая палавіна XVII–XVIII ст.). Мінск, 1980.

Беларуская літаратура XVIII–XIX стагоддзяў. Зборнік тэкстаў. / укл. Хаўстовіч М.В. Мінск, 2000.

Лісейчыкаў Д. “Руская” мова метрычных кніг уніяцкіх цэркваў Вялікага Княства Літоўскага ў XVII–XVIII стагоддзях. // Беларускі гістарычны часопіс. 2017, №6.

Описание рукописей Виленской Публичной библиотеки, церковно-славянских и русских. / сост. Ф. Добрянский. Вильна, 1882.

Корзо М.А. Украинская и белорусская катехетическая традиция конца XVI – XVIII вв.: становление, эволюция и проблема заимствований. Москва, 2007.

Getka J. Белорусский язык XVIII в. – исследовательские постулаты. // Studia Białorutenistyczne. 2018, №12.

Getka J. U progu modernizacji. Ruskojęzyczne drukarstwo bazyliańskie XVIII wieku. Warszawa, 2017.